

Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

18 ВЕРАСНЯ 1998 Г. № 38/3966 КОШТ 4 000 РУБ.

## ПРЭЗІДЭНТ — ПІСЬМЕННІКІ: ДЫЯЛОГ ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСІ

***У колах беларускай творчай інтэлігенцыі працягваецца актыўнае абмеркаванне зместу і вынікаў сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з членамі рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 5 жніўня гэтага года. У Адміністрацыі Прэзідэнта прынята рашэнне апублікаваць стэнаграму сустрэчы ў рэспубліканскай прэсе.***

**5, 10—15**

## ЗАЛАТЫ ВЕК ГРАФАМАНІІ

***Леанід ГАЛУБОВІЧ: "Мы рабілі тысячы аднолькавых помнікаў аднаму і таму ж чалавеку... Мы насілі аднолькавыя чырвоныя гальштукі і камсамольскія значкі... Мы чыталі аднолькавыя газеты і слухалі адны і тыя ж прамовы адных і тых жа людзей... Мы кіраваліся адным і тым жа — падчас амаральным — кодэксам жыцця будаўнікоў светлага будучага... Мы ўсе паступова рабіліся графаманамі".***

**6**

## ВЕРШЫ

***Ніны МАЦЯШ і Эдуарда АКУЛІНА***

**8—9**

## ТРЫ ІМПРЭСІІ

***Вольгі ЛАШКЕВІЧ***

**9**

## ІДУЧЫ ДА ІСЦІНЫ

***Валерый ЗАДАЛЯ: "Не верце, што на Беларусі не было "шасцідзесятнікаў". Мы можам ганарыцца і Аляксеем Карпюком, і Васілём Быкавым, і Алесем Адамовічам, і гродзенцам Барысам Клейнам".***

**16**





# Паспрыяць справе

***Год Адама Міцкевіча ў Беларусі блізіцца да заканчэння. Прынамсі, кульмінацыю ўжо адыгралі: 12 верасня ў Наваградку адбыліся адпаведныя ўрачыстасці. На галоўнай плошчы горада, адкуль рукою падаць да Замкавай гары, зладзілі эстраду, паставілі крэслы для ганаровых гасцей і кіёскі з напоямі, закускамі і іншым кірмашовым асартыментам для гасцей звычайных. З Мінска прыехала ўрадавая дэлегацыя, пісьменнікі, навукоўцы, журналісты. Былі ўрачыстыя прамовы з правільнымі словамі пра вялікага сына Навагрsucceededчыны, канцэрт мінскіх артыстаў і мясцовай самадзейнасці. А калі сцямнела, распачалася другая дзея імпрэзы — канцэрт на Замкавай гары.***



Зрэшты, свята прайшло так, як і планавалася ў Мінску, згодна звыклай рэжысуры і ў адпаведнасці са стэрэатыпамі савецкай пары. Маючы пад рукамі спіс гасцей і праграму канцэртаў, можна было б рабіць наваградскі рэпартаж, не выязджаючы з Мінска. Унікальнымі на гэтым свяце былі толькі "дэкарацыі" — наваградскія краявіды. Але, трэба сказаць, што іх сапсавалі "добраўпарадкаваннем". На жаль, у нас "добраўпарадкаванне" часта разумеюць прымітыўна: заліць асфальтам альбо бетонам і напаставіць асвятляльных слупоў. Бетон, зразумела, больш зручны, чым глеба, ад якой па вясне і восені бруд, а ўлетку — пыл.

*(Працяг на стар. 2)*



# КОЛА ДЗЁН

***Што зрабілі б вы, калі б сутыкнуліся з урачом, які ўсім хворым, незалежна ад таго, з якой хваробай прыйшоў да яго пацыент, выпісвае аднолькавыя рэцэпты, якія і насмарк, і рак, і СНІД лечыць, скажам, выключна аспірынам? Відаць, усумніліся б у яго кампетэнцыі і пашукалі б для сябе іншага лекара. Між тым, нешта падобнае адбываецца ў грамадска-палітычным жыцці нашай краіны. І калі падае беларускі рубель, і калі ўзнікаюць праблемы са збытам нашай некандыцыйнай прадукцыі, і калі затрымліваецца зарплата, і калі ў краме ў адны рукі даюць толькі адну буханку хлеба, беларусам прапаноўваюць праз дзяржаўныя СМІ адзін і той сродак — інтэграцыю. Як аспірын ад СНІДУ. Тут альбо нехта забыў сваю "клятву Гіпакрата", альбо "пацыенты" лепшага не вартыя...***

### ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

У Мінскім касцёле святых Сымона і Алены ўрачыста адкрылася бібліятэка імя Адама Міцкевіча. Яна перададзена сталіцы Рэспублікі Беларусь "сталіцай" польскай Беларусі — Беластокам. Выступаючы на цырымоніі адкрыцця, прафесар Адам Мальдзіс нагадаў, што гэтая бібліятэка з 6000 тамоў вярнулася на радзіму пасля 90 год блуканняў. Бібліятэка заснавана мінскай інтэлігенцыяй у 1908 годзе, а ў 1920-ым вывезена ў Польшчу як ваенны трафей. Сп. Мальдзіс выказаў спадзяванне, што з цягам часу побач з касцёлам святых Сымона і Алены, у скверы імя паэта, паўстане і помнік Адаму Міцкевічу.

### АБМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

У Мінску адноўлена дзеянне палажэння, у якім абгавораны нормы водпуску тавараў насельніцтву. Нарматыўны водпуск тавараў быў уведзены сталічнымі ўладамі яшчэ ў 1991 годзе, і з таго часу яго не адмянілі. Палажэнне было, так бы мовіць, "мёртвай літарай закона": юрыдычна — ёсць, фактычна — не дзейнічае. Цяпер "літара ажыла". Абмежаванні датычаць фактычна ўсіх харчовых тавараў. Вяртаемся ў СССР?

### "КАХАННЕ" ТЫДНЯ

Пачаўся чарговы тэатральны сезон у мінскіх "Віртуозаў сцэны". На працягу двух дзён — учора і сёння — у памяшканні сталічнага клуба імя Дзяржынскага ішоў спектакль па п'есе Дзмітрыя Псафаса "Дурное каханне". Гэтую камедыю, у якой адлюстравана тое, што сведчыць аб пэўных маральных крытэрыях у жыцці, паставіў рэжысёр з Масквы Яўгеній Валабоеў. А ролі выконваюць артысты са студыі кінаакцёра, Рускага тэатра імя М. Горкага, Нацыянальнага імя Янкі Купалы, а калі канкрэтней — Таццяна Булгакава, Аляксандр Бяспалы, Анатоль Кот, Вольга Сізова...

### НАСТАЛЬГІЯ ТЫДНЯ

"Настальгістам" па былым варта напомніць, што Савецкі Саюз не знік, ён існуе ў скарочаным, так бы мовіць, сціснутым варыянце ў Расійскай Федэрацыі, дзе трэць насельніцтва не рускія. Дык хіба сёння ў Расіі вырашана нацыянальнае пытанне? Нявырашана. Варта згадаць Чачню, Татарстан, Башкарстан, Дагестан і іншыя краіны, якія не маюць самастойнасці. Пра крызіс эканомікі няма і гаворкі, пра што сведчыць сённяшні фінансавы крызіс. Тыя ж праблемы, што і ў былым Савецкім Саюзе. Заўзятыя рэстаўратары былой звышдзяржавы няхай навядуць парадак у сваім скарочаным Саюзе, перш чым заклікаць да аднаўлення згнілага на корані кангламерата. Па ўсім бачна, што Расія можа мець і свае ўласныя Віскулі, калі народы не атрымаюць абяцанага палітычнага і эканамічнага самавызначэння.

*(Уладзімір Кулажанка, "Настальгія", "Народная Воля", 11 верасня)*

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

Сярэдняя працягласць жыцця беларускага мужчыны складае 62 гады. Гэта адно з апошніх месцаў у Еўропе.

### УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

У Мінску ўшанавана памяць ахвяраў блакады Ленінграда. Прадстаўнікі Усебеларускага саюза блакаднікаў Ленінграда ўсклалі вянкі да манумента Перамогі, было шэсце, быў канцэрт-рэквіем, выстава кніг і фатаграфій. У кінатэатры "Цэнтральны" адбыўся прагляд мастацкага фільма "Дзённыя зоркі".

### ДЫПЛОМ ТЫДНЯ

У мінскай лінгвістычнай гімназіі-каледжы ўведзены ў дзеянне дыплом міжнароднага ўзору для выпускнікоў, якія спецыялізуюцца ў галіне нямецкай мовы. Такі дыплом другой ступені дае права на паступленне ва універсітэты Германіі без экзамена па нямецкай мове.

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У час "перабудовы", калі ў Беларусі ўслед за карэнным народам пачалі "падымаць галаву" і нацыянальныя меншасці, лідэры беларускага руху папярэджвалі, што праблемы меншасцяў немагчыма вырашыць, ігнаруючы беларушчыну, супрацьстаўляючы, скажам, праблемы беларускіх палякаў і беларусаў. Так, зрэшты, і атрымалася... Сёння Саюз палякаў змагаецца за польскія школы, даўно абяцаныя ўладамі. Не стала беларускіх школ — узніклі праблемы і ў польскага школьніцтва. У Гародню прыбыла група дэпутатаў польскага сейма — прадстаўнікі парламенцкай камісіі па сувязях з палякамі замежжа. Падчас сустрэчы ў Генеральным консульстве Польшчы, у Саюзе палякаў Беларусі і ў аблвыканкаме мела месца гаворка і пра абавязкі Беларускай дзяржавы адносна сваіх нацыянальных меншасцяў.

### КАЗКА ТЫДНЯ

У "Народнай волі" за 16 верасня надрукаваны новы твор Васіля Быкава — "Хвастаты. Сучасная казка для дарослых". Гэта першы твор нашага славутага пісьменніка, напісаны за мяжою. У казцы дзейнічаюць Вусаты, Белабрысы і Хвастаты. Казка з жыцця пацукоў. "Затаіўшыся ў нары, Хвастаты марудна ачуньваў ад начных перажыванак і думаў, што цяпер яго галоўныя ворагі — яго ж суродзічы. Ён будзе іх бяэлітасна нішчыць ужо хаця б таму, што ён самы дужы. А ў каго сіла, у таго і праўда, хаця ніякая праўда яму не была патрэбна. Няхай праўду шукаюць слабакі. А над ім ёсць Вусаты. Ён яго Бог і праўда".

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

Летува мае намер "ратаваць" Калінінградскую вобласць. Пра гэта паведаміла БЕЛТА. Гуманітарная дапамога плануецца ў памеры 15 мільёнаў літаў. Кіраўніцтва краіны будзе спрыяць летувіскім прадпрымальнікам, якія працуюць у гэтым рэгіёне РФ. Гэта можна ў роўнай ступені разглядаць і як праяву дабрачыннасці, і як своеасаблівага імперыялізму. Бо вока на гэты аскепак Усходняй Прусіі летувісы паклалі даўно.

# Паспрыяць справе

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Але адна справа — Кастрычніцкая плошча ў Мінску, іншая — гістарычны цэнтр Навагрудка. Розныя маштабы патрабуюць рознага падыходу. Для Навагрудка болей падышла б класічная брукаванка, а не бетонная пліта. А тое, што бетонам залілі падножжа кургана Міцкевіча і сцежку ад падножжа да вяршыні, — увогуле недарэчнасць. Агрэсіўная шэрасць парушае гармонію зялёных пагоркаў, рэзка кантрастуе з маляўнічымі руінамі старажытнага замка. Да таго ж, наўрад ці хтосьці пралічваў экалагічныя наступствы "добраўпарадкавання". Цалкам верагодна, што курган Міцкевіча не вытрымае бетоннага цяжару, і неўзабаве яго давядзецца рэстаўраваць.



*Ганаровыя госці ў музеі Адама Міцкевіча.*

200-годдзе Адама Міцкевіча, хоць і мае статус нацыянальнага свята, супярэчыць афіцыйнай культурніцкай палітыцы. Міцкевіч — гэта не Пушкін, з якім "гордым внукам славян" усё зразумела. Міцкевіч, хоць і славянін (і нават у пэўным сэнсе яго можна лічыць прыхільнікам панславізму), але да Масквы і Расіі ставіўся без вялікай пашаны, меў у творчасці і палітычнай дзейнасці выразна заходнюю накіраванасць. Адам Міцкевіч не ўяўляў славянства па-за еўрапейскім кантэкстам. У той час, як сёння ў Беларусі (услед за Расіяй) на афіцыйным узроўні праводзіцца думка аб нейкай асобнай славянскай цывілізацыі, якую супрацьпастаўляюць Еўропе, Захаду ўвогуле. Не сумняваюся, што кіраўніцтва Беларусі доўга вагалася "адзначаць — не адзначаць", і калі адзначаць, дык якім чынам (галоўнае, не дай Божа, падыграць беларускім нацыяналістам, чый лозунг, як вядома, "Беларусь — у Еўропу").

Навагрудскія ўрачыстасці, на маю думку, нічога нам не дадалі да разумення спадчыны Адама Міцкевіча і яго ролі ў фармаванні беларускай ідэі. Галоўнай жа падзеяй года Міцкевіча стала новае выданне "Пана Тадэвуша" на трох мовах — беларускай, польскай і рускай. Бо першае выданне гэтага твора Міцкевіча з цудоўнымі ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча ўжо стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Дарэчы, новае выданне В. Шаранговіч дапоўніў новымі ілюстрацыямі. Варта дадаць, што трохмоўны "Пан Тадэвуш" пабачыў свет, дзякуючы не столькі клопату беларускай улады, колькі расійскім спонсарам.

Сёння наўрад ці мае сэнс ехаць у Навагрудак, каб падыхаць паветрам, якім калісь дыхаў вялікі паэт, прайсці па дарогах, па якіх хадзіў ён. Нават дом-музей Адама Міцкевіча, якім навагрудцы па праву ганарацца, не болей чым прафесійна зроблены муляж. І не дзіўна: нават найлепшы помнік не мае нічога агульнага з жывым чалавекам. З часоў Міцкевічавых Навагрудак непазнавальна змяніўся. Хутчэй за ўсё не пазнаў бы паэт і Свіцязь, і нават дакладна адбудаванае па старых планах і малюнках Завоссе. Не тое паветра, не тая зямля, не тая вада. Нават называецца сёння Міцкевічава Літва інакш — Беларуссю. Адно засталося ранейшым — людзі. Яны ў Навагрудку, ды і па ўсёй Беларусі такія ж, якімі Міцкевіч намаляваў іх у геніяльнай паэме пра "апошні наезд на Літве", у шляхецкай гісторыі 1811—1812 гадоў. Міцкевіч-палітык імкнуўся змяніць свет і людзей, Міцкевіч-паэт ведаў, што свет і людзі нязменныя, і чарада эпох — гэта толькі змена дэкарацый, а п'еса ўвесь час усё тая ж... У гэтай супярэчлівасці — трагізм і веліч Міцкевіча-чалавека.

Шлях Міцкевіча распачаўся ў Навагрудку, прайшоў праз Вільню і Коўну, Пецярбург, Рым, Парыж, скончыўся ў Канстанцінопалі. Пахаваны паэт у чужой зямлі. На радзіму вярнуўся легендай, міфам. На гэтым міфе мы маем магчымасць пабудаваць іншы, больш справядлівы свет. Прынамсі, паспрыяць гэтай справе...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## На радзіме ў паэта

***Паэт... калі ад Бога ён паэт,***
***Ад бацькаўшчыны роднае паходзіць,***
***І праз вякі для свету ён — сусвет,***
***Што ўжо казаць пра нейкія два стагоддзі...***
***Час, вока Свіцязі як ні прыжмур,***
***Якія ні ўздымі ў ім бровы-хвалі,***
***А стрэлы, што пакідаў тут Амур,***
***Напомняць, як Адама тут кахалі.***
***Яны і зараз носяць наўкол,***
***Бы напамін сягонняшняй мілосці.***
***Звіняць маланкі золатам падкоў,***
***Калі імчаць сюды з грамамі ў госці.***
***У нас, людзей, ціхманы больш прыезд.***
***Ад гэтага не менш сардэчны...***
***Ну чым не страдаўні сёння фэст?***
***А па вачах дык нават зорна-млечны.***
***Як добра, што Паэт яднае нас***
***І кідае нам яблык для спакусы —***
***Кахаць і шанаваць Айчыны Час***
***У спаконвечным краі беларусаў.***

**Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ**

## Падарунак выдавецтва "Полымя"

Да 200-х угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча беларускія кніжныя выдавецтвы падрыхтавалі шэраг падарункаў. Адметны сярод іх — зборнік "Санеты" Адама Міцкевіча, што пабачыў свет у выдавецтве "Полымя". У ім, як сказана ў анатацыі "сабраны ўсе санеты Адама Міцкевіча. Да тых, якія паэт выдаў у друкарні Маскоўскага універсітэта ў 1826 годзе, дадаліся яшчэ пяць, напісаных у розны час".

Дарэчы, санеты пададзены па-беларуску і на мове арыгінала — па-польску. Перакладалі творы Уладзімір Мархель і Ірына Багдановіч. Укладальнікам прыгожага, з густам афармленага зборніка (тыраж яго — 4500 экзэмпляраў) з'яўляецца вядомы літаратуразнаўца Уладзімір Мархель. Мастак — Анатоль Кажаноўскі.

**Мікола СЛАБАДСКІ**




## Адчуць балота босымі нагамі

7 верасня ў Доме дружбы адбылася творчая вечарына двух паэтаў: Гунтрама Фэспэра (Германія) і нашага Алеся Разанава. Спадар Фэспэр прыехаў да нас, каб пабачыць Палессе. Калісьці, шмат гадоў таму, ён упершыню пачуў гэтую геаграфічную назву і з таго часу нейкая незразумелая сіла цягнула яго да гэтай зямлі. Такую, прынамсі, матывацыю вандроўкі ў балота называе сам паэт. А потым яшчэ да вобраза Палесся дадаў пэўныя рысы Чарнобыль. Гунтраму Фэспэру хацелася пабачыць край, непадобны на іншыя; край, дзе захавалася адносна некранутая прырода і, магчыма, людзі, несапсаваныя бяздушнай урбанізацыяй.

Пра сябе сп. Фэспэр гаворыць як пра чалавека, які ў жыцці імкнецца пазбягаць канфліктаў, а творчасць разглядае як рэакцыю на супярэчлівасці свету і канфлікты ў грамадстве. Ён лічыць, што ў жыцці няма галоўнага і другаснага. Формулу творчасці ён вывеў са старажытнай "Бібліі", што здаўна захоўваецца ў ягоным сямействе. Далёкі продак Гунтрама Фэспэра ў XVII стагоддзі скарыстаў Свяшчэннае Пісанне як нататнік, запісваючы на палях, на што, калі і колькі ён аддаў грошай. Гаспадарчыя запісы побач з сакральным тэкстам нечакана набываюць новы сэнс. У нейкай ступені — таксама сакральны. Прачытанне тэксту залежыць ад кантэксту. Толькі ў кантэксце жыцця мы можам асэнсаваць той ці іншы эпізод.

З аэрапорта "Мінск-2" Гунтрам Фэспэр адразу, мінуючы Мінск, паехаў на Палессе. Па вяртанні ў Мінск адбылася прыгаданая вечарына. Вершы нямецкага паэта гучалі ў перакладах Алеся Разанава. А што пабачыў і адчуў сп. Фэспэр у беларускай глыбінцы, ён калі-небудзь, калі выспеюць думкі, распавядзе ў вершах.

Вечарыну ладзіў Мінскі Гётэ-цэнтр.

**П.В.**

## Мінуў год...

Мінуў год, як не стала Міхася Хведаравіча Раманюка. Да гадавіны з дня смерці быў прымеркаваны вечар памяці ў Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе выдатны навуковец шмат гадоў выкладаў на кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва. Вечар распачаўся праглядам фільма, знятага на памятнай выставе Міхася Раманюка ў Нацыянальным мастацкім музеі. У кадры — аўтар у атачэнні сваіх твораў. Ён ідзе па экспазіцыі, тлумачыць, разважае... Цяпер гэтыя кадры — гісторыя, а сам фільм — набытак гісторыі.

На вечары гучала музыка, вершы, студэнты акцёрскага аддзялення прачыталі мастацтвазнаўчыя тэксты, прысвечаныя Міхасю Хведаравічу. Было тое 3 верасня, а назаўтра калегі і сябры Міхася Раманюка наведалі ягоную магілу ў вёсцы Старынкі, што на Койданаўшчыне, усклалі кветкі да крыжа на ёй.

**НАШ КАР.**

ЧЫТАННІ

# Дзе беларускія Афіны?

Безумоўна, шмат якія з местаў хацелі б і мелі б за гонар называцца другімі Афінамі. Але, калі давяраць Элізе Ажэшцы, то прэрагатыва быць Афінамі (і не толькі беларускімі, але і ўвогуле — паўночнымі) належыць выключна мястэчку Ракаў. Сюды пісьменніца прыязджала ў жніўні 1908 г.

З гэтым прыездам была цікавая гісторыя. Э. Ажэшку, на той час ужо пісьменніцу ў зеніце еўрапейскай славы, запрасілі наведаць Мінск. Але на шляху да губернскага горада яна спынілася ў Ракаве, у людзей, з якімі перапісвалася і сябравала — у братоў Казіміра і Мар'яна Здзяхоўскіх (Казімір быў пісьменнікам-раманістам, а Мар'ян — адным з буйнейшых польскіх навукоўцаў першай паловы XX ст.). Госці так спадабаўся Ракаў, што яна засталася тут ажно на чатыры дні, а прыехаўшы потым у Мінск, пераехала толькі з вакзала на вакзал і вярнулася ў Гародню. Мінчукі пакрыўдзіліся, а ракаўцы запісалі сабе ў дыярыуш яшчэ адзін плюс.

Якраз вось гэтай паездцы і былі прысвечаны другія ракаўскія чытанні, якія прайшлі 10 верасня. За два гады, што мінулі з часу першых чытанняў, навуковая канферэнцыя набыла статус міжнароднай. І гэта добры і цікавы прэцэдэнт, калі мястэчка, нават не цэнтр раёна, праводзіць чытанні такогы ўзроўню. За гэта трэба сказаць дзякуй арганізатарам: прафесару Вячаславу Рагойшу і мясцовым ракаўскім ды валожынскім уладам у асобах спсп. Лукашэвіча і Малішэўскага.

Тэму канферэнцыі "Ракаўскія Паўночныя Афіны: Мар'ян Здзяхоўскі, Эліза Ажэшка і праблемы культурных кантактаў народаў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы" развівалі ў сваіх дакладах і паведамленнях даследчык літаратуры Язэп Янушкевіч, дырэктарка ракаўскай школы Ніна Каваленка, мастак Фелікс Янушкевіч, госці з Польшчы: навуковец Базыль Белаказовіч і перакладчык "Новай зямлі" на польскую мову Чэслаў Сенюх; навукоўцы Вячаслаў Рагойша, Таццяна Кабржыцкая, Эдвард Зайкоўскі, Уладзімір Конан, Пятро Рагойша і іншыя. Асаблівую цікавасць у ракаўцаў выклікаў прыезд англійскай паэткі і перакладчыцы, складальніцы анталогіі беларускай паэзіі на англійскай мове Веры Рыч. Сп. Вера адмыслова напісала акраверш "Ракаў", які потым не проста прачытала, але праспявала жыхарам мястэчка.

Пасля навуковай часткі і адкрыцця мемарыяльнай дошкі на тым месцы, дзе некалі быў дом Здзяхоўскіх, у якім і гасцявала польская пісьменніца, удзельнікі канферэнцыі мелі цікавую экскурсію па "паўночных Афінах" і іх ваколіцах. Магчыма, гэта дапамагло ўявіць, з якой прычыны Э. Ажэшка пісала пазней пра чатырохдзённую пабыўку ў Ракаве як пра "залатыя хвіліны" свайго жыцця.

**Аляксей ШЭІН**

ІМПРЭЗЫ

# Падзілі "будзінаўцы"...

У суботу, 12 верасня, у парку імя М. Горкага на пляцоўцы "Чоўнік" адбылася падзея, якую грэшна не заўважыць у плыні культурнага жыцця краіны. Гэта імпрэза "Бард-Бум-Бадзяга", арганізаваная маладзёжным культурніцкім аб'яднаннем "Будзіны" з удзелам Свабоднага студэнцкага прафсаюза "Салідарнасць", адметная і па назве, і па выступоўцах, якія бралі ў ёй удзел: барды спявалі ("Бард"), літаратары з "Бум-бам-літа" чыталі свае творы ("Бум"), а слухалі ўсё гэта звычайныя "бадзягі" — у літаральным і пераносным значэнні: ад заўсёдных удзельнікаў гэткага кшталту мерапрыемстваў да выпадковых наведнікаў, прываблёных такой дзіўнай на сённяшні дзень з'явай, як беларускамоўная бардаўская песня сярод белага дня ў цэнтры горада. Людзі насамрэч былі выпадковыя, іх ніхто нікуды не цягнуў — хтосьці ішоў з працы, нехта прызначыў спатканне на беразе Свіслачы, але, пачуўшы музыку, спыняліся, прыглядаліся, заставаліся і слухалі беларускія песні. Гэта сведчыць пра тое, што густы нашага насельніцтва зусім не скіраваны толькі на рускамоўную папсу, — проста, ніколі не чуўшы беларускае песні, немагчыма яе палюбіць, зацікавіцца ёй, пакінуць у сваім сэрцы.

Публіку цешылі як добра вядомыя сталічным аматарам барды (Зміцер Бартосік, Уладзімір Клімовіч), гэтак і не вельмі тут знаныя: своеасаблівым "наездам Магілёва на Мінск" можна назваць выступленне тамтэйшых бардаў Ігара Мухіна-Рабянка, Сержука Кулягіна, Паўла Пастухова і Васіля Аўраменкі. Асабліва спадабаўся выступ Ігара Мухіна-Рабянка. А доблесныя ахоўнікі парадку зрабілі асобную заўвагу арганізатарам канцэрта наконт "двухсэнсоўных выразаў", што прагучалі з вуснаў выступоўцаў (напэўна, мелі на ўвазе словы з песні Ігара Мухіна-Рабянка: "Спі, пі гарэлку, гуляй "Северо-западный край" і "нецэнзурная лексіка", якая, на думку міліцыянтаў, *прысутнічала ў песнях* Зміцера Бартосіка). Шкада, але што зробіш, калі міліцыя замест таго, каб змагацца з злачыннасцю, слухае песні і шукае ў іх крамолу, толькі з песні слоў не выкінеш.

Спевакоў "разбавілі" сябры "Бум-бам-літа". Выступалі Віктар Жыбуль — аўтар першай у беларускай літаратуры паліндрамічнай паэмы "Рогі гор", Ілля Сін, які ў сваім стылі зладзіў добры перфоменс, Алесь Туровіч, чый верш "Салодкая соль" зачаравана слухалі не толькі аматары сучаснай паэзіі, але і нейкі п'яны бомж, які спрабаваў патлумачыць паэту нешта толькі аднаму яму вядомае.

На заканчэнне да мікрафона выйшаў Зміцер Бартосік, ён добра падзавёў публіку, якая зусім неахвотна разыходзілася і здольная была яшчэ слухаць і слухаць, але, на жаль, час абмяжоўваў канцэртную праграму і роўна а восьмай гадзіне ўвечары імпрэза скончылася тройчы паўтораным купалаўскім воклічам "Жыве Беларусь!"

"Будзінаўцы" паабяцалі прадоўжыць бардаўскія канцэрты ў парку імя М. Горкага і зрабіць іх традыцыйнымі.

**Віктар МУХІН**

ДРУК

# Зірнуўшы на сучасную паэзію

Эпіграфам да гэтай кнігі ўзяты радкі Янкі Купалы:

***І ў белы дзень і ў чорну ноч***
***Я ўсцяж раблю агледзіны,***
***Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,***
***Ці трутнем ён не з'ездзены.***

А кніга так і называецца — "Агледзіны". І трэба сказаць, у нечым незвычайная: задумаў яе малады паэт з Баранавіч Алесь Бакач як свайго роду анталогію. Але не проста як анталогію, а анталогію аднаго верша. Прытым склаў яе з твораў, якія былі напісаны на працягу 1980—1995 гадоў. Наконт задумы ўкладальнік дае такое тлумачэнне ў невялічкім уступе "Паэтычны габелен": "З творчасці кожнага паэта я выбраў па адным вершы і знітаваў іх у паэтычны габелен, згодна з маім крытэрыем мастацкай творчасці". А ў выніку ў кнігу ўвайшлі творы больш за 170 аўтараў. Сярод іх шмат тых, чые імёны, як кажуць, на слыху, аднак ёсць нямала і такіх, чые творы нават на старонках перыёдыкі сустрэнеш зрэдку. Што ж, з густам не спрачаюцца. Як на маю думку, наконт апошняга са складальнікам усё ж можна паспрачацца. Бо чым яшчэ можна растлумачыць, што па невядомых прычынах (для самога А. Бакача яны вядомыя?) не трапіў у гэтую анталогію, для прыкладу, Янка Сіпакоў. Іван Данілавіч за 15 (пятнаццаць!) гадоў не напісаў нічога вартага ў галіне паэзіі?! Ёсць і іншыя, хто абыдзены ўвагай.

Тым не менш, у цэлым кніга адбылася. Гэткі ладны, прыгожа аформлены томік з каляровымі ўклейкамі, аўтарам якіх з'яўляецца мастак Юрый Хілько. Хочацца сказаць дзякуй "Беларускаму кнігазбору", які парупіўся, каб кніга пабачыла свет.

**А. М.**

# Доля праўды

Як бяжыць час, як мяняюцца плыні! "Рабочы і калгасніца" — нашы дзеці, мабыць, будуць рашаць гэтую тэму так: рабочы, які трымае ў руках дыню.

●

Гэта канон, а не выпадак: парадку патрэбен закон, а парушаюць закон, калі "наводзяць парадак".

●

Казаў певень: якія там шурымуры, дойдзе да кухні, дык усе мы куры — ці кураня "табака", ці "чахохбілі" з куры. А як будуць вызначаць час, калі куры не тое запяюць здуру, што пажарным рабіць з чырвонымі курыцамі? Неба абрушыцца, напэўна, як не заляюць пеўні. Мо каго вабяць, як каралеўны, грошай не клююць куры, ды калі выбіраць, дык выбірайце пеўняў, з імі не абдурыцеся!

●

— Праблема доўгажыхароў для нас не галоўная, але і з ёю спраўляюцца органы аховы здароўя. Не органы, кажаце, а пан Бог, дык хіба без бальніц і клінік ён бы дабіўся такіх вынікаў? Доўгажыхароў менее — такое наша дасягненне.

**Марцін КОЎЗКІ**

ВЫСТАВЫ

# Графіка літаратара

У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава графічных твораў Галіны Бяловай. Аўтарка — паэт і празаік, член Саюза пісьменнікаў Расіі. Выяўленчым мастацтвам займаецца нядаўна. Напрамак, да якога належыць яе выяўленчая творчасць, вызначыць даволі цяжка. Хутчэй за ўсё гэта спантанны экспрэсіянізм. У Г.Бяловай сваё разуменне касмічнасці, што ідзе ад яе літаратурнай творчасці. Стылёвыя прыярытэты пакуль не выяўлены — яна шукае, і сёе-тое з таго, што мы бачым на выставе, можна аднесці да знаходак, да ўласных вынаходніцтваў.

**П.В.**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

# "Радавод" працягваецца

Не толькі не збаўляе, а наадварот, набірае "абароты" гісторыка-краязнаўчы і літаратурны часопіс Брэстчыны "Радавод". Па-першае, на дваццаць працэнтаў павялічыўся яго наклад. Па-другое, яшчэ больш стала матэрыялаў і аўтараў. Напрыклад, Анатоль Бензярук падрабязна аналізуе прычыны гібелі Рэчы Паспалітай. Генадзь Прыбытка закранае некаторыя асаблівасці палітыкі канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі ў Брэсце. "Татары ў Заходняй Беларусі" — тэма артыкула Наталлі Галімавай. "Заходняя Беларусь у вайне 1812 года" — матэрыял А. Рабкова, аўтара з Гародні. Такім чынам, рэдкалегія прыцягвае да супрацоўніцтва не толькі берасцейскіх аўтараў, што з'яўляецца на сёння яшчэ адной уласцівасцю, якая ўзбагачае часопіс. Па-ранейшаму багаты літаратурны раздзел. Вершы Міколы Пракаповіча, Ніяны Загарэўскай, Мікалая Аляксандрава, пераклады з польскай мовы вершаў Яна Леанчука — сакратара Беластоцкага аддзялення Саюза польскіх пісьменнікаў. Пераклады літаратурных твораў суседзяў становяцца традыцыйнымі. У наступным нумары "Радавода" чытачы пазнаёмяцца з украінскай паэзіяй.

**Сымон АКСЕНІН**

# Фестываль паэзіі Марыі Канапніцкай

Мае статус міжнароднага і адбыўся ён у польскіх гарадах Пшэдбуш і Гуры Мокрай. Сёлета на фестывалі былі падстаўнікі з Германіі і Францыі, Швецыі і Даніі, Англіі і ЗША, Албаніі, краін Балтыі, Расіі, Украіны, Казахстана. Ад нашае краіны ўдзел бралі студэнты аддзялення "руская мова і літаратура, польская мова і літаратура" Берасцейскага універсітэта. Радасна ўсведамляць, што пераможцаю VII Міжнароднага фестывалю Марыі Канапніцкай сярод чытальнікаў узроставай групы ад 18 гадоў і старэй стала студэнтка-другакурсніца Вольга Кушнір. Пераможцы ўганараваны дыпломам першае ступені і грашовай прэміяй.

# Кніжка да юбілею

Да 200-годдзя Адама Міцкевіча няўрымслівы краязнаўца Берасцейшчыны Віталь Клімчук выдаў навукова-папулярную кніжку "...Жаль перестать быть литвином...", у якой разглядае творчасць класіка польскай і беларускай літаратур, прасочвае ягоныя жыццёвыя шляхі-дарогі.

Вокладку кнігі хораша аздабляе вядомы партрэт Адама Міцкевіча, які выкананы Л. Горавіцам і датуецца 1889 годам. У кнізе змешчаны літаграфіі родных і дарагіх паэту мясцін — хутара Завоссе, возера Свіцязь, сядзібы ў Туганавічах, павятовай дамініканскай школы ў Наваградку, Віленскага універсітэта, а таксама дарагіх яму людзей — бацькоў Мікалая Міцкевіча і Барбары Маеўскай, незабыўнай Марылі Верашчакі, а таксама самога юбіляра.

Застаецца дадаць, што кніга мае наклад дзве тысячы асобнікаў і яе выданне ажыццёўлена ўпраўленнем па друку мясцовага аблвыканкама.

**Уладзімір ТАРСЮК**

*МАГІЛЁЎ...*

# Узняўся белы храм...

На пачатку верасня ў Касцюковічах адкрылася новая царква Узвіжання Хрыстовага крыжа. *Такі храм у горадзе збіраў вернікаў яшчэ да рэвалюцыі.* Але быў разбураны. Цяпер на яго месцы сквер і могілкі воінаў, якія вызвалілі Касцюковічы ад фашысцкіх захопнікаў. Дарэчы, войскі нашы ўвайшлі ў горад 27 верасня 43-га, на свята Узвіжання Хрыстовага крыжа. Можа, гэтым самым Усявышні даў знак касцюкоўцам аб адраджэнні храма. І вось светлы Дом Хрыста адчыніў свае дзверы. Будаваўся ён меней года.

Ва ўрачыстасцях, прысвечаных вяртанню Крыжаўзвіжанскай царквы, прыняў удзел архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Максім, які асвяціў новы храм.

# Малойцы й маладзіцы з "Медуніцы"

Амаль дзесяць гадоў цвіце ў Магілёве "Медуніца". Гэты народны анасамбль прапагандуе беларускае народнае мастацтва. У яго рэпертуары музычна-песенны і танцавальны фальклор. "Медуніца" прапісана ў Палацы культуры магілёўскіх хімікаў. Арганізатар і пастаянны мастацкі кіраўнік ансамбля — *Валянціна Жук, якая паходзіць* з песеннага роду, вядомага на Асіпоўшчыне. Ансамбль з'яўляецца лаўрэатам усесаюзных і міжнародных фестываляў. Апошняя яго творчая перамога — на першым фестывалі народнага мастацтва "Беларусь — мая песня". "Медуніца" пабывала з канцэртамі ва ўсіх раёнах чарнобыльскай зоны Магілёўшчыны, а сродкі, якія яна выручыла за свой лазерны дыск, выпушчаны ў Германіі, *пералічыла* на набыццё медыкаментаў для дзяцей-чарнобыльцаў.

# Маюць мастакі свой магазін

Пасля доўгага перапынку ў горадзе на Дняпры па вул. Болдзіна зноў адчыніў свае дзверы салон-магазін Магілёўскага камбіната "Мастацтва" абласнога аддзялення Саюза мастакоў. Тут прадстаўлены не толькі лепшыя творы майстроў пэндзля, графікаў, але і народных мастакоў. У магазіне можна купіць карціны, гравюры, дэкаратыўную кераміку, вырабы з дрэва, металу, скуры, іншыя работы. Праз прадаўцоў можна заказаць у мастакоў альбо майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва той твор, які цікавіць.

# Каб не было тужлівай восені, ідуць жанчыны ў "Зносіны"

Дзесяць гадоў служыць людзям народны клуб "Зносіны", які адкрыўся пры Глускай цэнтральнай бібліятэцы як аматарскае аб'яднанне па інтарэсах. Гэтыя інтарэсы сабралі разам людзей, якія ўступілі ў восень свайго жыцця. Праграма "Зносін" — змястоўная. Сябры клуба сустракаліся са сваімі землякамі вядомым паэтам Сяргеем Грахоўскім і кампазітарам Валерыем Івановым. Усім запомніліся святочныя пасяджэнні клуба "Эх, калядачкі, бліны-ладачкі", "Мае гады — маё багацце", "Мы будзем праслаўляць жанчыну, чыё імя Маці", вечар "Пад гукі старадаўняга раманса", *конкурс "Ану, бабулі!"*...

Шмат робіць для адраджэння культурнай спадчыны на Глушчыне фальклорная група клуба. З дня заснавання "Зносінаў" і па сёння імі кіруе загадчыца аддзела раённай бібліятэкі Інна Кірына. У клубе больш трыццаці ўдзельнікаў, у небе восені жыцця якіх няма ні хмурынкі дрэннага настрою.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

# Новы рух: змена арыентацыі

**Зарэгістраваны новы грамадскі рух, які займеў назву хрысціянска-сацыяльнага. З гэтай нагоды ў Доме ветэрана адбылася прэс-канферэнцыя. Лідэр руху, вядомы як кіраўнік фонду "Дзецям Чарнобыля", Генадзь Грушавы выступіў з заявай, у якой гаварылася:**

**— З 1 верасня ўступіла ў дзеянне пастанова ўрада аб ліцэнзаванні гуманітарнай дзейнасці. Фонд адмаўляецца ўдзельнічаць у гэтым гандлі, бо сумленнем і дабрынёй гандляваць непрыстойна.**

**Пастанова, на думку Грушавога, пярэчыць Закону аб грамадскіх аб'яднаннях, таму на нейкі час усе дабрачынныя праграмы прыпыняюцца. Пераход да хрысціянска-сацыяльнай арыентацыі — з'ява не выпадковая, яна падрыхтавана ўсім папярэднім палітычным, парламенцкім, грамадскім вопытам. На першы план ставіцца не палітыка, а сацыяльнае адраджэнне. Філантропіі на сёння недастаткова, людзям трэба самім мяняць умовы свайго жыцця.**

**Хрысціянска-сацыяльны рух будзе абапірацца на маральныя і культурныя каштоўнасці хрысціянства дзеля грамадскага прагрэсу.**

**У новы рух увойдуць асобныя структуры хрысціянска-дэмакратычнай партыі: у прыватнасці, мінская гарадская і некалькі віцебскіх арганізацый, а таксама Беларускі форум жанчын (кіраўнік Г. Кавальчук) і Маладзёжны хрысціянска-сацыяльны саюз (кіраўнік К. Ігнацік).**

**Адказваючы на пытанні журналістаў, лідэр руху не стаў гаварыць пра палітыку і будучыя выбары, адно канстатаваў "асцярожныя кантакты" з хрысціянскімі дэмакратамі Захаду. Фонд будзе займацца адукацыйнай і інфармацыйнай работай, а найбольш — канкрэтнай сацыяльнай дзейнасцю.**

**Г.З.**

# "Я маю права"

**Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!**

**Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека". З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс "Я маю права", да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8—11 класаў.**

**Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць ваша разуменне ролі "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой вы бачыце сваю радзіму ў XXI стагоддзі? Што вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць дляператварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітой нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаны ўсе правы чалавека? (Калі вы не знаёмы з тэкстам "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт.)**

**Для сваёй конкурснай працы вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўка, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: ваша праца павінна быць напісана па-беларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.**

**Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экземплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на камп'ютэры або ў рукапісе.**

**Тэрмін дасылання — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адраса, просім паведамляць і нумар вашага тэлефона.**

**Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.**

**Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваны.**

**Конкурсныя працы дасылаць на адрас:**

**Беларускі Хельсінкскі камітэт, вул. К. Лібкнехта, 68, пакой 1201, Мінск 220036. З паметкай: НА КОНКУРС. Тэл. для даведак (017) 222 4800**

ДАСЛОЎНА

**Галоўнаму рэдактару газеты "Літаратура і мастацтва" Някляеву У.П.**

**Шаноўны Уладзімір Пракопавіч!**

**Прашу Вас надрукаваць маю рэпліку. Мне лёгка звяртацца да Вас, бо Вы былі ўдзельнікам гэтай самай прэс-канферэнцыі і самі чулі маё выступленне. Лічу, што нам, пісьменнікам, трэба часцей бараніць сваё імя, не сварыцца, не высвятляць адносіны, аднак жа не дазваляць абліваць сябе брудам. Ад добрага імя кожнага ўрэшце залежыць аўтарытэт усяго пісьменніцкага саюза.**

**З павагай Г. МАРЧУК**

# Асцярожна — атрута!

## ДА КАНФЛІКТУ ПІСЬМЕННІКА ГЕОРГІЯ МАРЧУКА І ГАЗЕТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ"

Никто не может подвергаться произвольным посягательствам на его честь и репутацию.

*Из статьи 12 Всеобщей Декларации прав человека.*

Меў рацыю мой дзед, калі павучаў мяне, што хлусня, злоба, нянавісць, абраза — не маюць межаў. Я карэктна сваёй рэплікай у "Народнай газеце" ад 15 жніўня папракнуў карэспандэнта "Народнай Волі" А. Драбчука аб ягоным скажэнні сэнсу майго выступлення на прэс-канферэнцыі. Чаму? Таму што, як чалавек і пісьменнік заўсёды бараніў і буду бараніць у жыцці і ў сваіх творах сумленне, справядлівасць і праўду. І нічога болей.

І раптам у сваім адказе ўжо на маю рэпліку галоўны рэдактар "Народнай Волі" І. Сярэдзіч (калі матэрыял не падпісаны, так разумею, што за яго адказвае галоўны рэдактар, заснавальнік, "хозяин газеты") перавёў з плоскасці журналісцкай этыкі ўсё ў плоскасць працэсуальна-крымінальнага кодэкса, адкрыта, нахабна зневажаючы маю пісьменніцкую, чалавечую, грамадзянскую годнасць, абліўшы мяне брудам і абняславіўшы на ўвесь белы свет.

Тут усё адразу: паклёп, здзек, абраза і знявага. Усё знойдзеш, паважаны чытач, у артыкуле "Чаму Георгій Марчук сам скажае свае словы" ("Народная Воля" ад 26 жніўня).

З дзяцінства не ўмею я быць рабом чужой волі, ніколі і нікому не дазваляў зневажаць сябе. Таму і бараніць сваё імя буду паўсюдна, рознымі метадамі. Заўважце, І. Сярэдзіч наўмысна не бярэ сабе ў памочнікі пераказ карэспандэнта газеты "Белоруссия" ад 11 жніўня А. Аўруціна. У гэтай газеце даецца праўдзівы пераказ пачатку майго выступлення. Выходзячы за рамкі майго канфлікту, часам думаю: "Эх ты, смелая, баявая, супераб'ектыўная апазіцыйная прэса"! І наша, і расійская. Часам рознае гаворыш і пра беларускую мову, і пра Быкава, і пра Распуціна, і пра духоўнасць, і пра прапаганду беларускай кнігі... Нічога не цікава. Маўчанне. Не такая канцэпцыя. Няма чалавеканенавісніцкай крытыкі ўладаў. Чытаеш розныя газеты і бачыш, што гуляюць са старонкі на старонку адны і тыя ж словы: "расейскі імперыялізм", "чырвона-карычневыя", "таталітарны рэжым", "дыктатура". Хоць бы які новы набор слоў. Ніводнага станоўчага слова пра справы ўрада і адміністрацыі. Што б не прапанавалі, што б не рабілі — усё дрэнна, усё апашляецца. Нібыта выконваюць запаветы сейбітаў грамадзянскай вайны: падтрымліваць у народзе незадаволенасць усім пастаянна, незадаволенасць перарасце ў крытыку, крытыку падтрымліваць пастаянна, яна перарасце ў жорсткасць, а жорсткасць народзіць бунт і насілле.

У такой прэсе можна прачытаць, што твой народ "быдла, прастытутка, электарат, які толькі і ведае, што пісаць у пад'ездах". Бывае, канешне, і інтэлектуальная апазіцыйная прэса, тактоўная, іранічная, якая не кідае ў грамадства зерне нянавісці, не страўлівае людзей розных перакананняў. У нас, на мой погляд, гэта "Свободные новости", "Белоруссия".

Хіба ж я выкрэсліў?

Не ведаю як ты, а я жыву ў сваёй краіне дэмакратычна і свабодна. Хіба ж не я на гэтым з'ездзе першым кінуў папрок адміністрацыі прэзідэнта, чаму, маўляў, перад з'ездам не далі ганаровае званне народных пісьменнікаў магутным празаікам зямлі беларускай І. Пташнікаву і В. Адамчыку? Хочацца вам даведацца, што я думаю аб палітыцы прэзідэнта, урада, дык прыдзіце, вазьміце інтэрв'ю і я сам скажу, што мяне радуе, а што засмучвае. Што вы за мяне вырашаеце?

Чытаем паклёп далей:

"Калі "Народная газета" сапраўды паважае сваіх чытачоў і прэзідэнта, яна павінна выправіць памылку. Думаем, што і акружэнню прэзідэнта таксама карысней аб'ектыўная інфармацыя. У тым ліку і пра тых, хто пры сустрэчы гаворыць адно, а за вочы — іншае".

Жахліва. Нібыта патрапілі мы з табой, чытач, у трыццатыя гады татальных даносаў.

Але вернемся да І. Сярэдзіча, які апошнюю частку свайго пасквіля прысвяціў ужо не маёй рэпліцы, а мне, як чалавеку і дырэктару дзяржаўнага выдавецтва, пісьменніку. Вырашыў у нянавісці сваёй — прыпаяць мяне, як кажуць, на ўсю катушку, каб і ўнукам наказаў баяцца І. Сярэдзіча.

Вось цытаты:

"Сам Марчук не дачувае, альбо ў яго нейкія праблемы з памяццю". Прыпісвае мне непаўнацэннасць і маразм.

Чытаем далей:

"Нам здаецца, шаноўны пісьменнік, які з'яўляецца дырэктарам дзяржаўнага выдавецтва "Мастацкая літаратура", знаходзіцца ў палоне страху перад высокім начальствам: што яно падумае пра яго выказванне?"

Такі вывад, згадзіцеся, сведчыць аб псіхічным стане чалавека, аб захворванні душы, бо знаходзячыся пад страхам перад высокім начальствам, я за два гады свайго дырэктарства мусіў бы не адзін раз звяртацца да дактароў з прычыны фобіі, дэпрэсіі, жаху, бяссонніцы. Калі ў мяне, па І. Сярэдзічу, такі страх, дык я мусіў бы ў кожным выступленні пець дыфірамбы ўладзе, хваліць яе паўсюдна ўзахлёб. Дзе, калі, у якой газеце вы чыталі мае выказванні на гэтую тэму? Які доктар вам сказаў, што ў Марчука страхафобія перад начальствам? Хто паставіў дыягназ? Назавіце?! Калі я, як вы на ўсю Еўропу заяўляеце, баюся высокага начальства, чаго тады выдаю, як дырэктар, кнігі Ул. Арлова ("Рэквіем для бензапілы", сакавік 1998 года), Н. Гілевіча (І том, 1996 год), Р. Барадуліна (1 том, 1996 год, ІІ том, верасень 1998 года), Г. Бураўкіна (кніга ў друкарні) — кнігі вашых актыўных аўтараў, якіх прынята лічыць апазіцыянерамі.

Што ж вы выстаўляеце перад шматлікімі прыхільнікамі маёй творчасці мяне як блыху, пясчынку, труса, які ад страху забіўся ў куток?!

Яшчэ прыклад. Мы выпусцілі ў 1996 годзе кнігу вершаў надзвычай таленавітых трынаццацігадовых паэтаў Д. Старавойтава-Юрчанкі і В. Куставай. Дык апошняя прысвяціла адзін са сваіх вершаў мастаку-апазіцыянеру. Адразу двух зайцаў "забіў" І. Сярэдзіч. Дабанаў газету, якая надрукавала маю рэпліку. Каб жа вы ведалі, што намеснік галоўнага рэдактара В. Драздоў адгаворваў мяне, не хацеў друкаваць, раіў пайсці да вас. Зла на вас яны не трымаюць. Сведчу.

Вяртаюся да цытаты. Як бачна, І. Сярэдзіч адразу ад нелюбові да прэзідэнта перайшоў да лаяльнасці. Раіць акружэнню: асцярожна, Марчук ненадзейны, "неблагонадежен". Думае адно, а гаворыць — іншае. Ату яго! Ату! Відаць і рукі паціраеце ад задавальнення: от прыгваздзіў, адным сказам з работы зняў!

Падбухторшчык, няўжо вы не ведаеце, дырэктар я ці не дырэктар, а творы мае — і раман "Кветкі правінцыі", і кніга "Казкі", і кніга навел "Хаос" — грунтоўна і надзейна ўпісаны ў гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя (чытайце крытыку, школьныя праграмы). Не пасада кіруе натхненнем, а душа. Я пісаў свае раманы пры Машэраве, пры Кебічу, пры сённяшняй уладзе, дасць Бог, буду пісаць і далей. Што ж ты лепіш з мяне вобраз двурушніка і крывадушніка?

Дзед мой наказваў мне "крыўду, абразу, якую беспадстаўна нанёс табе крыўдзіцель, абняславіўшы цябе на ўвесь свет, помніць да канца дзён крыўдзіцеля. Умыснаму зласліўцу няма даравання. Барані свой гонар і праўду". Я шаную дзедаў запавет, таму пакідаю за сабой права далейшых дзеянняў, права звярнуцца ў суд па абарону гонару і годнасці і рэпутацыі.

Чытач мой, дарагі дружа, калі патрапіць табе ў рукі чарговы нумар "Народнай Волі", на вер на слова, правярай кожную лічбу, кожны факт, умей усё параўноўваць. Няхай мой прыклад будзе для вас навукай. Даруйце мне мае землякі давыдгарадчукі, бо зганьбіўшы мяне, І. Сярэдзіч зганьбіў і вас у нейкай ступені, я ж крывінка ваша.

Да кропак над "і". І. Сярэдзіч, яшчэ далёка. Чакайма!

**Георгій Марчук**

**Пісьменнік. Дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура"**

# "Шляхам Міцкевіча і Пушкіна"

Міжнародны дзіцяча-юнацкі цэнтр "Эквадыян" сёлета праводзіць экспедыцыю "Шляхам Міцкевіча і Пушкіна". Удзельнікі яго пачалі з Масквы — месца, дзе ўпершыню адбылася сустрэча сяброў-паэтаў. У салон Зінаіды Валконскай, праўда, не трапілі, але праграма знаходжання ў Маскве дзякуючы маскоўскай мэрыі і найперш камітэту па адукацыі Цэнтральнай акругі сталіцы Расійскай Федэрацыі была выдатнай. Вучні сустрэліся з равеснікамі трох брацкіх славянскіх народаў (масквічы, акрамя нас, прымалі яшчэ севастопальцаў). Былі міцкевічаўскія чытанні, былі песні пад гітару кіраўніка цэнтра Яўгеніі Марозавай.

Яшчэ ў лютым на традыцыйным зборы турыстаў Мінскай вобласці ў Азярыцка-Слабодскай школе адбылася, як цяпер модна гаварыць, прэзентацыя праграмы "Шляхам Міцкевіча і Пушкіна". Праграма ўключана ў рэспубліканскі план правядзення года Міцкевіча і года Пушкіна. Дзякуючы гэтаму стала магчымай наша экспедыцыя па Крыме, адкуль толькі што вярнуліся беларускія школьнікі. Да яе многія месяцы вялася паддрыхтоўка. Тыя, каму пашчасціла "адпачыць" на Чорным моры, ведалі напамяць не менш, чым па 15 вершаў двух паэтаў. У "Артэку" дзяцей ветла сустрэлі летнікі "Лясны" і "Палявы". Пасланцам Беларусі былі ўручаны ўзнагароды "за папулярызацыю творчасці А. Міцкевіча і А. Пушкіна". Яны аздабляюць зробленую па выніках экспедыцыі выставу. З гэтай выставай эквадыянаўцы праедуць па школах рэспублікі...

Хочацца згадаць тых, што дапамаглі (фінансава) здзейсніць падарожжа ў Крым. Гэта найперш Алена Шабаліна і ўвесь Дзяржкамітэт па справах моладзі і Смалявіцкі РЦДЮТЭ сумесна з Рэспубліканскім фондам па аздараўленні. Немагчыма ўсё было б без дапамогі роднага Міністэрства адукацыі (Я. Міхнюк) і асабістага распараджэння У. Заматаліна. Дзякуй усім ім ад імя дзяцей. У нас добрая памяць — аддзячым справамі.

Мяркуем у бліжэйшы час зрабіць вандроўкі па краінах Прыбалтыкі, а на зімовых канікулах — пакланіцца магіле пана Адама ў Кракаве. Калі хто хацеў бы зрабіць добрую справу і дапамагчы дзецям папулярызаваць творчасць двух славянскіх геніяў — просім звяртацца ў Азярыцкую Слабаду, што ля Кургана Славы пад Мінскам. Можна і патэлефанаваць: 8-01776-43667.

**Мікола ІГНАЦІК**

*Фота А. ПРУПАСА*



# Прэзідэнт — пісьменнікі: дыялог дзеля Беларусі

## СТЭНАГРАМА СУСТРЭЧЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р.ЛУКАШЭНКІ З ЧЛЕНАМІ РАДЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ 5 жніўня 1998 г.

***У колах беларускай творчай інтэлігенцыі працягваецца актыўнае абмеркаванне зместу і вынікаў сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 5 жніўня гэтага года. У Адміністрацыю Прэзідэнта паступаюць пісьмы, у якіх выкладаюцца розныя меркаванні, што датычаць як самой сустрэчы, так і стану спраў у пісьменніцкім цэху, у цэлым на ніве беларускай культуры. Змест пісьмаў паказвае, што не ўсе з тых, хто мае адносіны да літаратуры, беларускай мовы і культуры, належным чынам інфармаваны аб ходзе сустрэчы і змесце размовы пісьменнікаў з кіраўніком дзяржавы. Таму, а таксама з улікам просьбаў, якія змяшчаюцца ў пісьмах, у Адміністрацыі Прэзідэнта прынята рашэнне апублікаваць стэнаграму сустрэчы ў рэспубліканскай прэсе.***

**А.Р.Лукашэнка:** Дзякую вам за тое, што вы прыйшлі да мяне ў рэзідэнцыю - абмеркаваць асноўныя праблемы, якія стаяць сёння перад намі. Самая галоўная мэта, якую я асабіста маю на увазе ад гэтай сустрэчы, - гэта перш за ўсё паслухаць вас. Я палічыў бы за лепшае наогул нічога не гаварыць, пакуль вы не выкажаце свой пункт гледжання, меркаванні, пажаданні.

Тут сёння сабраліся ўсе тыя, ад каго залежыць вырашэнне тых або іншых праблем, якія стаяць перад Саюзам пісьменнікаў і дзяржавай. У гэтым саставе мы ўпаўнаважаны вырашаць любыя пытанні, якія будуць агучаны. Такім чынам, ёсць з кім гаварыць, і я думаю, ёсць аб чым гаварыць на гэтым прадстаўнічым сходзе.

Перш за ўсё я хацеў бы павіншаваць усіх вас, каму наша пісьменніцкая арганізацыя, нашы пісьменнікі даверылі каардынацыю дзеянняў і кіраўніцтва гэтым творчым Саюзам. Я маю на ўвазе ваша выбранне ў Раду на нядаўна праведзеным з'ездзе. Гэта вельмі вялікі давер на пераломным этапе.

Па-другое, я хацеў бы разабрацца ў працэсах і тэндэнцыях, якія вызначаюць развіццё нашага Саюза пісьменнікаў.

Хачу зрабіць усяго адну папярэднюю заўвагу аб крытэрыі нашых узаемаадносін на перспектыву ды і аб крытэрыі нашай сённяшняй размовы. Крытэрый адзін - народ і яго воля. Калі хтосьці лічыць, што гэта вельмі напышліва, ён глыбока памыляецца. Воля народа, народ былі і будуць для мяне заўсёды вызначальнымі, таму што народ выбраў мяне прэзідэнтам.

Пры падрыхтоўцы да гэтай сустрэчы я дастаў сваю праграму кандыдата ў прэзідэнты. Ведаючы, што пісьменнікі па-рознаму ставяцца да курсу прэзідэнта, я яшчэ раз зазірнуў у гэту невялікую кніжку: ці не парушыў я таго, што абяцаў? Не, не парушыў. І я буду прытрымлівацца той пазіцыі, аб якой я заяўляў на прэзідэнцкіх выбарах. Гэту пазіцыю падтрымала пераважная большасць нашага народа. Ведаю, што і сярод пісьменнікаў ёсць тыя, хто падтрымаў гэту пазіцыю.

Прыхільнікаў у прэзідэнта, хоць час у нас складаны, іншы раз цяжкі, не паменела, а прыбавілася. І ў мяне ёсць апошнія даволі надзейныя сацыялагічныя даследаванні, якія сведчаць аб тым, што колькасць прыхільнікаў павялічылася перш за ўсё за кошт інтэлігенцыі, у тым ліку і пісьменнікаў. Зразумела, курс прэзідэнта і яго пазіцыю падзяляюць не ўсе члены пісьменніцкага калектыву. Але за чатыры гады я нікому наконт гэтага ніякіх прэтэнзій не прад'яўляў, нікому не спрабаваў загадаць: ідзіце вось гэтым курсам.

Якім курсам ісці - гэта ваша справа. Вы людзі творчыя. Пісьменніка нельга прымусіць пісаць аб тым, чаго ён не хоча. Я гэта цудоўна разумею. Але хачу сказаць вам абсалютна шчыра, гэта чуюць журналісты, якія прысутнічаюць, - аб падтрымцы пісьменнікаў з боку прэзідэнта. Тут крытэрый адзін, і сакрэтаў у мяне няма: падтрымка з боку дзяржавы, улады і прэзідэнта вам будзе забяспечана на прынцыпах узаемнасці. Гэта не значыць, што трэба пісаць пра мяне толькі добрае або хваліць мой курс і мяне. Зусім не. Але пісьменнікаў, якія ў карычневай прэсе заклікаюць да забойства прэзідэнта, прэзідэнт падтрымліваць, вядома ж, не будзе. Праўда, і нападаць на іх не будзе, клапоцячыся аб сваім аўтарытэце.

Літаратура - гэта вялікая палітыка. Пісьменнікі - гэта вялікія палітыкі. Але я вельмі хацеў бы, каб вы сваю палітыку рабілі не на вуліцах, не крыкам і гвалтам, а пяром. У вас вельмі моцная зброя. І я хачу, каб гэта зброя прымянялася на карысць народа і нашай дзяржавы. Будзеце падтрымліваць дзяржаву, дзяржава ніколі вас не адштурхне і заўсёды падтрымае. Пакуль яна, дарэчы, нягледзячы ні на што, вас заўсёды падтрымлівае.

Вы прапанавалі варыянт сённяшняй нарады. Я згодны, каб яна была рабочай нарадай. Першым выступіць, як вы і просіце, кіраўнік нашага пісьменніцкага калектыву Уладзімір Някляеў, а потым усе жадаючыя. Насупраць вас за сталом - дзяржаўныя служачыя, якія вам дапамагаюць, вырашаюць вашы пытанні: друкуюць кнігі, распаўсюджваюць і чытаюць іх. Яны адразу ж могуць адказаць на пастаўленыя пытанні. Калі няма пярэчанняў, возьмемся за справу. Пачнём з вашага старшыні. Прашу. 20 хвілін.

**У.П.Някляеў, старшыня Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў:** Паважаны прэзідэнт, перш за ўсё дзякую Вам за тое, што займелі жаданне, знайшлі магчымасць і час для сустрэчы з членамі Рады Саюза пісьменнікаў, абранай на дванаццатым з'ездзе беларускіх літаратараў.





У сувязі з інфармацыяй у друку аб нейкім пасяджэнні Рады, на якім нібыта абмяркоўвалася пытанне, ісці ці не ісці на сённяшнюю сустрэчу, адразу даводжу да ведама журналістаў, што нічога падобнага не было, як не было ніякіх персанальных адмоў ад удзелу ў гэтым дыялогу.

Сітуацыя ў пісьменніцкай арганізацыі перад з'ездам і на з'ездзе была даволі няпростай. Мелася пагроза расколу літаратурнай суполкі па палітычных меркаваннях, што адбылося практычна ва ўсіх нашых былых братніх рэспубліках. Аднак нам гэтай небяспекі ўдалося пазбегнуць, захаваць цэласнасць творчага саюза, што і з'яўляецца па сутнасці асноўным вынікам работы з'езда.

Калі б сталася інакш і пісьменніцкі саюз распаўся, дык я асабіста з цяжкасцю ўяўляю, з кім і на якіх падставах і прынцыпах адбывалася б у прэзідэнта гэта сустрэча і ці адбылася б яна наогул?

Спадзяюся, Аляксандр Рыгоравіч, што няма патрэбы пераконваць ні Вас, ні сябе, ні ўсіх тут прысутных у першынстве літаратуры сярод іншых мастацтваў, распавядаць пра яе значнасць у духоўным жыцці і развіцці чалавецтва, нацыі, кожнай асобнай чалавечай душы.

Напачатку было Слова, сказана ў Святым пісанні, напачатку застаецца яно і сёння пры ўсіх тэхналагічных дасягненнях цывілізацыі. А што датычыцца славянскіх краін, прынамсі Беларусі, дык тут роля слова і літаратуры наогул выключная. І зусім невыпадкова тое, што менавіта тут, у нас, з'явіліся першыя ўсходнеславянскія друкары-асветнікі, з'явілася напісаная пераважна беларускім дзеясловам "Слова пра паход Ігаравы", з'явілася напісаная па-беларуску ці не найлепшая еўрапейская канстытуцыя і многае іншае, што з'яўляецца агульначалавечым духоўным здабыткам і нашым нацыянальным гонарам.

Не ўсё зараз у нашым літаратурным жыцці гэтак кепска, як некаму здаецца, ці іншым разам проста хочацца, каб яно выглядала як найгорш. Дзяржава не кінула нацыянальную літаратуру на вольны рынак. Пры яе падтрымцы, хай не ў тых аб'ёмах, як раней, але выдаюцца кнігі, выходзяць літаратурна-мастацкія газеты і часопісы. Не заўсёды, на жаль, яны трапляюць да тых, для каго і дзеля каго ствараюцца. У глыбінцы беларускія выданні часам днём з агнём не знайсці, але гэта ўжо на сумленні службовых асоб, якія павінны былі б мецць пра сваю службу адпаведны клопат. Незаўважна хіба што для іх ды яшчэ для тых, хто быў бы не супраць наладзіць ціхае адпяванне беларускай літаратуры, у ёй падымаюцца новыя, моцныя, вельмі таленавітыя сілы. У нас узнікае, узнікла ўжо якасна новая літаратура.

Для мастака, які арганічна пачувае сябе, працуючы ў аўры нацыянальнай культуры, ніякі агульны адказ пра далейшы лёс не мае ніякага сэнсу, зместу без адказаў пра лёс нацыянальнай мовы, ідэі, свядомасці, наогул беларушчыны. Можна колькі заўгодна разважаць пра перавагі адной мовы над другой, нечай культуры над іншай, але па-за тэкстам роднай мовы, па-за тэкстам айчыннай культуры, нацыянальны мастак пазбаўляецца сваёй сутнасці. Змірыцца з гэтым ён не тое што можа ці не можа, хоча ці не хоча, а проста няздольны. Менавіта з адчування магчымай страты сваёй сутнасці, сэнсу свайго існавання і вынікае непрыманне нацыянальнай інтэлігенцыяй дазіровак беларускага на Беларусі, скіраваных да таго ж на змяншэнне.

Паважаны прэзідэнт, кожны з прысутных тут членаў Рады, кожны пісьменнік, спадзяюся, разумее, што ёсць дарогі, па якіх, калі ўжо рушыў, дык нельга ні спыніцца, ні сысці, ні збочыць, трэба прайсці іх да канца. Вы ўвайшлі ў вялікую палітыку, і было б смешна і наіўна патрабаваць ад Вас задаволіцца меншым, а не большым з таго, што ў ёй можна дасягнуць. Да таго ж якраз з-за прэтэнзій на магчыма большае, абумоўленых якасцямі чалавечага і палітычнага характару, і паўстае сёння Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, як адзіны гарант незалежнасці нашай краіны.

Можна ўзважваць і па-рознаму тлумачыць прычыны, па якіх так сталася, але аб'ектыўна ніякіх іншых гарантый - ні палітычных, ні эканамічных, ні сілавых - на сённяшні дзень мы не маем. Толькі што мы ўсё-такі, Аляксандр Рыгоравіч, у краіне нашай збіраемся рабіць? Пачынаем будаваць Беларусь у Беларусі, ці нечага чакаць? Калі чакаць, дык ніхто нікому не кажа, а таму і ніхто і не ведае, колькі і чаго. Калі будаваць, дык на якім падмурку, каб будынак не абрынуўся і ўсе нашыя намаганні не пайшлі пылам? Што нам ствараць? Сацыяльную, грамадзянскую дзяржаву ў гэты час, калі ў многіх грамадзян, якія дзяржаву гэтую складаюць, не заўсёды хапае сродкаў для існавання? У такіх умовах усе гаворкі пра наднацыянальную дзяржаўную ўладкаванасць - гэта ці няўцямныя для людзей гукі эфіру, ці факультатыўныя фантазіі выпускнікоў былых палітычных акадэмій.

Мне вельмі шкада, што між дзяржаўнай уладай і Саюзам пісьменнікаў склаліся былі, прычым амаль на роўным месцы, такія няроўныя адносіны. Нам хацелася б, безумоўна, вярнуць Дому літаратара статус-кво, вырашыць іншыя матэрыяльныя пытанні. Калі б такі жэст у наш бок быў зроблены, гэта было б літаратурнай грамадскасцю належным чынам ацэнена. Тут жа, Аляксандр Рыгоравіч, не толькі матэрыяльныя, значна большыя маральныя страты. Калі пісьменнікаў пагналі з іх уласнага Дома ў сталіцы, дык гэта, калі не прамая каманда, дык ускосная гнаць іх адусюль. І пагналі са школ, з інстытутаў, дзе ўскосна, дзе прама. Нібыта пісьменнікаў тых у нас як гразі ў Казані.

Заўсёды на дзень нараджэння Янкі Купалы, каля помніка яму, вось тут, недалёка, у ягоным скверыку, праводзіліся паэтычныя чытанні. Гэта не мітынг, не шэсце - гэта культурная традыцыя, на якую не трэба было ніколі аніякага афіцыйнага дазволу. Цяпер ідзі за дазволам. Дазваляюць. Але нашто дазваляць тое, што не забаронена? Ці не гэта адна з прычын, праз якую здаровая беларушчына выглядае ў нас апазіцыйнай? А што канкрэтна робяць, каб было інакш, па-людску, каб беларускае працавала на дзяржаву, структуры выканаўчай улады, як садзейнічае нармалізацыі беларускага жыцця найвышэйшая выканаўчая ўстанова Савета Міністраў, адказнае за гэта ягонае кіраўніцтва? Пакуль няма адказу.

Не хачу, каб склалася ўражанне, што я вышукваю вінаватых выключна ў структурах улады, у ведамствах і міністэрствах. Гэта было б несправядліва, бо якраз тыя ведамствы, міністэрствы, з якімі мы супрацоўнічаем, ну, найперш, міністэрствы культуры, адукацыі і Дзяржкамітэт па друку больш за іншыя нам садзейнічаюць і дапамагаюць жывым людзям, літаратарам. Тое, што я казаў і кажу - гэта, безумоўна, праўда з аднаго боку. А ў чалавечым нашым жыцці як не бывае адной праўды, так не бывае і адной віны. Шмат у чым пісьменнікі вінаватыя і самі.

Нехта з іх, не саўладаўшы з эмоцыямі і адмовіўшыся ад прызвання, перакінуўся ў палітыканства, у голую палітыку. Нехта псіхалагічна не вытрымаў напружання часу, не рабіў

*(Працяг на стар. 10—11)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Творчая сустрэча



10 верасня 1998 года ў музей Якуба Коласа завіталі замежныя госці — перакладчыкі твораў нашага песняра на англійскую і польскую мовы Вера Рыч і Чэслаў Сенюх. На сустрэчу прыйшлі сябры Коласавага дома, навукоўцы, літаратары, родзічы Якуба Коласа.

Вечарыну адкрыла Марыя Міцкевіч, унучка песняра, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, старшыня дзіцячага фонду "Сакавік". Аб значнасці перакладчыцкай дзейнасці мастакоў слова гаварыў гісторык, археолаг Алег Трусаў. Ён адзначыў, што дзякуючы перакладам беларускіх твораў на мовы свету Беларусь будзе вядома як радзіма не толькі Адама Міцкевіча і Марка Шагала, але і Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Выступіў таксама зямляк Якуба Коласа паэт Яўген Хвалей. Працуючы ў Камітэце абароны ахвяр радыяцыі, Вера Рыч шмат дапамагае беларускім дзецям. Менавіта на дабрачынную дзейнасць яе звярнула ўвагу Людміла Дзіцэвіч, супрацоўніца дзіцячага фонду "Сакавік".

З цікавасцю слухалі прысутныя выступленне самой Веры Рыч. Да твораў беларускай літаратуры яна звярнулася даўно. У яе творчых планах — выдаць кнігу перакладаў твораў Якуба Коласа на англійскую мову.

Над перакладам "Новай зямлі" вялікага песняра на польскую мову працуе Чэслаў Сенюх, польскі пісьменнік. За сем гадоў працы перакладзена палова — 15 раздзелаў. Перакладчык расказаў пра гісторыю звароту да твораў беларускай літаратуры, падзяліўся сваімі творчымі планамі.

На вечарыне гучалі творы Якуба Коласа не толькі ў арыгінале. Урыўкі з паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка" на польскую і англійскую мовы чыталі госці.

**Насця МАКРЫЦКАЯ**

*На здымку: А. Трусаў (выступае), В. Рыч, М. Міцкевіч і Ч. Сенюх.*

*Фота Ул. ГУЗОЎСКАГА*

## Пра высокую музыку

Шостая ў сёлетнім годзе кніжка "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" ва ўсіх адносінах адметная. Найперш самой назвай "Загублены талент, альбо Гісторыя аднаго з лепшых басоў-актавістаў у Расійскай імперыі, а пасля і ў Савецкім Саюзе, беларуса па паходжанні, Антона Іванавіча Царанкова, напісаная яго ўнукам". А па-другое... Лепей даць слова аўтару невялікай прадмовы "Высокай музыкі спявак" знакамітаму Віктару Роўду: "Твор "Страчаны талент..." прысвечаны ўладальніку унікальнага голасу (магутнай актавы)... Чалавек гэты пражыў доўгае, надзвычай няпростае жыццё. Спяваў на сцэне Вялікага тэатра СССР, магутную актаву яго разносілі па свеце хвалі Кіеўскага радыё, грымела яна перад Вялікай Айчыннай вайной са сцэны Беларускага опернага тэатра, досыць старым ужо чалавекам аб'ехаў Антон Іванавіч разам з Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капэлаю БССР увесь Савецкі Саюз, спяваў на сцэнах амаль што ўсіх буйных гарадоў, многіх мястэчак і вёсак. Зусім ужо старым чалавекам Антон Іванавіч спяваў у хоры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі".

Канечне ж, падобных кніг дагэтуль у "Бібліятэцы..." не выходзіла. І добра, што яна, нарэшце, з'явілася — гэтая, кажучы словамі таго ж В. Роўды, "аповесць пра высокую музыку: оперную і харавую".

Напісаная з прыцягненнем багатага фактычнага матэрыялу, яна лішні раз пацвярджае, наколькі таленавіты наш народ, колькі ў ім сапраўдных самародкаў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё не толькі нацыянальнай культуры.

Колькі слоў пра аўтара кнігі Яўгена Царанкова. Ён чалавек немалады, нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Васілеўка на Магілёўшчыне. Па сваёй прафесіі ад музыкі, як кажуць, далёкі. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў на будаўніцтве Куйбышаўскай ГЭС, праходчыкам рудніка ў Крываарожжы, быў матросам на Поўначы. Шмат іншых прафесій памяняў. Цяпер Яўген Леанідавіч працуе інжынерам-тэхнолагам у акцыянерным таварыстве. Друкаваўся Я. Царанкоў у часопісах "Наука и религия", "Юность", якія, як вядома, выходзяць у Маскве, "Маладосць", "Падарожнік", у многіх газетах. У 1991 годзе выйшла яго кніга "Навальніца ў акіяне".

***Месяцы тры назад у мяне з'явіліся чарнавыя накіды артыкула "Янка піша — Іван не чытае...". Але нешта не склалася, патанула ў штодзённай літаратурнай мітусні. І вось тут ужо, у вёсцы на адпачынку, успомнілася, праявілася ў іншым ракурсе, заныла, запатрабавала выйсця.***

***У родным партызанскім лесе, у цяньку на пяньку, тое й дадумваецца, рэфлексуецца, склейваецца. Трэба хіба зазначыць толькі, што тэкст, які мной напішацца, а вамі, спадзяюся, хоць і не без прыкрасці і абурэння, прачытаецца — чыста маё, суб'ектыўнае разуменне на гэты час нашага беларускага нацыянальнага жыцця і пэўных яго праяў і ўзаемазваротных праекцый у стасунках з жыццём літаратурным, з гістарычным і сучасным літаратурным працэсам — удакладняю і акцэнтую, — а не з самой літаратурнай ТВОРЧАСЦЮ.***

# Залаты век графаманіі

Мабыць, адразу трэба вызначыцца з тым, што заяўлена на самым пачатку вялікімі літарамі, — з гэтым даўнім балючым і неадназначным тэрмінам: ГРАФАМАНІЯ. Нават не зазіраючы ў слоўнікі-даведнікі, мяркую, што гэта ад блізкага па значэнні слова "пісаць". Пісаць многа. Аднак без канкрэтызацыі: добра тое рабіць ці кепска ці, проста, у меру магчымасцяў і задаткаў.

Як на мой погляд, то графаманамі былі і граф Хвастоў, і граф Талстой. Не буду тут тлумачыць — што і дачаго, — думаючым і так ясна: аднаго — чытаем, пра другога — чулі...

Чамусьці ў нашым сучасным літаратурным ужытку графаманія тлумачыцца і адназначна вызначаецца як абраза ў дачыненні да чалавека, які бесперастанна піша благія, мнагаслоўныя і аднастайныя вершы. Не ведаю, чаму так не пашэнціла менавіта гэтым людзям і, разам з тым, несправядліва адсеяла ад іх гільдыі тых, хто практыкуе ў іншых "жанрах"...

А ўвогуле графаманы — людзі добрыя, уражлівыя, працалюбівыя, апантаныя ідэяй адлюстравання жыцця. Калі ТВОРЦА — гэта чалавек, які разглядае сябе ў люстэрку, то ГРАФАМАН — гэта люстэрка, якое фіксуе ўсё, што перад ім ні з'явіцца...

Па праўдзе кажучы, я больш цаню графаманаў па сумяшчальніцтве. Як там казаў ужо не помню хто: "пашню попашет, попишет стихи..." Скажам, днём чалавек працуе бухгалтарам, а вечарам піша вершы ці апавяданні, і — на здароўе! Карацей, я люблю тых людзей, што займаюцца карыснай для грамадства справай, а ў дадатак знаходзяць яшчэ і карысны занятак для ўласнай душы. Горшым чалавек ад гэтага не робіцца, нават калі й не лепшае...

Аднак, як толькі той, апошнім згаданы, вечаровы занятак робіцца справай усяго жыцця — гэта ўжо блага, гэта ўжо крыз псіхалогіі, а то й псіхікі. Тады чалавека пачынае "заносіць". Ён самазмушана даводзіць усім, што ён — творца і не дарэмна траціць сваё адзінае жыццё на рыфмаванне слоў у вершаваным слупку. Ён неадкладна патрабуе друкавання сваіх опусаў і прызнання свайго "статус-кво".

Такіх шкада. Хворыя людзі. Але жахліва іншае. Аказваецца, падобных людзей у нас мноства і, больш таго, — іх пераважная большасць.

Гэтай вясной газета "Комсомольская правда" змясціла ў сваім штотыднёвым беларускім дадатку, здавалася б, звычайную абвестку пра тое, што часопіс "Крыніца" разглядае і рэцэнзуе творы маладых беларускіх аўтараў. Ужо праз колькі дзён рэдакцыю завалілі лістамі людзі ад чатырнаццаці да васьмідзесяціпяці гадоў. Пераважна — вершамі, у большасці — рускамоўнымі. Я нават разгубіўся ад неспадзеўкі, прыкідваючы ў розуме: колькі ж грамадзян пішуць вершы пра сваю Беларусь, пра яе бярозы, нашы радасці і слёзы?!

Але ўстрывожыла іншае: ні ў аднаго з іх не ўзнікла клопату папярэдне азнаёміцца з часопісам: што ён з сябе ўяўляе, які ў яго накірунак, на якой мове ён выдаецца, у рэшце рэшт...

Усе графаманы пішуць падобна і зразумела. У іх тэкстах мала асабістага і многа нашага — агульнанароднага, усяго таго, што бачыцца вачам і чуецца вушам. У іх ёсць тое, што насамрэч ёсць, але, няма перспектывы і будучыні, няма ідэі, апроч ідэалогіі.

Вясна ў іх — зялёная, восень — барвовая (дарэчы, гэта чамусьці самыя любімыя іх поры года, магчыма, дзякуючы Першамаю і Вялікаму кастрычніку), дзяўчына — абаяўлясова юная, маці — стомленая, бабуля — хворая, рукі — мазольныя альбо пяшчотныя, гром — грыміць, лісце — шапоча, ноч — зорная альбо ціхая...

Госпадзе, як я люблю графаманаў! Усё ў іх проста і ясна. Зірнеш наўкол — і верыш кожнаму іх слову: усё так, усё правільна, усё праўдзіва.

Я не буду тут цытаваць саміх графаманаў, бо гэтых цытат больш чым дастаткова на нашых кніжных паліцах, на нашых пісьмовых сталах, на спісаных намі аркушах паперы...

Графаманія мае спрадвечныя карані. Гэта — унутранае рабства чалавека, уцёкі ад рабства знешняга. Чалавек становіцца ўладаром сваіх думак і пачуццяў, і ўжо не яны ім, а ён імі кіруе ў залежнасці ад праяў акаляючага яго свету. Графаман не стварае, ён складае і ператаласоўвае ўбачанае, пачутае, прачытанае. Ён піша пра "хто" і "што", абсалютна ігнаруючы "як" і "чаму". Ён — адэкватнае рэха рэчаіснасці, таму працуе з аглядкай на правілы, каноны, законы, стэрэатыпы. Але ўсё адно — кожны тэкст, напісаны ім, горшы за арыгінал, бо ні падрабіць, ні паўтарыць прыроду нельга, паколькі прырода заўжды творчая і заўсёды новая.

У пэўнай ступені графаманы — як захавальнікі, так і разбуральнікі высокага мастацтва.

Цяпер адыдземся трохі ад самой літаратуры, заглыбімся ў чалавека і той грамадскі лад, у якім ён жыве. Прыглядзімся да нашага жыцця.

Якія аднатыпныя хаты ў нашых вёсках! Якія аднастайныя кватэры ў нашых гарадах! (Успомніце камедыю "Іронія лёсу..." Гэтак жа кніжка паэта ці празаіка А. нагадвае кніжку літаратара Б. А мы ўсё будуем і пішам...) Ці не ёсць гэта графаманіяй нашых муляраў і цесляў?!

Нашы бухгалтары ляскалі костачкамі прымітыўных лічыльнікаў, не зважаючы на долю, што належала кожнаму аднаму...

Мы елі адныя і тыя ж хлеб і катлеты, пілі віно па адным рублю і сем капеек і піва за дваццаць чатыры...

Мы рабілі тысячы аднолькавых помнікаў аднаму і таму ж чалавеку...

Мы насілі аднолькавыя чырвоныя гальштукі і камсамольскія значкі...

Мы чыталі аднолькавыя газеты і слухалі адны і тыя ж прамовы адных і тых жа людзей...

Мы кіраваліся адным і тым жа — падчас амаральным — кодэксам жыцця будаўнікоў светлага будучага...

Мы ўсе паступова рабіліся графаманамі.

Чаму нават нашыя перша-класікі пачыналі пісаць не "пад Пушкіна, Міцкевіча ці Стэндаля", а "пад Кальцова, Беднага ці Горкага"?

Чаму беларускі чалавек паўстае такім "непрыглядным" і менавіта такім "завучваецца на доўгую памяць" дзецьмі і ўнукамі гэтага ж чалавека ў школах?

***Я мужык-беларус, —***
***Пан сахі і касы;***
***Цёмен сам, белы вус,***
***Пядзі дзве валасы.***

І — што ж цяпер, сёння?

Я, шчыра кажучы, спадзяваўся, што графаманаў паменее. Як бы не так! І хоць жыццё сапраўды разнасталася, стала папахваць воляй, аднак звычкі розуму і душы настолькі глыбока ўкараніліся, што ўсё новае, як наноснае, далей вуха і вачэй не пранікае...

Мы зноў не аналізуем, не ладзім, не ствараем СВАЁ, а выбіраем чужое — Усход альбо Захад, Расія альбо Еўропа... Тады як трэба вызначаць не вектар, а — ШЛЯХ.

Адны і тыя ж лозунгі над нашымі галовамі: "Жыве Беларусь!" і "Саюз з Расіяй". Ні формы, ні зместу — чыстай вады графаманія.

Афіцыйныя графаманы п'юць баварскае піва ў бляшанках, ездзяць на "мерседэсах", жывуць у катэджах сярод бруднага беларускага пейзажу, незалежныя — жывуць ад аванса да зарплаты, кучкуюцца на цесных кухнях, жабруюць па замежжах...

Нічога не змянілася ў тэкстах і тых і гэтых. Праўда, пабольшала запазычаных — з таго ці іншага боку — замежных думак, тэрмінаў і тэорый.. Няма пераасэнсавання вопыту, ні свайго, ні чужога. Па традыцыі, мы ўсё баімся "забегчы паперад бацькі", стараемся ўпісацца ў каноны апрабаванага — не намі дык іншымі — ладу жыцця.

Але паэзія жыве толькі там, дзе яна жыццё абнаўляе: ім жывіцца, яго жывіць і ажыўляе...

Пра што сведчаць вынікі нашых выбараў і рэферэндумаў? Пра графаманію.

І хіба ў сённяшнім нашым грамадскім і грамадзянскім ладзе жыцця адчуваецца подых творчага натхнення і паэзіі?

У што вылілася сустрэча літаратараў з прэзідэнтам? У тое самае.

Як і ўчора, графаманы праектуюць, будуюць, вырошчваюць, гандлююць, пішуць. Што імі робіцца, тое ж імі і апяваецца.

Сярод іх ёсць свае героі, лаўрэаты, дэпутаты, кандыдаты. Графаманы-бацькі нараджаюць графаманаў-дзяцей, дзеці — унукаў. Графаманія — несмяротная! Асабліва калі яна робіцца справай усяго жыцця чалавека, бо з яе зместу ў рэшце рэшт і выкрышталізоўваецца менталітэт усёй нацыі.

Хіба не актуальныя і сёння заключныя радкі ўсё таго ж, вышэйцытаванага, купалаўскага верша:

***Эй, каб цёмен не быў,***
***Чытаць кніжкі умеў, —***
***я б і долю здабыў,***
***Я б і песенькі пеў!***

Каб жа...

У звязку з Купалам — на свой страх — рызыкну выказаць і ўвогуле небяспечную, але даўно і дарэшты **зжаліўшую** мяне, думку: як мог ПАЭТ Янка Купала, патрыёт Беларусі, змагар за яе свабоду, у рэшце рэшт "апусціцца" да слабасцяў зямнога чалавека Луцэвіча Івана Дамінікавіча?! Пачаў славіць тое, з чым змагаўся. Стаў па сутнасці рэдкім выняткам савецкім графаманам. І гэта ў той час, калі нават "мужык-беларус" яго, хай і не паўставаў адкрыта супроць камуністычнай няволі, то хоць зацята маўчаў... А вялікі Купала — спяваў, няважна як і якім голасам і што адчуваючы пры гэтым, бо чытачам і слухачам пра тое не паведамлялася...

І не трэба шукаць ніякіх таемных прычын яго смерці. Яны падараваныя яму Богам як апраўданне грэху і звання ПАЭТА.

Ці Купала — самагубца і сканаў яшчэ да смерці Івана Луцэвіча?

Калі гэта так, калі такое здараецца з такімі БЕЛАРУСКІМІ людзьмі, то ці не праследжваецца за гэтым і самае страшнае — гістарычная паралель, калі мець на ўвазе мову, культуру, дзяржаўнасць, — самагубства нацыі ўвогуле? Свядомае ці не свядомае — ужо не мае значэння.

А мы ўсё **безадказна** пытаемся ў свету: чаму нас не ведаюць, чаму нас не прымаюць, чаму з намі не лічацца?

Што ж застаецца ў гэтай сітуацыі дзеяць паэтам, пісьменнікам, мастакам... — ТВОРЦАМ?

Неўзіраючы ні на што, тварыць і ў гэткім свеце свой уласны свет — не пакідаць графаманаў па-за кантэкстам вечнага, змушаць іх удасканальваць формы, метады, стыль і змест іх жыцця. А галоўнае — высвечваць ім будучыню, не заганяць у тупік і безвыходнасць — шырэй расчыняць прастор перад іх люстэркам.

Іначай яны, адчуўшы сваю пагібель, выпладзяць з усёй графаманскай масы свайго гістарычнага псеўдагенія — НЕРОНА...

Ці не перажываем мы сёння наступствы падобнага часу? (Тых, хто не чытаў аповесць аднаго з найбольш таленавітых нашых пісьменнікаў Юры Станкевіча "ПСЕЎДА", адсылаю да 33 (7-1997 г.) нумар часопіса "Крыніца".

А мо — няхай! Няхай нарэшце тое збудзецца! Няхай на ўсёзнішчальным вогнішчы іх псеўдапрарока ўспыхнуць і стануць попелам іх пісьмёны...

...каб нехта некалі мог узяць чысты аркуш паперы і напісаць СВАЁ...

ШТО?

Плач альбо ўспаміны пра залаты век графаманіі? Ці сябе самога?..

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

КРЫТЫКА

# Такога ж — не будзе

Пра такога пісьменніка, як Уладзімір Караткевіч, нельга, грэх — пісаць з раўнадушным сэрцам.

Што можна зразумець у творчасці Вялікага Беларускага Рамантыка, што можна зразумець у асобе гэтага Чалавека з чыста навуковых пазіцый? Нешта, але — не самае галоўнае, не самае істотнае. Не тое, што зрабіла яго апосталам беларускага Адраджэння, прывабіла да яго творчасці сэрцы тысяч чытачоў, не тое, чаму менавіта праз яго творчасць, моц яго таленту тысячы юнакоў і дзяўчат, што раней, "абагачаныя" школьнай праграмай, і не задумваліся над "нацыянальным пытаннем", прыйшлі да беларушчыны.

Каб пісаць пра Уладзіміра Караткевіча, мне здаецца, трэба перш за ўсё любіць яго. Любіць яго кнігі, яго вершы, яго герояў, адчуваць паветра таго чароўнага свету, які ён стварыў. Прымаць не як банальную метафару словы-запавет: "Быў. Ёсць. Буду".

На шчасце, такія даследчыкі і даследаванні ў нас ёсць. Прыкладам — кніга "Абуджаная памяць" літаратуразнаўцы Анатоля Вераб'я, якая ўяўляе з сябе нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Кніга выйшла ў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў мінулым годзе. Перад чытачом паўстае неардынарная асоба Уладзіміра Караткевіча, як гэта гаворыцца, "у развіцці". Падзеі біяграфіі і бібліяграфіі пераплятаюцца, рэальны лёс пісьменніка перагукваецца з сюжэтамі твораў. Аўтар нарыса паспрабаваў зразумець, як задумваўся кожны канкрэтны твор, якія жыццёвыя падзеі ўплывалі на аўтарскую фантазію. Прычым гісторыі з жыцця Уладзіміра Караткевіча часам гучаць не менш займальна і нават фантастычна, чым эпізоды з яго твораў. У кнізе прыводзіцца шмат невядомых і малавядомых дакументаў з архіваў, эпісталярнай спадчыны ўспамінаў пра пісьменніка.

Чытач даведаецца, што легенду "Маці Ветру" пісьменнік пачуў ад свайго дзеда, што аповесць "У снягах драмае вясна" — аўтабіяграфічны твор, што раман "Леаніды не вернуцца на зямлю" — таксама шмат у чым аўтабіяграфічны, і ў тым, што тычыцца лірычнай лініі сюжэту, і ў гістарычных дэталях — у сям'і Караткевічаў сапраўды існавала паданне пра прадзеда-паўстанца, расстралянага ў Рагачове. У свой час А. Мальдзіс знайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Варшавы звесткі пра таго прадзеда, Тамаша Грыневіча, яго верш "Песня прыгавbooнага да смерці..." і верш невядомага аўтара, прысвечаны ўдаве Грыневіча. Такія дэталі вельмі важныя. Яны дазваляюць чытачу асэнсаваць, як працавала аўтарская фантазія, адкуль бяруць выток улюбёныя вобразы пісьменніка.

А. Верабей раскрывае творчую асобу У. Караткевіча ў кантэксце ўсяе сучаснай яму літаратуры, у звязцы з многімі славутымі імёнамі. Аказваецца, што яшчэ ў дашкольным узросце Уладзімір Караткевіч напісаў ліст Карнею Чукоўскаму і атрымаў адказ; што будучы пісьменнік бачыў у Ляўках Янку Купалу; што першыя свае творы ён дасылаў Якубу Коласу. Цікавы і такі амаль кур'ёзны факт: калі Уладзімір Караткевіч звярнуўся з тымі першымі творамі да Кандрата Крапівы, мэтр беларускай байкі настолькі адмоўна ўспрыняў творчасць пачаткоўца, што параіў яму кінуць пісаць увогуле.

І цікава, і горка прачытаць, як на самым пачатку творчага шляху пісьменнік склаў план таго, што намерваўся і адчуваў у сабе сілы зрабіць пры жыцці. Гэта спіс з сямідзесяці васьмі тамоў, у якіх — вершы, легенды, паэмы, раман у вершах, апавяданні, аповесці, раманы гістарычныя і сучасныя, серыя "Век" — па вызначэнні самога У. Караткевіча, "эпапея, у якую павінны ўвайсці паўтара дзесятка раманаў і якая ахопіць гісторыю Беларусі з 1860 года да нашых дзён". Акрамя гэтага, у згаданым спісе казкі ("у стылі Г.-Х. Андэрсена"), "фантастычнае", п'есы, запісы фальклору, мемуары, дарожныя нататкі, малая спадарожная кніжыца, крытыка, некалькі тамоў гісторыі беларускага мастацтва, біяграфіі, пераклады, ліставанне, пародыі, кінасцэнарыі, лібрэта, публіцыстыка, кніга пра працу пісьменніка (тэорыя літаратуры), том літаратурных пародый, том "Паляўнічае"... І — шматзначна — пад пунктам 76 том "Вы, беларусы (прызыў да іх вярнуцца)".

Канечне, Уладзімір Караткевіч паспеў зрабіць нямала. Але, калі чытаеш ягоны план, асабліва выразна ўсведамляеш, як шмат страціў беларусы з заўчаснай смерцю свайго паэта.

Творчасць пісьменніка разглядаецца ва ўсёй паўнаце — паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка, мастацкі пераклад. Прычым разглядаюцца не толькі творы апублікаваныя, робіцца спроба рэканструкцыі няздзейсненых задум, а таксама той часткі творчай спадчыны пісьменніка, якая знікла — хто ведае, ці назаўсёды? Гаворка — пра рукапіс трэцяй і чацвёртай кніг рамана "Каласы пад сярпом тваім". А. Верабей, дарэчы, асцярожна ставіцца да гіпотэзы, што раман быў Караткевічам завершаны. На карысць таго, што пісьменнік, хаця і напісаў асобныя раздзелы з фінальнай часткі рамана і меў яе дакладны план, тым не менш прыпыніў сваю працу, сведчаць і псіхалагічныя прычыны (пісьменніку было "надзвычай цяжка паказаць смерць сваіх герояў, з якімі ён зрадніўся"), і жыццёвыя абставіны, іншыя творчыя клопаты.

Шлях Уладзіміра Караткевіча ў літаратуру не быў усыпаны ружамі. І вельмі добра, што ў кнізе "Абуджаная памяць" апісваюцца ўсе этапы гэтага цярністага шляху, а таксама называюцца тыя асобы, што падкідвалі на шлях пісьменніка згаданыя "церніі". Гісторыя цкавання таленавітага маладога літаратара Уладзіміра Караткевіча заслугоўвае, мабыць, асобнай кніжкі. Тым больш, што пасля яна лагічна перайшла ў гісторыю цкавання масцітага, вядомага ў свеце пісьменніка, які паранейшаму не ўпісваўся ў рамкі пануючай ідэалогіі, а самае, для пільных ідэолагаў, відаць, прыкрае, і не жадаў "упісвацца", нават найменшых намаганняў дзеля гэтага не рабіў. Якой жа моцай духу трэба валодаць, якое трэба мець магутнае пакліканне, каб перажыць на пачатку літаратурнай дзейнасці татальнае ганьбаванне і не зламацца! Але ж не, не зламаўся. Наадварот — сцвярдзіў яшчэ раз сваё крэда: "Пісаць буду тое, што, на маю думку, патрэбна і неабходна, а не тое, што зробіць ласку захоча іх левая пятка".

Даследчык не ідэалізуе пісьменніка. У кнізе паўстае жывы, земны чалавек са сваімі недахопамі і памылкамі. Ад гэтага вобраз пісьменніка робіцца яшчэ больш абаяльным і значным. Гэткі ж "плюс" кнізе — аб'ектыўная расстаноўка акцэнтаў на творах: былі і менш удалыя, былі і ва ўдалых, выбітныя недапрацоўкі. Хіба ад гэтага плён пісьменніка мізарнее? А. Верабей робіць цалкам слушную выснову: "І хоць часам можна пачуць скептычныя меркаванні пра творчасць Уладзіміра Караткевіча, аднак несумненна адно. Гэты пісьменнік з'яўляецца адной з яркіх постацей беларускай літаратуры XX стагоддзя. Ён быў сапраўдным апосталам духоўнасці, прадвесцем новага беларускага Адраджэння. Гэта класік беларускай гістарычнай літаратуры.

Прыйдуць іншыя пісьменнікі. Такога ж, як Уладзімір Караткевіч, не будзе. Ён у беларусаў і ва ўсяго свету адзіны, непаўторны".

"Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" дае такое вызначэнне жанру нарыса: "Эпічны жанр, які сінтэзуе заканамернасці навуковага і мастацкага пазнання. Рэальны факт і вобраз суіснуюць у нарысе як цэласнае двуадзінства публіцыстычнага зместу і формы. Спецыфіка нарыса выяўляецца ў адкрытай тэндэнцыйнасці задумы, выразнасці пазіцыі аўтара, аператыўнасці асвятлення надзённых праблем сучаснасці". Дарэчы, адзін з класічных нарысаў беларускай літаратуры належыць пяру Уладзіміра Караткевіча — гэта знакамітая "Зямля пад белымі крыламі".

Думаецца, цяжка было выбраць больш удалую форму для аповеда пра жыццё і творчасць Уладзіміра Караткевіча. Аўтар кнігі "Абуджаная памяць" выдатна справіўся са сваёй задачай, прынамсі, яго ўласная аўтарская пазіцыя сапраўды, згодна вышэйпрацытаванаму вызначэнню, выразная. Нельга забываць такіх асоб, як герой яго нарыса. І менавіта сёння надзвычай актуальна абудзіць цікавасць да творчай спадчыны Уладзіміра Караткевіча, якая прыгасла сінхронна з цікавасцю да духоўнасці ўвогуле.

Думаецца, "Абуджаная памяць" знойдзе ўдзячнага чытача і ў асобе настаўніка, і ў асобе школьніка. Прынамсі, кожны, хто пазнаёміцца з гэтай кнігай, абавязкова захоча перачытаць — ці прачытаць упершыню — творы, пра якія ў ёй гаворыцца. І, зразумела, пагодзіцца з даследчыкам, які сцвярджае: "Творы Уладзіміра Караткевіча выхоўваюць нашы пачуцці, упрыгожваюць думкі, вучаць любіць і берагчы чалавечае ў чалавеку, паглыбляюць веды пра зямлю, на якой жывём, выклікаюць радасць мастацкага адкрыцця, абуджаюць, хвалююць, трывожаць фантазію і розум. Творчасць Уладзіміра Караткевіча — гэта сапраўдны летапіс духоўнага жыцця беларускага народа, напісаны шчырым і таленавіта. І ягоным творам наканавана доўгае жыццё".

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

КНІГАРНЯ

# Дзецям — пра Якуба Коласа

У суседніх літаратурах пра класікаў нацыянальнага прыгожага пісьменства з'яўляецца шмат не толькі літаратуразнаўчых, даследчыцка-манаграфічных прац, а і мастацкіх твораў, у якіх асвятляецца як увесь жыццёвы і творчы шлях выдатнага творцы, так і асобныя перыяды яго. Чаго, на жаль, не скажаш пра нас, пра нашу літаратуру. Не выключэнне і народны пясняр Якуб Колас. Не лічачы асобных публікацый, пра яго ёсць толькі аповесці Сцяпана Александровіча "Ад роднае зямлі...", "На шырокі прастор", "Крывавыя дарогі", што часцей перавыдаюцца як трылогіяй пад назвао "На шырокі прастор".

А жыццё ж незабыўнага Канстанціна Міхайлавіча, як вядома, вельмі багатае на падзеі. І для кожнага, хто пажадае яго асэнсаваць, тут шырокае поле дзейнасці, быў бы талент ды жаданне. А яны ёсць у настаўніка з Пухаўшчыны, дырэктара Светлаборскай сярэдняй школы Браніслава Зубкоўскага. Яго ведаюць — не толькі ў сваім раёне — як апантанага краязнаўцу. Даўно вывучае ён і жыццё Я.Коласа. У першую чаргу — знаходжанне Канстанціна Міхайлавіча на Пухаўшчыне падчас адпачынку летам. Я. Колас на працягу 1935—1953 гадоў у гэтым кутку Беларусі бываў неаднойчы. Коласаўскія адрасы — гэта Вусце, Беразянка, Загібелька, Падбярэжжа, Балачанка.

Б. Зубкоўскі неаднойчы сустракаўся з людзьмі, якія ведалі песняра. Многія з іх у той час былі дзецьмі, а дзіцячая памяць — учэпістая. Паступова ў пухаўскага настаўніка і краязнаўцы і з'явілася задума асэнсаваць тэму Я.Колас і дзеці, якая да яго, па сутнасці, не закраналася. І пачаў Б. Зубкоўскі пісаць апавяданні. Не спяшаючыся, бо ведаў, за якую адказную тэму ўзяўся. Ашчадна адбіраў матэрыял, кладучы ў аснову твораў толькі тое, што дазваляе ўнесці істотнае дапаўненне ў біяграфію Я. Коласа, раскрыць такія яго рысы, як чалавечнасць, чуласць, дабрыня. А яшчэ — належны педагагічны такт: невыпадкова ж Канстанцін Міхайлавіч немалы час працаваў настаўнікам.

Апавяданні Б. Зубкоўскага публікавалася ў перыёдыцы — газетах, часопісах. А пакрысе і на кніжку іх назбіралася. І вось яна прыйшла да чытача. А назву зборніку, які складаецца з 18 твораў, дало адно з апавяданняў — "Чаму ж Загібелька лепш Парыжа". І сапраўды — чаму? Пра гэта юныя чытачы і даведаюцца, калі пазнаёмяцца з апавяданнем, дарэчы, адным з лепшых у кнізе.

Аўтар узнаўляе падзеі, што мелі месца вясной 1935 года, калі Канстанцін Міхайлавіч адпачываў у вёсцы Загібелька. Галоўны герой твора Міколка ад бацькі даведаўся, што дзядзька Колас у Парыж збіраецца — у чэрвені 1935 года ён прымаў удзел у рабоце Сусветнага кангрэса абароны культуры. Папрасіў Канстанцін Міхайлавіч гаспадара дома, у якога кватараваў, прынесці з канторы лічыльнікі. Міколка за ўсім уважліва назірае: "Няпроста, відаць, вучоных пераліча́ваць, калі дзядзька Колас вядзе падлік другі вечар запар. Шмат няйначай гэтых вучоных набіраецца. Бадай, і не хопіць аднаго сшытка дзядзьку Коласу, каб усіх вядомых людзей перапісаць. Аднак Міколка настрою не страціў. Ён свой чысты сшытак у клетачку дзядзьку Якубу аддасць. Гэта цвёрда вырашана".

Так перадае Б. Зубкоўскі настрой хлапчука пасля таго, як даведаўся ад маці, што "дзядзька Колас у Парыж збіраецца, падлічвае, колькі ў нас школак, колькі вучоных маем". Аднак не толькі ад гэтага цікаўнасць у Міколкі. Ён жа яшчэ нічога не ведае пра Парыж. Таму і запытаўся: "А ў Парыжы рака і лес ёсць?" Дзядзька Якуб ахвотна прыйшоў на дапамогу. Але адказаў на запытанне так, каб выклікаць у юнага сябра яшчэ большы інтарэс. Наколькі гэта ўдалося, Б. Зубкоўскі перадае як непасрэдна праз адказ Канстанціна Міхайлавіча, так і праз унутраны роздум самога Міколкі, што не мог не з'явіцца пасля таго, калі дзядзька Якуб растлумачыў:

"— Лес у іх маецца, Булонскі. Французы так яго называюць. А ці растуць там, браце, грыбы — не ведаю. Сена ў іх ёсць, — дадаў дзядзька Колас.

Дзіўны ўсё ж гэты дзядзька Колас. Ведае пра лес у Парыжы, а ці збіраюць у ім баравікі — не ў курсе спраў. Што датычыцца сена, то яго і ў іх пуні дастаткова, з мінулага года засталося. Летась дзядзька Якуб спаў на сенавале, казаў, што лепшага месца на ноч для адпачынку не знойдзеш. Не мулка, не душна. А ў Парыжы тым, можа, і парна, і такой прахалоды, як у Загібельцы, няма".

У рэшце рэшт Я. Колас Міколку растлумачыў, якую Сену ён меў на ўвазе. І яшчэ шмат пра што гаварылі яны з хлопчыкам. А паехаў госць у Парыж — засумаваў Міколка. Сумна яму стала без дзядзькі Якуба. Ніяк не мог дачакацца, калі ён вернецца ў Загібельку: "Міколка штодня бегаў да чыгуначнай станцыі "Талька". Сачыў, калі падыдзе цягнік з Мінска і з вагона выйдзе дзядзька Якуб. А той усё не ехаў. Пільныя грамадскія справы чакалі паэта ў сталіцы".

І тут Б. Зубкоўскі выкарыстоўвае факты, вядомыя ў літаратуразнаўстве (нярэдка для гэтага звяртаецца і да кнігі М. Мушынскага "Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці", выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1982 годзе). Прыехаўшы з Парыжа, Я. Колас сустрэўся з Кандратам Крапівой. Той, пачуўшы ад Канстанціна Міхайлавіча пра леснічоўку, пра таямнічае возера Грымячае, дзе яны з Міколкам лавілі рыбу, напісаў эпіграму:

***Быў я ў Парыжы на кангрэсе;***
***То ў Загібельцы, браце, лепш.***
***Грыбоў няма ў Булонскім лесе,***
***А ў Сене хоць бы адзін лешч.***

У адказ на жарт К. Крапівы з'явіўся верш Я. Коласа "Загібелька", а ў ім і такія радкі:

***Калі агледзіш хвайнякі***
***І гэты кут пазнаеш бліжай,***
***Збіраючы баравікі, —***
***То вывад я раблю такі:***
***Мне Загібелька лепш Парыжа.***

Я невыпадкова так падрабязна спыніўся на гэтым апавяданні. З яго асабліва добра відаць, як Б. Зубкоўскі умее ашчадна адбіраць матэрыял і належным чынам падаваць яго юнаму чытачу. І робіць гэта так, што даходлівасць суседнічае з пазнавальнасцю, а дзеці адкрываюць для сябе Я. Коласа, так сказаць, новага, не хрэстаматыйнага.

Міколка з апавядання "Чаму Загібелька лепш Парыжа" — Міколка Бранавіцкі. Не прыдуманы Б. Зубкоўскім і іншыя персанажы — Ясік Ількевіч, Міхась Корань, сын песняра Міхась... А гэта стварае тую праўдзівасць, якую не прыдумаеш, валодаючы нават самай багатай фантазіяй. Ды і факты, пакладзеныя ў аснову іх, таму і спрацоўваюць, што за кожным выпадкам — пэўны штрых з жыцця Я. Коласа, з яго стасункаў з дзецьмі. Чытаеш апавяданні "Шахматы", "Пазалочаная пчала", "Сакрэты без сакрэтаў" і іншыя і адразу разумееш, адкуль сакрэт папулярнасці і вабнасці твораў, напісаных Я. Коласам спецыяльна для дзяцей. Канстанцін Міхайлавіч і ў жыцці з'яўляўся тонкім псіхолагам, глыбокім знаўцам душы хлапчукоў і дзяўчынак.

Між іншым, гэтымі якасцямі валодала і яго жонка Марыя Дзмітраўна. Яна таксама гераіня асобных твораў Б. Зубкоўскага.

Канечне, у кніжцы не ўсё на аднолькавым узроўні. Часам сустракаюцца і не вельмі арыгінальныя сюжэты. Ды гэта, калі падыходзіць да апавяданняў з крытычнага пункту гледжання. Самі ж юныя чытачы гэтага не заўважаюць. Для іх галоўнае, што ёсць магчымасць больш даведацца пра пісьменніка, творчасць якога яны, несумненна, любяць.

Нельга не заззначыць, што шлях рукапісу, пакуль ён стаў кнігай, быў няпросты. Добрыя людзі знайшліся ажно ў Курску (Расія), дзе гэты зборнік і пабачыў свет.

**Вячаслаў ДЗЯМЧУК**



ЧАСАПІС

## У прозе — новае імя

**Прынамсі, аматарам літаратуры імя Святланы Бязлепкінай (Святланы Рудабелец) дагэтуль не было знаёма, хоць яна пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта сем гадоў працавала літаратурным супрацоўнікам абласной газеты "Гомельская праўда", шэсць гадоў загадвала аддзелам раённай газеты "Чачэрскі веснік". Цяпер жыве ў Мінску, займаецца творчай працай. Але менавіта багаты журналісцкі вопыт, добрае веданне жыцця і выклікалі ў С. Бязлепкінай жаданне паспрабаваць свае сілы ў літаратуры. Так з'явіліся з-пад яе пяра першыя апавяданні, а з цягам часу іх назбіралася і на кнігу, якую пад назвай "Чарнобыльская русалка" (такая і назва аднаго з апавяданняў) выйшла ў майскім нумары "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". Прадмову напісаў галоўны рэдактар "Маладосці" Генрых Далідовіч, які зазначае: "Адным з моцных бакоў творчасці Святланы Бязлепкінай з'яўляецца тое, што яна любіць і ўмее пісаць пра сучаснасць. Тут, у гэтай кнізе, — што ні ёсць так званая постсавецкая эпоха, што выпала нам напрыканцы XX стагоддзя. У цэнтры ўвагі празаіка — доля старэйшага пакалення, трывогі і пошукі многіх здольных з сярэдняга, узнясенне па-свойму адораных, але хітрых і бездухоўных, няясны лёс нашых дзяцей і ўнукаў, выпрабаванне "заходнім дабрабытам і маскультурай", а да ўсяго "падарунак" Чарнобыля — усё гэта горача пульсуе ў апавяданнях аўтара". Г. Далідовіч дае і ацэнку творчасці С. Бязлепкінай: "Моцны бок прозы Святланы Бязлепкінай і ў тым, што яна ўмее адбіраць жыццёвы матэрыял, зацікаўліваць, умела будаваць сюжэт, кампазіцыю, псіхалагізаваць, — чытаеш і не можаш выцерпець, а што далей, чым гэта ўсё скончыцца, ці завяжацца ў новы вузел?" Можа ўзнікнуць заканамернае пытанне: а ці ўсё ў гэтым зборніку на належным ўзроўні? Наконт гэтага Г. Далідовіч гаворыць наступнае: "Сябры, хіба ў жанчын бываюць слабасці? Слабасці ў жанчын — тыя ж іхнія вартасці!" Жарт жартам, а пазнаёміцца з кнігай варта.**

## "Мастацтва", N 8

**Т. Арлова ("Тры раніцы, тры вечары і два банкеты") вяртае да "Маладзечанскай сакавіцы-98". К. Васілеўскі ("Вялікія турботы "лялечнага" дырэктара) гутарыць з дырэктарам Дзяржаўнага тэатра лялек Я. Клімаковым. Б. Бур'ян ("Уздыбленыя дзідамі пялёсткі хараства") расказвае пра заслужаную артыстку Беларусі А. Рынковіч. В. Трыгубовіч прапануе матэрыялы з перапіскі А. Астаповіча і З. Астаповіч-Бачаровай — "Жыццё ў згодзе і любові". Змешчаны артыкулы Л. Міхневіч "Шукаць як былую ўласнасць (карціна Сальватора Розы "Закамняванне святога Першапакутніка Стэфана"), У. Шчарбіна "У творах жыве душа" (творчасць юных мастакоў), В. Дадзіёмавай "Музы Нясвіжа": погляд з-за кулісаў. Н. Бунцэвіч ("Спадзявацца на ўласныя намаганні") падрыхтавала матэрыялы "круглага стала", прысвечанага 60-годдзю Саюза кампазітараў. Сярод іншых публікацый — "У атачэнні маўклівых рэчаў" М. Цыбульскага, "У пошуках сябе" Л. Лапчынскай, "Народны рэжысёр" Е. Бондаравай (да 65-годдзя з дня нараджэння В. Чацверыкова), "Партрэт у камп'ютэрным інтэр'еры" А. Янкоўскага, "Фальклор на рок-сцэне: гурт "Тройца" М. Васілеўскага, "Сям'ю яднае свята" Л. Грыцкевіч, "Каму апладзіруюць мінчане" М. Дамброўскай, "Таямніцы драўлянай пластыкі" В. Пісарэнка, "Зямное сонца Вікторыі Чырвонцавай" Г. Баганавай, "Польскія адкрыцці. Палеская кераміка" (артыкул чацвёрты) В. Лабачэўскай, падборкі "Дыскаграфія", "Падзеі. Факты. Інфармацыя".**

## "Маладосць", N 8

**"Маладосць" прапануе часопісны варыянт аповесці Я. Конева "Рытуал". Змешчаны апавяданні Ф. Сіўко і А. Кажадуба, вершы Л. Мазуркевіч, І. Шаўляковай, А. Туровіча, М. Яцкова, В. Сахарчука, С. Грахоўскага, а таксама А. Міцкевіча ў перакладзе і з пасляслоўем "Ад перакладчыка" Я. Міклашэўскага (уступ Г. Далідовіча). А. Грачанікаву споўнілася б 60 гадоў. Пра яго слова прамаўляюць І. Шамякін ("Жыццё паэта"), М. Аўрамчык ("Недапетыя песні"), В. Лукша ("Любоў не перайначыць"), У. Ліпскі "Ён ніколі не адводзіў стрэлкі назад", Г. Далідовіч ("З прыязнасцю і болем"). Друкуюцца працяг "Старажытнай Беларусі" М. Ермаловіча, пачатак дзённікавых запісаў М. Хамца "Далі чыстыя, далі светлыя...", публіцыстычны нарыс Н. Глушаковай "Была такая партыя..." Г. Багданава ("Паданні зямлі і неба") прадстаўляе мастака І. Гардзіёнка, з рэпрадукцыямі асобных твораў якога можна пазнаёміцца ў нумары.**

ПАЭЗІЯ

## Ніна МАЦЯШ



### ТРЫ ПЕСЕНЬКІ З КАЗКІ "КРАІНА БЕЛЫ СВЕТ"

### Песенька сыраежкі

*Якая нудота —*
*Такая дрымота*
*У золаку шэрым, як мох!*
*Ні бегу мурашкі,*
*Ні мятліка лёту,*
*Ані павучка, —*
*О-охо-хо-ох!*

*Хутчэй бы ўжо ранне,*
*Сяброў азыванне,*
*Хутчэй бы ўжо нейкі хоць рух!*
*Пудлівых стракозак нямых*
*трапятанне,*
*Пярэбзыкі восаў ды мух...*

*Самой аж дзівота,*
*Якая пяшчота*
*Мяне агартае, дальбог,*
*Да кожнай жывінкі,*
*Да кожнай істоты, —*
*Аж сэрца шчыміць...*
*Охо-хо-ох!*

### Песенька краснючка

*Нейкі поклік, нейкі верад,*
*Слодыч і туга...*
*Колькі йшчэ ісці наперад*
*Так вось, наўздагад?*

*Па дарозе, без дарогі,*
*Гаем нацянькі*
*Што мне вытупаюць ногі,*
*Вымацае кій?*

*Можа, тое, што шукаю,*
*І не існуе?*
*Можа, марна я збіваю*
*Ступачкі свае?*
*Па дарозе, без дарогі,*
*Гаем нацянькі*
*Што мне вытупаюць ногі,*
*Вымацае кій?*

*Можа, шэра і самотна*
*Будзе ўсюды мне...*
*Веру ў радасць я ахвотна,*
*А ў няўдачу — не!*
*Па дарозе, без дарогі,*
*Гаем нацянькі*
*Нешта ж вытупаюць ногі,*
*Вымацае кій!*

*Што мне вытупаюць ногі,*
*Вымацае кій?..*

### Песня дубовага пня

*Цешыў дзень прамяністы,*
*Сэрца неба і волі хацела.*
*А жыццё сухалістам,*
*Сухалістам дадолу зляцела...*

*Узнімаўся вячыста,*
*Быў шумлівы, і дужы, і смелы,*
*А жыццё сухалістам.*
*Сухалістам дадолу зляцела...*

*Захад шэры, імглісты,*
*Як душа, што ўсяго адхацела.*
*Назаўжды сухалістам,*
*Сухалістам жыццё адляцела...*

●

І.Ул.БАЯРЧУКУ

*Недзе ўзважваецца наш унёсак*
*У Жыццё*
*ў зямной гэтай юдолі.*
*Ці адхмарацца калі нябёсы?*
*Ці нап'ецца сэрца шчасця ўволю?*

*Будзем помніць: ледавік сыходзіць.*
*Будзем помніць: і патоп мінае.*
*Хоць, здаецца, сілы на зыходзе,*
*Крык душы ў пустыні прападае...*

*Але сіл даецца роўна столькі,*
*Колькі трэба, каб стрываць пакуту.*
*Ветрам хіліцца да голькі голька,*
*Кожны лісцік хоча быць пачутым...*

●

*Ты ўжо не спяшаешся больш,*
*дружа мой стурбаваны?*
*Прыціх — як прапаў,*
*у бярозавым гэтым гайку,*
*На цёплай траве,*
*залатым казяльцом гафтаванай,*
*Скуль конікі так і сігаюць*
*табе на руку.*

*Дзіцячая ўсмешка блукае*
*на вуснах прывялых.*
*О як жа даўно, як даўно я іх не цалавала...*

*Так шмат гэтых конікаў тут —*
*ажно ходзіць стотраўе.*
*Кранаецца мятлік тваіх*
*то пляча, то шчакі*
*І, лётам шчаслівы,*
*нагадвае пра непапраўнасць:*

## Эдуард АКУЛІН



### Смутак безнадзейнае душы...

●

Максіму Багдановічу

*Ні спякотным поўднем лета,*
*ні ў асенні дзень дажджлівы*
*не трывожце сон Паэта —*
*ён у сне сваім шчаслівы...*

*Бо не ведае, не знае,*
*што ў забранай той краіне*
*на яго Пагоню зграю*
*нацкавалі — Вершнік гіне...*

*Што арнат залатарунны*
*тканай ім да скону мовы*
*разарвалі ўнукі-гуны,*
*і крывёй барвеюць словы:*

*БЕЛАРУСЬ, РАДЗІМА, ВОЛЯ!*
*Спі, Страціме, на чужыне...*
*Не дай Бог табе юдолі*
*счужанець у роднай гліне.*

### Гліняная імша

Светлай памяці прабабулі ВОЛЬП

*Ад пужання, уроку, улёку,*
*ад прастуды, каб вогнік знік...*
*Ты шаптала над гліняным глёкам,*
*загарнуўшы яго ў ручнік.*

*Тройчы дзьмула ў яго, а потым*
*адганяла ім духаў злых,*
*што мяне аблівалі потам,*
*адбіралі і зрок, і слых.*

*Я з таемных тваіх маленняў,*
*я з глінянай тваёй імшы*
*скраў пярынку твайго агменю,*
*скраў святлінку тваёй душы...*

*Ад пужання, уроку, ўлёку...*
*Беражы мяне, беражы.*

### Батлейка

*Драўлянае рэха часоў Бэтлеема,*
*Драўляная памяць драўляных вякоў.*
*Драўляная зорка. Драўлянае неба.*
*Драўляная кроў з-пад драўляных цвікоў...*

*Драўлянага смеху драўляныя вусны,*
*Драўляныя словы з драўляных псалмоў.*
*Драўлянае шчасце, каханне, спакуса...*
*Драўляныя крылы, драўляны анёл.*

*Драўляныя крокі, драўляныя крыкі.*
*Драўляныя яслі, драўляны мароз.*
*Драўляныя слёзы драўлянай Марыі.*
*Драўляная Смерць і драўляны Хрыстос.*

### Страха

*Саламяна-каляны дождж,*
*што застыў залатою лавай...*
*Хто снапы твае клаў пад нож,*
*хто раўняў для раўнівай славы?*

*Каб ні кроплі з густых залеваў*
*не працекла пад промні крокваў,*
*каб сасмяглы ад спёкі хлеў*
*марна марыў пра меч "Прамоклаў"...*

*Пад страхою — кубло-гняздо.*
*Над страхою — анёл-прыўкраса.*
*У страсе — схоў старых нажоў...*
*Без страхі дом, як поп без расы.*

*На страху нападае жах*
*кожны раз, калі ў п'яным гневе*
*з-пад сякеры ляціць на дах —*
*вестуном перуновым — певень.*

### Прымыльнік

*Ты для лазні — надзейны тыльнік.*
*Твой начны кватарант кажан*
*называе цябе, Прымыльнік,*
*не іначай, як толькі — Пан.*

*Слупянеў ад красы дзявочай...*
*Чырванеў за мужчын не раз,*
*калі тыя на схіле ночы*
*ад бясілля лупілі ў таз...*

*Бо на мулкіх палках кляновых*
*аж да раніцы — як заснуць?!*
*Водар венікаў б'е ў галовы,*
*запрашае ў раку нырнуць...*

*У прымыльніку добра п'ецца...*
*Піва куфаль — тут боскім дарам.*
*Мы прыходзім сюды раздзецца,*
*каб душу апрануць у пару.*

### Верш

Ахвярую Бум-бам-літу

*Хутка дажджы і восень.*
*Час несусветнай скрухі...*
*Час, калі ў крушні зносяць*
*скруху чмялі і мухі.*

*Час, калі ў дзікі вырай*
*вытурыць птушак голад.*
*Час, калі сонца-гіру*
*скрадуць — піліць на золата...*

*Хутка дажджы і скруха.*
*Хутка хаўтуры Лета...*
*Хутка чмялі і мухі*
*трапяць у верш паэта.*

●

*Вечар — сляпым Гамерам...*
*Човен на чорных хвалях.*
*Ноч у чаўне з памерлым —*
*Днём адплыве за далеч.*

*Так у жыцці бывае —*
*смерць і каханне побач.*
*Дзень без начы згарае.*
*Ноч апране жалобу...*

*Чорную ноч — дзень белы.*
*Смерць і жыццё з'ядналі.*
*Вечар — сляпым Гамерам.*
*Човен на чорных хвалях.*

### Ці страшна?..

Барысу ПЯТРОВІЧУ

*— Ці страшна жыць успамінам? —*
*Дзяцінства. Ігруша. Дзічкі.*
*— Страшней — дачакацца сына —*
*і ноч — без адзінай знічкі...*

*— Ці страшна хадзіць па паветры?*
*Апоўнач вакно — магілай...*
*— Калі ты ў хаўрусе з ветрам*
*не надта, бо маеш крылы.*

*— Ці страшна душы без Храма?*
*Забудуць спытаць — адлучаць...*
*— Калі твая кроў — атрамант —*
*не страшна — крыху балюча.*

### У музеі

*Музыка музейнае цішы.*
*Смутак безнадзейнае душы.*
*З адзінотай келіх на дваіх...*
*Дзе такі прывідны навакольны свет.*
*Дзе такі уяўны незямны паэт.*
*Дзе ў пакоі цьмяным чуецца уздых...*
*Быццам "фортэ" "п'яну" занімае дых.*
*Дзе усё ахутаў дзьмухаўцовы дым...*
*Дзе ніхто не здзьмухне віфліемскі пыл*

я выказаў у артыкуле ў газеце “Звязда” з абсалютна, паўтараю, з абсалютна канкрэтнымі прапановамі. Магчыма, гэтыя прапановы спецыялістам маглі здацца недастаткова выверанымі, недастаткова прафесійнымі, але яны былі абсалютна канкрэтнымі, тое, што датычыць школы, што датычыць месца беларускай мовы ў школе, што датычыць месца культуры, гісторыі ў навучальным і выхаваўчым працэсах у школах.

Вось на гэты мой артыкул ад імя Таварыства беларускай мовы, дзе ад імя многіх і многіх людзей выказаны прапановы, ні Міністэрства адукацыі не адгукнулася, ні тыя структуры, якія курыруюць ці кіруюць гэтым міністэрствам, іх гэта не цікавіць. У мяне такое адчуванне, што яны заняты нечым іншым. Мы гаворым пра роўнасць, пра роўнасць беларускай і рускай моў, якая была заяўлена майскім рэферэндумам 1995 года, але ёсць роўнасць заяўленая, зафіксаваная ў дакументах, і ёсць роўнасць рэальная. І тут я хачу падтрымаць Уладзіміра Пракопавіча (Някляева) у тым, што ёсць рэальнасць, ёсць тое, ад чаго нікуды не ўцячэш, але ёсць, ці павінна быць, нацыянальная дзяржаўная палітыка. Між іншым, я ў “Звяздзе” і пісаў пра тое, што, відаць, настаў час дзяржаве прыняць закон ці пастанову, нейкае рашэнне ў падтрымку беларускай мовы, з якой, я думаю, ніхто не будзе гэтага адмаўляць, у нас праблемы. Няпростая сітуацыя ў нас з дзвюма мовамі. Але ж трэба, відаць, разважаць, трэба думаць, чаму ў Расіі, Расія - федэрацыя, значыць, некалькі нацыянальнасцей, якія маюць свае нейкія дзяржаўныя інстытуты,- а мова адна дзяржаўная, адна. А чаму ў нас унітарная, запісана ў Канстытуцыі, унітарная дзяржава, а мовы дзве. Так склалася гістарычна, мы гэта прызналі, мы гэта запісалі, а дзе гэта роўнасць рэальная, дзе? Вось сёння мы прыйшлі, мы пісьменнікі, як правільна сказаў Уладзімір Пракопавіч, для нас гэта жыццё. Для некаторых чыноўнікаў, якія да нас наязджаюць, яшчэ з часоў савецкай улады, для іх гэта месца камандзіроўкі - Беларусь, месца службы, месца выканання, так сказаць, нейкага задання.

З чаго, як мне здаецца, трэба пачынаць. Трэба пачынаць з таго, што беларуская мова разам з рускай павінна быць раўнапраўнай на ўсіх узроўнях. Я вельмі люблю ўкраінцаў, маіх сяброў, як і расейцаў, у мяне сяброў там нікольні не менш, чым у чыноўнікаў, якія сёння правяць баль у Беларусі, і сябры дастойныя, паверце мне. Ім незразумела тое, што робіцца ў нас з беларускай мовай. Магчыма, былі пераборы, гаворкі няма, магчыма, недзе канкрэтна былі пераборы з беларусізацыяй. Дык давайце мы іх спакойна выправім, а не будзем усё закрэсліваць, і добрае, і не надта добрае, што было зроблена.

Яшчэ адна праблема - улада і творцы. Талент - рэдкасць, талент часта нязручны, можа, нават і непрыемны. І так бывае. Але ўлада, у якой няма культуры, у якой няма інтэлігенцыі, гэта ўлада можа быць нейкі час, можа,нават даволі моцнай быць, але ў гісторыі яна наўрад ці застанецца і рана ці позна рухне. Гэта зноў жа закон.

Я хачу сказаць, што трэба ўлічваць, калі гэта сапраўды талент, і калі гэты талент яркі, патрэбны народу, трэба ўлічваць яго асаблівасці і браць галоўнае, а не накідвацца на яго з радасцю, прытым, гэта ж вялікая радасць для бяздараў, што вось таленавітага чалавека ўзялі і збэсцілі, вось узялі Быкава і растапталі. Ай, якая радасць для бяздарных. Значыць, можна яго церці, і я недзе там ледзь не на гэта месца стану.

А вось калі мы гаворым (я гэта на сабе пераканаўся, працуючы за мяжой), калі мы гаворым пра Быкава - так, да цябе павага, як да прадстаўніка дзяржавы, як да прадстаўніка гэтай літаратуры і нацыянальнасці. Таму даражыць трэба талентамі, давяраць трэба талентам. Іх небагата і трэба, каб лепшыя свае творы яны пісалі на Радзіме.

І апошняе: (даруйце, я трошкі блытана гавару) яшчэ адна праблема, праблема вельмі тонкая, але я быў бы няшчыры, калі б я пра яе не сказаў. Гэта кадры, якія кіруюць літаратурай, якія, скажам так, абавязаны быць ад імя ўлады ў кантактах з творцамі, не толькі з пісьменнікамі, але і з мастакамі, кампазітарамі, артыстамі, кінематаграфістамі. Залежыць ад іх вельмі шмат, таму што не да ўсяго ў вас даходзяць рукі, не на ўсё ў вас хапае часу, і гэта абсалютна заканамерна і правільна. І мы памятаем такія кадры, як, напрыклад, Аляксандр Нікіфаравіч Аксёнаў, які вельмі часта займаўся пытаннямі літаратурнымі, культурнымі, і Ніну Лявонаўну Сняжкову, і Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна, і іншых. Быў свой час, былі свае патрабаванні, былі свае ўмовы, і недахопаў у іх таксама хапала. Але ў гэтых людзей было адно - вялікая павага да творцаў і вялікае жаданне зразумець іх і дапамагчы ім. Вельмі добра, што Уладзімір Пятровіч (Замяталін) прысутнічае, бо было б непрыгожа, калі б я гаварыў у яго адсутнасць. Я не помню яго ні на прэм’ерах спектакляў, ні на адкрыцці выставак сур’ёзных, грунтоўных, выдатных нашых майстроў, я не помню ні нейкіх яго такіх выступленняў, хай нават неафіцыйных, паўафіцыйных, ці што, дзе б я бачыў, што ён цікавіцца сённяшнім днём літаратуры, мастацтва, яму цікавыя людзі гэтай літаратуры і гэтага мастацтва. Мне здаецца, што ён па прычыне сваёй прафесіі, свайго жыццёвага шляху залішне паверыў у некаторыя ідэі, якія так, як ён робіць, наўрад ці дадуць вялікі плён. Ён залішне захапіўся бяздумнай падтрымкай Славянскага сабора. А там трэба яшчэ вельмі і вельмі разбірацца, дзе сапраўдная славянская ідэя, за якую мы ўсе дзвюма рукамі, а дзе кан’юнктура, дзе спекуляцыя, дзе падтрымка нялепшых сіл і ў Расіі, і ў іншых славянскіх краінах. Я думаю, ён залішне захапіўся паказухай, фестывалямі.

У заключэнне зноў жа хачу вярнуцца да таго, што ўжо сказаў. Беларуская культура, беларускі народ, беларуская мова - гэта наша жыццё, і мы хацелі б, каб гэта разумелі і нашы дзяржаўныя чыноўнікі, і кіраўніцтва дзяржавы, і каб гэта было відаць не ў прамовах, не ў закліках, а ў канкрэтных рашэннях і ў канкрэтных дзеяннях.

**А. Р.Лукашэнка:** Генадзь Мікалаевіч, я павінен адказаць на пастаўленыя пытанні, каб і наступны прамоўца мог уступіць у палеміку. Я згодзен, што вельмі многае залежыць ад прэзідэнта, паколькі рашэнне прэзідэнта, яго даручэнні, нават калі яны не заключаны ў нарматыўныя акты, павінны выконвацца. Я падтрымліваю вас у тым, што пасля нашай сустрэчы мы павінны зрабіць пэўныя вывады з праведзенай гутаркі.

Вы Генадзь Мікалаевіч, як былы чыноўнік, вельмі ўмела “закранулі” некалькіх чыноўнікаў, у тым ліку і Уладзіміра Пятровіча Замяталіна. Я, Уладзімір Пятровіч, прашу ў Вас прабачэння за тое, што Генадзь Мікалаевіч быў крыху эмацыянальны. І прашу не так балюча ўспрымаць гэтыя заўвагі.

Ведаеце, я Вам скажу, што чыноўнік, які не праводзіць лінію прэзідэнта, з прэзідэнтам працаваць не будзе. Так што чыноўнікі выконвалі і выконваюць волю прэзідэнта. Крытыка Замяталіна - крытыка ў мой адрас. Я ўспрымаю Вашу пазіцыю і з ёй лічуся. Але на 50 працэнтаў я не буду праводзіць тую палітыку, якую Вы цяпер выклалі. У нас дыялог сёння. Я вельмі хачу ведаць Вашу пазіцыю, Вашу думку. І лічу, што такая ваяўнічасць цяпер, калі гэта Ваша выступленне адпавядае пазіцыі Таварыства беларускай мовы, непрымальная для кіраўніка дзяржавы. Разумееце, у нас у грамадстве ўсталявалася пакуль кволая раўнавага, сацыяльны мір. І я хачу і імкнуся ўмацаваць яго.

Ці адчуваю я сітуацыю? Так. Я проста абавязаны яе адчуваць. Мне “даносяць” усякае. У тым ліку і тое, што Вы казалі: і правільна, і няправільна. Многія хочуць на мяне паўплываць, іншыя каля ног “шоргаюцца”, што часам спатыкаешся. Усё гэта ёсць. Але няўжо Вы верыце ў тое, што я магу пайсці на повадзе ў нейкага чыноўніка або групы чыноўнікаў?..

Мяне розныя групы па-рознаму ацэньваюць. Вось, Уладзімір Някляеў, напрыклад, станоўча ацэньвае нейкі мой учынак. Вы адмоўна. Усё залежыць ад чалавека і яго прынцыпаў. Я , дарэчы, не прытрымліваюся пазіцыі, што “цар добры, баяры дрэнныя”. Гэта лухта. У мяне дастаткова энергіі і магчымасцей з-за свайго ўзросту. І сямутаму я ўжо і навучыўся, можа, у апошні час. У тым ліку і Вы мяне вучылі і вучыце. Я ўспрымаю ўсё.

Я бываю пастаянна на месцах і бачу і тое, і гэта. Часам сам за рулём, без кавалькады машын, без аховы і іншага. Як кажуць у народзе, у кожную дзірку ўлезу і пагляджу, што там адбываецца. Таму не думайце, што калі існуюць праблемы вакол беларускага ліцэя, дык гэта Замяталін іх стварыў. Шчыра скажу: я ведаю гэту праблему. Мне Казулін дакладваў, мне Замяталін дакладваў. Вы, дарэчы, яго пазіцыі па ліцэю не ведаеце. Ліцэй даўно б ужо разбурылі, калі б не Замяталін. Але мая пазіцыя, як Вы правільна сказалі, ў тым, што нельга разбураць добрае, што там створана. Таму я даручыў Уладзіміру Пятровічу: “бурыць нічога не трэба, трэба будынак нармальны пабудаваць і сістэмна ўключыць гэты ліцэй у дзяржаўную структуру”. У гэтым ліцэі павінна прысутнічаць дзяржава. Я ніколі не разбуру тое добрае, што зрабілі ў гэтым ліцэі.

Вядома, я буду праводзіць спакойную дзяржаўную палітыку. Я хачу, каб ва ўсіх школьных установах займаліся выхаваннем і адукацыяй, каб у навучальных установах не існавалі арганізацыі тыпу “Малады фронт”. “Фронт”, “фронт” - вакол фронт! Надакучыла гэта. Гэта мая пазіцыя. Будзе іншы кіраўнік дзяржавы, можа, ён іншую палітыку будзе праводзіць. А я не дазволю уцягваць дзяцей у брудную палітыку. Таму ў школе павінна прысутнічаць дзяржава, дзяржава і яшчэ раз дзяржава!

Вас, напэўна, Генадзь Мікалаевіч, няправільна праінфармавалі па гэтаму пытанню. Але пазіцыя адна: ліцэй павінен быць празрыстым для дзяржавы.

Адзіным прыкладам Вы мяне за жывое закранулі - гэта з Васілём Быкавым. Але Вы ж ведаеце маю пазіцыю адносна Васіля Быкава. На яго творах рос, я ўсе яго кнігі перачытаў. Яго пазіцыя адносна прэзідэнта Беларусі цалкам абсурдная. Я не разумею, за што ён на мяне накінуўся: “фашызм”, “дыктатура” і іншае. Ні разу не бачыў чалавека, і - “такі-сякі”. Я ж аб ім нідзе дрэнна не сказаў. Нават будучы кандыдатам у прэзідэнты, калі ў БДУ выступаў, а ён у гэты час падтрымліваў Пазняка. І потым, калі мяне выбралі прэзідэнтам і я выступаў у нашым педуніверсітэце, мне задалі пытанне аб маіх адносінах да Васіля Быкава. Я сказаў: “Што зробіш, не склаліся ў нас адносіны з Васілём Быкавым. Але гэта таленавіты чалавек!”. Вось мой даслоўны адказ. Гэта сапраўды таленавіты чалавек. Гэта вялікі чалавек. І да Быкава мы ставімся не горш, чым да яго ставіліся камуністы, узнагароджваючы яго ордэнамі, медалямі і гэтак далей. Мы сапраўды па-чалавечы да яго падыходзім. Таму, Генадзь Мікалаевіч, гэта яўна няўдачны прыклад з Быкавым. Нават перад яго ад'ездам я папрасіў: звяжыцеся ад майго імя з Быкавым, спытайце, што яму трэба, якая падтрымка. Не хоча, каб прэзідэнт яго падтрымліваў, я знайду магчымасць зрабіць гэта іншымі шляхамі. Але, на жаль, яго акружэнню больш, чым яму, патрэбна была акцыя.

Ні адзін з тых, хто прысутнічае тут, не скажа, што прэзідэнт стварыў немагчымую абстаноўку вакол Быкава. Ні адзін. І ў Расіі, усюды я гаварыў пра Быкава ў станоўчым сэнсе. Але для мяне Быкаў - той Быкаў, на якім я вырас. Я часта кажу: “Прэзідэнт такі, якім вы яго зрабілі”. Гэта адносіцца і да пісьменнікаў. І анекдот пра Сталіна пацвярджае тое, аб чым я сказаў: якія ёсць пісьменнікі, з такімі я працую і буду працаваць. Але я вам адкрыта кажу, што я буду вас падтрымліваць, калі вы будзеце прытрымлівацца дзяржаўнай палітыкі. Не майго курсу. Крытыкуйце яго, калі вам хочацца. Прыгнятаць я нікога не збіраюся. Ну што толку, што прыгняталі вас, некаторых, раней? Ад гэтага яны нічога не атрымалі. Я ўмею рабіць вывады з гісторыі. Я сам гісторык і разумею, што было. Толькі я яшчэ раз падкрэсліваю: многія з вас гэты лад сацыялістычны хвалілі, выраслі на гэтым ладзе, чыноўнікаў і правадыроў гэтых узвышалі. Усё гэта надрукавана, у бібліятэках ёсць. Раптам нейкая, разумееце, “навальніца”. Усе хутка перавярнуліся. Ну, не ўсе, вядома. У прыватнасці, я не паспеў. Пачакайце! Да 60 гадоў і я змянюся, можа, змяню і свой курс. Пачакаць трэба, не трэба ж на ўсіх ціснуць, і на мяне ў тым ліку, і на тых, хто побач са мною. А тое, што Вы сказалі пра Замяталіна, для мяне гэта лішняе пацвярджэнне, што ёсць асобныя міністры, якім Замяталін як бы упоперак горла ўстаў. Але няхай і гэта будзе для балансу. Я разбяруся ва ўсім. Дурное мне ў галаву не ўкладуць. Я разбяруся і ў Таварыстве беларускай мовы і ва ўсім іншым.

А калі будзеце наступны раз друкаваць адкрытыя пісьмы, падумайце, дзе друкаваць. Калі б Вы хацелі да прэзідэнта дабрацца з канкрэтнай праблемай, Вы заўсёды маглі б гэта зрабіць праз рэдактараў нашых газет. Яны маюць прамую сувязь з прэзідэнтам. Кнопку націснуў: “Аляксандр Рыгоравіч, у Вас у прыёмнай ад Бураўкіна пісьмо”. І мне адразу б яго на стол паклалі. Я вечарам яго прачытаў бы. Няма ніякіх праблем. Уся бяда, напэўна, у тым, што, сапраўды, мы рэдка сустракаемся, і ўвогуле я зрабіў для сябе вывад, што Бураўкіна мы страцілі на пэўны час. Страцілі таму, што, можа, у чыноўнікаў рукі не дайшлі. Але Сасноўскі ж ваш чалавек. Але ён яшчэ і міністр і заўсёды ў кантакце са мной. Звярніцеся да яго. Вось Вы кажаце: “Чаму мы тры гады таму не сустрэліся?” Ды не маглі мы тры гады назад сустрэцца, Генадзь Мікалаевіч. Таму што вы глядзелі на мяне, як на хлопчыка, які з компасам па рэспубліцы хадзіў. Выбраць прэзідэнта - гэта яшчэ не значыць, што ён ужо прэзідэнт. Трэба стаць прэзідэнтам. І толькі праз тры гады, можа, я стаў прэзідэнтам, калі да майго слова пачалі прыслухоўвацца, а чыноўнікі - без пярэчання выконваць дамоўленасці. Калі б мы тры гады таму сустрэліся, дык якія рашэнні маглі б прыняць? На жаль, ніякіх. А сёння іншая сітуацыя, вы цудоўна разумееце, гэта гутарка з прыняццем канкрэтных рашэнняў. И не трэба ніякіх указаў падпісваць. Журналісты сёння ж праінфармуюць аб нашай сустрэчы. І гэта ўжо будзе аб многім гаварыць. Для ўсіх нас гэта вельмі важна.

Вы кажаце аб законе ў абарону беларускай мовы. Ведаеце, у Вас той жа максімалізм, што і ў мяне. Вы хочаце за адно імгненне зрабіць усё... Я таксама хачу, каб заўтра 200 долараў “сярэдні заробак быў”. Праўда, лічыць у нас не ўсе ўмеюць. Я вам магу даказаць, што ў нас сёння, можа, нават і больш, чым 200 долараў заробак. Давайце ўлічваць, што вы за кватэру сёння плаціце якіх-небудзь 10 долараў, а “ў Прыбалтыцы, напрыклад, плацяць за трохпакаёвую кватэру 150 долараў”. Вы не думаеце аб тым, што 140 долараў я як кіраўнік дзяржавы павінен за кожную кватэру кампенсаваць? Гэта, дарэчы, для палітыкаў, якія абяцаюць 200 долараў.

Мы можам прыняць закон у абарону беларускай мовы. Можам! А што ён дасць на гэтым этапе? Хочаце яшчэ раз сакануць або перагнуць палку? Закон трэба прымаць толькі той, які гатова ўспрыняць усё грамадства. Давайце больш тонка гэта зробім, больш разумна, без націску зробім, праз вашы цудоўныя творы, праз перакананні і прапаганду.

Вось Вы казалі тут аб узаемаадносінах улады і інтэлігенцыі, аб узаемнай падтрымцы. Калі разважаць у такім напрамку, то Вы проста павінны падтрымліваць мяне на кожным кроку. Вядома, я тут утрырую, але калі сур'ёзна, то назавіце мне іншага “дрэннага” прэзідэнта, які прыняў нарматыўныя акты, непасрэдна адрасаваныя нашым талентам? Або назавіце такія акты. Не было іх раней. Стаўшы кіраўніком дзяржавы, я прыняў тры ці чатыры ўказы па падтрымцы таленавітай моладзі, па падтрымцы вучоных. Па маёй ініцыятыве створаны фонды. Цяпер мільёны долараў мы выдзяляем для падтрымкі талентаў ва ўсіх сферах. Я разумею таленты гэтак жа, як і вы. Таленты - гэта “штучны тавар”. Знайдзіце гэтыя таленты сярод 400 чалавек у сваім пісьменніцкім асяроддзі. Вылічыце, колькі іх? Вы думаеце, шмат? Не. Вы гэта самі вельмі добра разумееце. Калі ў вас ёсць, напрыклад, дзесяць “шамякіных”, то пакладзіце мне на стол іх творы. Я іх нанава ўсе перачытаю і неадкладна прыму рашэнне ў падтрымку гэтых аўтараў.

Нядаўна прынеслі праект дакумента аб падтрымцы Шамякіна. Я сказаў, што Шамякін расцэніць гэта як падачку, таму даручыў пашырыць спіс фігурамі такога ж маштабу. Цяпер шукаюць. А вы знайшлі іх, унеслі прапановы прэзідэнту? Колькі я вас прасіў аб гэтым? Вось гэта быў бы канкрэтны клопат аб чалавеку. Каго яшчэ падтрымаць, калі ласка, называйце. Неадкладна будзем выдаваць значныя кнігі. Але ўчора па тэлебачанні ў рэпартажы з Гомельскай вобласці пісьменнік Бароўскі кажа, што ў аднаго пісьменніка папка пухне, у другога - а выдаць не могуць. А ў канцы заяўляе: “Мы не ведаем, чым жыве вобласць”. А я думаю: “Божа, аб чым жа ты тады пісаў, калі не ведаеш, чым жыве твой край?”

Можа, ён памыліўся. Я прашу прабачэння. Але пісьменнік павінен ведаць, чым жыве яго народ, бо ўсё тое, што ён выдумае ў кабінеце, - пустая філасофія. А для сапраўднага генія, талента - на якой мове пісаць - не мае рашаючага значэння.

**Г.М.Бураўкін**: Сапраўдны геній - толькі на роднай мове.

**А.Р.Лукашэнка:** Гэта зусім іншае пытанне. Гэта правільна, што ўсю сваю сутнасць можна выказаць у творы толькі тады, калі чалавек піша на той мове, на якой думае. Я рускую школу закончыў, але цудоўна валодаю беларускай мовай. Ніжэй, чым на “выдатна”, я ніколі не пісаў ні сачыненне, ні дыктант. Я дзве гадзіны паразмаўляю на беларускай мове, і вы не адрозніце маю гаворку ад сваёй. Але я часам задумваюся: гэта ж вы, калі працавалі ў органах улады, або ў цесных з імі кантактах, агітавалі за рускую мову, за агульнасць савецкага народа, навучылі мяне рускай мове. Хоць гэта мова, якая належыць не толькі рускаму народу, я прэтэндую на тое, што гэта і наша мова. Там і наша часцінка, беларуская. Але для мяне як палітыка пытанне двухмоўя ўжо вырашана: у Беларусі роўнасць моў - і рускай, і беларускай. А калі недзе дзікасці нейкія праяўляюцца, хтосьці з чыноўнікаў забараніў беларускую мову, беларускія класы, даў каманду на згортванне вывучэння беларускай мовы, робіць націск на бацькоў - рашуча буду спыняць, нават калі гэта адзінкавыя факты.

**У.В.Гніламедаў, дырэктар Інстытута літаратуры імя Я.Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі:** Я дазволю сабе такі кароткі ўспамін пра гэты будынак, які цяпер, відаць, правільна, справядліва называецца палацам. Некалі я працаваў у гэтым будынку. Вось тут месціўся ЦК КПБ, быў у ім вядомы аддзел культуры, а ў ім невялічкі сектар мастацкай літаратуры. У гэтым сектары я працаваў і вось не магу пра гэта не ўзгадаць.

Я помню, што і тады гэтая праблема, якую закрануў шаноўны Генадзь Мікалаевіч, гэта праблема была: мастак і ўлада. Але нам у тым пашчасціла, што беларуская літаратура мела выдатнага добразычліўца ў асобе Пятра Міронавіча Машэрава. Ён нам сам прапаноўваў формы работы з пісьменніцкай арганізацыяй. Мы практыкавалі тады семінары, паездкі ў розныя рэгіёны, на прадпрыемствы, у калгасы, саўгасы, навуковыя ўстановы. І там адбываліся сустрэчы і з першым сакратаром, і з іншымі дзеячамі ЦК, і з простымі людзьмі. І ўсё гэта было вельмі цікава.

Правільна казаў Аляксандр Рыгоравіч, пісьменнікі маюць востры дэфіцыт інфармацыі. Таму, мне здаецца, што былую практыку можна было б і сёння паспрабаваць.

*(Працяг на стар. 12—13. )*

## Хроснаму бацьку буквара



**5—6 верасня гэтага года ў г. Орша праходзіла свята беларускага пісьменства. Рыхтуючыся да свята, горад шмат зрабіў для ўвекавечання памяці пра сваё мінулае. Была выканана паменшаная копія Рагвалодавага каменя, з'явіліся новыя дошкі на помніках архітэктуры, быў адкрыты музей У. Караткевіча. Не важна, што музей пакуль пусты. Галоўнае, што ёсць будынак з дошкай "Музей Уладзіміра Караткевіча" (аўтар дошкі — скульптар Ігар Голубеў) і ёсць намер аршанцаў сабраць экспазіцыю, дастойную свайго вялікага земляка.**

**Хочацца адзначыць яшчэ адну падзею свята. Гэта адкрыццё ў Куцейнскай лаўры мемарыяльнай дошкі Спірыдону Собалю, першадрукару, асветніку, заснавальніку друкарні Куцейнскага Багаяўленскага манастыра (скульптар І. Голубеў, архітэктар В. Безансон, ліцейная фірма "Юнома").**

**Мэтай свайго жыцця Спірыдон Собаль бачыў друкаванне кніг і навучанне дзяцей. Ён быў "рэктарам школы магілёўскае", кіраваў праваслаўнай школай у Кіеве, а з 1628 г. усе свае сілы аддаваў "друкаванню пісанняў божых". Росквіт яго друкарскай дзейнасці прыпаў на перыяд працы ў Куцейна (у тыя часы гэта быў мужчынскі Багаяўленскі манастыр, размешчаны ў жывапісным кутку векавога леса пад Оршай). Тут у 1630—32 гг. ён надрукаваў "Псалтыр", "Буквар", "Малітвы паўсядзённыя", "Часаслоў".**



**З кніг, надрукаваных С. Собалем, асаблівае месца займае "Буквар сиречь, начало учения детям, начинаючим чтению извыкати". Значэнне гэтага буквара не толькі ў тым, што ён з'явіўся адным з першых друкаваных буквароў на Беларусі, але і ў тым, што С. Собаль, маючы вопыт практычнага выкладання, заклаў у яго асабістую методыку навучання. Буквар С. Собаля карыстаўся вялікім поспехам, і менавіта дзякуючы яму гэтае слова замацавалася за кнігамі падобнага роду. Такім чынам, С. Собаля можна назваць хросным бацькам буквара.**

**На дошцы Спірыдон Собаль паказаны пад арачнымі зводамі манастыра побач з друкарскім станком, са свежым адбіткам кніжнай старонкі ў руцэ. Цудоўны па сваёй адухоўленасці твар выпраменьвае дабрату і пакорлівасць, уласцівыя толькі глыбока веруючаму чалавеку. Скульптурны партрэт С. Собаля, выкананы І. Голубевым, настолькі пераканаўчы, што безагаворачна верыш: так, менавіта такім і быў гэты вялікі чалавек.**

**Радуе, што на адкрыцці мемарыяльнай дошкі прысутнічала мноства школьнікаў. З выступленняў вучоных НАН РБ, прадстаўнікоў духавенства, аддзела культуры г. Оршы яны даведаліся шмат новага пра гісторыю асветніцтва. Гэта былі хвіліны яднання з мінулым, усведамлення сваіх духоўных і культурных каранёў, без чаго маладому чалавеку вельмі цяжка выбраць правільную дарогу ў жыцці.**

**З гэтага часу мемарыяльная дошка будзе служыць для наведвальнікаў Куцейнскай лаўры ключом да спазнання яе слаўнай гісторыі і культурнай спадчыны Беларусі, якая, як гэта ні сумна, дагэтуль застаецца невядомай для большасці суайчыннікаў.**

**Валянціна СІДАРАВА**

# Прэзідэнт — пісьменнікі: дыялог дзеля Беларусі

*(Працяг. Пачатак на стар. 5,10—11)*

Часам для пісьменніка дастаткова глянуць у вочы чалавеку, каб зразумець, чым ён жыве.

Інстытут літаратуры займаецца навуковай працай, літаратуразнаўствам. Гэта не менш важна, чым сама мастацкая літаратура, чым сама мастацкая практыка. Літаратуразнаўства - гэта таксама чалавеказнаўства, і ў XXI стагоддзе мы без гэтай гуманітарнай навукі проста не трапім. Тым болей, калі хочам, каб мы мелі нейкае духоўнае, маральнае, нейкае ідэйнае забеспячэнне. Інстытут літаратуры адчувае сваю адказнасць, імкнецца правільна разумець свае задачы. У нас ёсць пра што расказаць і сёння. У нас ёсць салідныя шматтомныя навуковыя працы, у якіх абагульнены вопыт беларускай літаратуры са старажытнасці да сучаснасці. Напрыклад, "Гісторыя беларуска-рускіх літаратурных сувязей" у 4-х тамах, якая мела і мае добрую прэсу, у тым ліку і ў рэспубліцы, і за яе межамі, гісторыя нашай літаратуры бягучага стагоддзя, таксама ў 4-х тамах, рыхтуецца гісторыя старажытнай літаратуры. Гэта вынік напружанай працы нашага калектыву, старэйшага и малодшага пакаленняў літаратуразнаўцаў.

Разам з тым у нас нямала праблем. Мне неяк снілася, што нарэшце мае быць падпісаны Указ прэзідэнта, які чакаецца ў Акадэміі навук, і не толькі ў акадэміі. Я думаю, што гэта зрушыць з месца шмат спраў. Мы павінны клапаціцца і пра кадры, і пра тое, каб нацыянальная ідэя не выглядала сёння, так сказаць, ну, не зусім акрэсленай. Тое, што акрэслена словам "суверэнітэт", "незалежнасць", накладвае дадатковую адказнасць на тыя інстытуты, якія, так сказаць, па вызначэнні, з'яўляюцца нацыянальнымі інстытутамі. Гэта інстытуты, якія займаюцца нацыянальнымі праблемамі: культура, мова, філасофія, сацыялогія. Пра гэтыя інстытуты трэба клапаціцца, таму што за іх у нас спытае і цяперашняе стагоддзе, і асабліва наступнае, якое, кажуць, павінна быць стагоддзем гуманітарным, інакш яно можа быць ніякім.

Што я хацеў бы? Можа, камусьці хацелася б заштурхнуць у нейкую такую глухую, неканструктыўную апазіцыю. Я павінен сказаць, што мы людзі жывыя, здольныя рэагаваць на падзеі, адчуваем сваю адказнасць, і ад такога неканструктывізму адмаўляемся. Хочам неяк ісці, як раней казалі, у нагу з часам.

**А.Р.Лукашэнка:** Уладзімір Васільевіч, Вы мне дапамаглі атрымаць адказ на важнае пытанне. Я, здаецца, зразумеў, у чым не меў рацыі ва ўзаемаадносінах з пісьменнікамі. Я думаў, што пісьменнік сам ва ўсім разбярэцца. Прачытае, пачуе і разбярэцца. Аказваецца, не зусім так.

Мне шкада, што не было ў пісьменнікаў кантактаў на ўзроўні кіраўніка дзяржавы і не ў афіцыйнай абстаноўцы ў рэзідэнцыі прэзідэнта, а, магчыма,дзесьці ў пісьменніцкім калектыве. Дапусцім, так, як я размаўляю з настаўнікамі, урачамі, са спартсменамі, з прадстаўнікамі харавога мастацтва, артыстамі балета. Я ў іх бываю на трэніроўках і рэпетыцыях. Зразумела, у выніку такіх нефармальных зносінаў з'яўляюцца нейкія новыя ідэі, новыя праекты.

**У.П.Някляеў:** Мабыць, у нас сумна.

**А.Р.Лукашэнка:** Гэта ўсё ад вас залежыць. У кінематаграфістаў я некалькі разоў быў. І мы ім аказалі значную фінансавую дапамогу, мы узварушылі кінастудыю. Напэўна, я пабываў ужо ў прадстаўнікоў усіх сфер нашай культуры і мастацтва, акрамя літаратуры.

Але я хачу ў нейкай ступені апраўдацца. Я чакаў. Больш, чым ад каго-небудзь, чакаў ад пісьменнікаў, калі яны вызначацца па-добраму, па-сапраўднаму.

У мяне заўсёды было пытанне, з кім вы? Не ў тым плане, са мной або не са мной. Але я усё-такі вырас на вашых творах, ува мне ваша пастаноўка пытання: вы з народам? Вы "ўсёй сваёй істотай ад народа ці не?" І я лічыў, што пераважная большасць нашых пісьменнікаў у гэты бурны час разгубілася, згубілася, наогул пайшла ад народа. Я чакаў змяненняў. Але пры гэтым нікога не прыгнятаў. Строга па бюджэту мы дапамагалі Саюзу пісьменнікаў, я ніколі гэты артыкул не ўразаў. Мы нікога не абрывалі, нікому пальцам не ўказвалі, якую б пазіцыю хто ні займаў, ці гэта Быкаў, Бураўкін ці Саюз пісьменнікаў у цэлым. Я думаў: зразумеюць пісьменнікі, бо разумныя людзі. Але не хапала з боку ўлады, відаць, большай інфармацыі і таго асабістага ўдзелу кіраўніка дзяржавы, як гэта, паводле вашых слоў, было пры Машэраве.

Ведаеце, калі б сітуацыя сёння была такой, як у часы Машэрава, я быў бы самым шчаслівым чалавекам. Усё дакладна, усё зразумела. Запланавалі - гэта будуем, гэта не будуем. Чым больш будуем, тым больш грошай даюць. Так жа было? Лаялі за неасваенне сродкаў. Не трэба было абаронай займацца, знешнюю палітыку вызначаць. Ідэі нейкія самастойнасці вылучаць. Усё было вылучана без нас саюзным цэнтрам. У гэтай каляіне было прасцей сустракацца не толькі з літаратарамі. А сёння - іншае.

Да прэзідэнцкіх выбараў была балбатня: "суверэнітэт", "незалежнасць". Ніхто нічога не вызначаў і нічога не было вызначана. Проста ішла дэмагогія, палітызацыя. Адзін цягнуў у адзін бок, другі - у другі. Адказнасці ніхто за гэта не нёс. Вышэйшым органам улады быў парламент. Што такое 370 ці 400 чалавек? За што яны адказваюць? І я там сядзеў. Сядзелі ў парламенце, цiснулі на гэтыя кнопкі. Хіба гэта адказнасць, якая павінна быць? Хто быў носьбітам "ідэі незалежнасці", калі ўжо на тое пайшло? БНФ? Вы ж сёння ведаеце, як яны разумелі "незалежнасць"? Як "незалежнасць" ад Усходу і поўную "залежнасць" ад Захаду. Зразумейце, няма і не можа быць абсалютнай незалежнасці не толькі для Беларусі, але нават для вялікай Расіі. Вы бачыце, у якія путы яна сёння трапіла? Хто скажа, што сёння Расія незалежная?

Ніхто да мяне, я сцвярджаю гэта, не праводзіў яшчэ так адкрыта - і ў гэтым, напэўна, мае праблемы - курс на незалежнасць нашай Беларусі. Ніхто. Яго і некаму было праводзіць.

Мы ўжо разабраліся з паняццем "незалежнасць". Але вось, я на Захад прыязджаю, да мяне галоўныя патрабаванні: "Заявіце аб незалежнасці". Калі ласка, кажу, вядома, мы незалежныя! І толькі праз год я зразумеў, чаго ад мяне на Захадзе хочуць: ніякіх кантактаў з Расіяй ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы. Поўная пераарыентацыя на Захад. Я кажу: добра, няхай будзе так. Няхай арыентацыя на Захад, там валюта, там быццам бы якаснае абсталяванне і іншае. Стаўлю канкрэтнае пытанне: якія тавары вы ў нас купіце? Як толькі я задаю гэта пытанне, наступае поўнае аняменне. Навошта ім нашы тавары? Калі так, то якія тады могуць быць узаемаадносіны? І куды б вы на маім месцы пайшлі? У Германію? Прабачце, што, наша "Палессе" там купяць, наш кормаўборачны камбайн? У іх ёсць "Ягуар". Яны што, расійскі "Дон-1500" купяць, камбайн збожжаўборачны? Так у іх ёсць машыны, якія працуюць суткамі і без страт збожжа. Хімічныя нашы валокны? Таксама не купяць. У іншых купяць. А калі не хопіць, то вось вам квота - столькі тон, прывязіце па такой цане, і не больш. Калійныя ўгнаенні? Так, патрэбны. Вось столькі і па такой цане - поўны дыктат.

Я кажу: слухайце, як жа я вам калійныя ўгнаенні павязу па 40 долараў за тону, калі я магу ў Кітаі прадаць за 80 долараў? Калі па 40 прадам, прыбытку не будзе. Пісьменнікаў нечым будзе падтрымаць. Грошы - гэта ж простая эканоміка: вось затраты, вось цана, розніца - гэта прыбытак. Вось вам узаемаадносіны і адносіны Захаду да Беларусі. Дык што ж я, буду карміць народ суверэнітэтам, дакладней, "размовамі пра суверэнітэт, незалежнасць, пра беларускую мову"? Дык ад гэтай гаварыльні сыты не будзеш. Таму я павінен быў спакойна вырашаць гэтыя пытанні, параіцца з народам і даць магчымасць людзям самім выбраць, з кім яму быць. Што датычыць мовы, дык ураўнаважыць моўную праблему - гэта вы павінны былі зрабіць, а не я. Не крычаць на вуліцах, не з транспарантамі хадзіць, а ўраўнаважыць яе. Як? Выпрацаваць методыку вось з гэтымі чыноўнікамі, што сядзяць сёння з вамі за адным сталом. А я павінен быў думаць, дзе кавалак хлеба для краіны зарабіць. І я яго пайшоў зарабляць там, дзе мог прадаць свой тавар. Дзе я мог яго прадаць? На рынках, якія ў нас былі, у першую чаргу - у Расіі. Аляксандр Паўлавіч, Вы прэзідэнт Акадэміі навук, хіба не так?

**А.П.Вайтовіч:** Цалкам правільна.

**А.Р.Лукашэнка:** Паехалі па іншых краінах, пабылі ў Сірыі, у Кітаі, В'етнаме, у Карэі, Егіпце, я не кажу ужо пра Расію. Усюды нас чакалі і прымалі. Але на Захадзе былі зусім іншыя адносіны. Нас на Захадзе зусім не таму не прынялі, што вось, маўляў, "дыктатар" у Беларусі, - ім глыбока напляваць, які дзе дыктатар. Калі ў той ці іншай краіне ёсць іх інтарэс, яны з усімі ў абдымку.

І калі я заявіў аб сваім інтарэсе - аб нашых таварах, аб нашай эканоміцы, - я стаў непатрэбным. Можа, трэба было не так пытанне ставіць, трэба было прыніжацца і прасіць. Але вы не навучылі мяне такой палітыцы. Я прама сказаў: "Не прымаю прасоўвання НАТА на Усход. Не прымаю такой эканомікі, калі хочуць нам паставіць на 2 мільярды долараў тавару, а ад нас узяць на 200 мільёнаў". Гэта ж вызначэнне курсу рубля, абарона уласнага таваравытворцы. Калі ты прадаеш менш, чым купляеш, - гэта самая вялікая катастрофа. Вось я і пайшоў туды, куды мог пайсці. Рынак жа даўно падзелены. Вам гэта вядома са школьнай парты. І прарвацца, пралезці на гэты рынак - вельмі цяжкая справа. Але мы і на Захадзе усё ж такі знайшлі партнёраў. Не важна, што яны там крычаць і што "па Драздах буслы лётаюць". Не ў гэтым справа. Вось толькі што, перад прыходам сюды, я прачытаў пісьмо кіраўніка кампаніі "Форд". Ён у нас пабудаваў завод. Дарэчы, СП яны стварылі з беларусамі адзінае за ўсю сваю гісторыю. Сёння гэты кіраўнік гатоў укласці ў Беларусь яшчэ 70 мільёнаў для таго, каб пашырыць вытворчасць аўтамабіляў. Так што адны крычаць, а бізнес ведае сваю справу. Ён кіраўнік буйнейшай кампаніі, якая падтрымліваецца ўрадам, кажа мне: "Калі ў Вас не будзе ўлады, я грошы сюды не ўкладу. Мне патрэбна ўлада, якая забяспечыць гарантыю маіх інвестыцый". Вось я і думаю, што, напэўна, не зусім мы няправільную палітыку праводзім. Улада, дысцыпліна, не будзе гэтага - нас расцiснуць. А тады аб суверэнітэце, незалежнасці і размовы не ўзнікне.

Не думайце, што тыя, якія сёння на амерыканскіх харчах сядзяць за "мяжой", хочуць нашай незалежнасці, суверэнітэту. У іх свае разлікі. На 300 мільёнаў долараў іх цяпер прафінансавалі праз ЦРУ, каб інфармацыйна накрыць Беларусь і ліць паток бруду, займацца ачарненнем, каб такім чынам паспрабаваць адхіліць законнага прэзідэнта ад улады. Што гэта за палітыка?

І якая незалежнасць маецца на ўвазе? Народ выбраў прэзідэнта, вызначыў гэту ўладу, падтрымлівае праводзімую палітыку, выказаўся на двух рэферэндумах. Народ - адзіная крыніца ўлады, так у Канстытуцыі запісана. Дык чаму некаторыя асобы выступаюць супраць народа, яго волі? Няўжо вас ніколі гэта пытанне не цікавіла? Няўжо вы не разумееце, што гэта якраз таму, што і прэзідэнт, і ўрад сёння робяць усё, каб выратаваць, абараніць незалежнасць? Які без хлеба суверэнітэт? Якая незалежнасць? А нам гавораць: "Хлеб не сей, мы табе прывязём". Сёння прывязуць, а заўтра? І за што купім гэты хлеб? А я гавару: сваё павінны сеяць. Свае пісьменнікі павінны пісаць, свае сяляне павінны сеяць, свае рабочыя павінны рабіць.

І калі вы за суверэнітэт, за незалежнасць, чаму вы мяне за чатыры гады прэзідэнцтва ні разу не запрасілі да сябе? "Раскажы нам, адкажы нам, калі ласка, на гэта пытанне, адкажы на тое!" Колькі разоў вы мяне запрасілі?

**У.П.Някляеў:** Сядзелі ціха.

**А.Р.Лукашэнка:** Правільна. Але ўжо хопіць. Давайце цяпер думаць не пра тое, як гаварыць аб суверэнітэце і незалежнасці, а як стварыць сапраўды суверэнную і незалежную дзяржаву. Калі на тое пайшло, я больш, чым усе вы, разам узятыя, прыхільнік нашай незалежнасці. Таму што я кіраўнік дзяржавы і займаюся гэтым пастаянна, а не ад выпадку да выпадку. Вось заўтра раніцай у мяне на прыёме Рэм Вяхіраў. Гэта газ, нафта. Праблема энергарэсурсаў - мой галоўны боль. Наперадзе зіма, а вас жа трэба абагрэць, і не толькі ў офісе, але і дома. Вось што такое для мяне незалежнасць і суверэнітэт. Мне прыходзіцца не толькі пастаянна вызначаць палітыку, але і па калгасах-саўгасах матацца. Таму што, на жаль, калі сам на месца не прыедзеш, людзі рукі паапускаюць і будуць скардзіцца у той час, калі неабходна знаходзіць рашэнні і працаваць. Калі толькі весці ўсе гэтыя пустыя размовы аб рынку, што ён "усіх нас накорміць", мы наогул без хлеба можам застацца. І тады ўжо ні пра які суверэнітэт і не заікайся. Тады прыйдзецца сагнуцца і скакаць пад тую музыку, што нам сыграюць на радыё, якое ў Варшаве або ў Беластоку на грошы ЦРУ адкрыюць.

Як і вы, я заўсёды гавару, што мая зямля тут. Дзе нарадзіўся, там і памру, і абавязак свой выканаю так, як падказвае мне сумленне, не звяртаючы ўвагі ні на што. Не толькі я, увесь беларускі народ непатрэбны ні "дэмакратам" у Расіі, ні "супердэмакратам" Захаду. Таму што ў нас свой самастойны шлях. І з гэтага шляху мяне ніхто не саштурхне. І вы самі цудоўна ведаеце, "што нацыянальная самасвядомасць і незалежнасць - гэта перш за ўсё эканоміка. Не будзе сродкаў, не будзе ўласнасці, якую мы выкарыстоўваем перш-наперш у інтарэсах дзяцей, будучыні народа, мы больш і сабрацца разам не зможам".

**У.П.Някляеў:** Аляксандр Рыгоравіч, душа баліць.

**А.Р. Лукашэнка:** Душа баліць - гэта ўжо добра. Значыць, дамовімся. Душа ў нас - і ў вас, і ў мяне, ва ўсіх, хто тут прысутнічае, - баліць аднолькава. І той, хто сёння не разумее Беларусь, не разумее беларускага народа, таму не месца ў кіраўніцтве краінай. Напэўна, і пяро яму нельга даваць. Таму што няма зброі больш вострай, чым дакладная, пэўная пазіцыя, выкладзеная такім пяром.

Вы "думаеце, я менш за Генадзя Бураўкіна люблю беларускіх людзей, творчасць беларусаў, таго ж Навуменку, Танка, Шамякіна ці Васіля Быкава? Ды не, проста Генадзь Бураўкін па свайму грамадскаму становішчу сёння можа сказаць так, як секануць сякерай. А я не магу, таму што павінен улічваць і тое, і другое".

Не ўсе хочуць нас зразумець. Не ўсе радуюцца нашым поспехам. Вось, беларусы сёння выпускаюць ўжо не дваццаць тысяч трактароў, як было тры гады таму, а 70 тысяч. Рост даволі вялікі. "Растуць? Трэба прыціснуць", - заяўляюць апазіцыянеры і тут, і за межамі Беларусі. Таму што за газ мы пастаўлялі Расіі трактары. Таму што Расія нам, на жаль, не плаціць грошай за нашу прадукцыю - бартэр запаланіў усё. Цяпер сёй-той ставіць пытанне: плаці валюту. А дзе ж я вазьму валюту, калі ты мне не заплаціў? У гэтым годзе мы ўпершыню ў гісторыі Расіі прадаём больш, чым у яе купляем. І калі б грашовае абарачэнне ішло, у нас не было б праблем ні па газу, ні па нафце. Дык яны ж не плацяць. Яны даюць за нашу прадукцыю з маркай "Зроблена ў Беларусі" метал, угнаенні, газ, нафту. Мы гэта выкарыстоўваем для вытворчасці прадуктаў харчавання, трактароў і гэтак далей. Беларусь з Расіяй нават схему ўзаемаразлікаў выпрацавалі. Але сёння ў расійскім урадзе яе пачалі ўжо блакіраваць. Чаму? Таму што Захад, з падачы гэтых пазнякоў і навумчыкаў націскае. Гэтыя "лябедзькі, шарэцкія, грыбы" на Захадзе крычаць: "У Беларусі танкі на вуліцы стаяць кожны дзень! Ніякіх ім крэдытаў, блакіраваць!" І Захад націскае на Расію: не дадзім крэдыт, пакуль Беларусь не прыцісне-це. Як? Эканамічна. Так што, названыя мною паны за незалежнасць там ваююць? Калі вам усе факты іх учынкаў выкласці на стол, вы з гэтымі "незалежнікамі" і сесці побач не захочаце. Я не згушчаю фарбы, я вас не падманваю. І праблему з ліцэем яны выкарыстоўваюць, і з Домам літаратара. Яны вам аб гэтым не кажуць, але ў іх свая палітыка. Ідзе барацьба, і вы ім патрэбны як штыкі, разумееце?

Гэта сустрэча, гэта ўзаемнае інфармаванне вельмі важна. Уладзімір Васільевіч /Гніламёдаў/ тут мае рацыю.

Што датычыць фестываляў. Гэта нядрэнна, Генадзь Мікалаевіч /Бураўкін/, што мы фестывалі праводзім. Што дрэннага, калі мы ў Маладзечне захавалі фестываль беларускай песні? Што дрэннага, што мы "Славянскі базар" у Віцебску захавалі? Акрамя пэўных затрат, немалыя грошы застаюцца і ў Беларусі. Таксама вялікая справа, калі да нас у Беларусь прыязджаюць людзі з 30 краін свету. Больш як 5 тысяч удзельнікаў. Яны ж раз'едуцца з уражаннямі аб Беларусі. Ні адна дыпламатыя столькі не зробіць.

Я вось Івану Іванавічу /Пашкевічу/ даручыў стварыць яшчэ адзін фестываль, у Брэсцкай крэпасці - фестываль патрыятычнай песні. Што ў гэтым дрэннага, калі мы падтрымліваем фестывальны рух і ў палешукоў, і ў магіляўчан? "Залаты шлягер", "Магутны Божа" - вось яшчэ некалькі назваў. Я ўсё гэта адсочваю, кантралюю і дапамагаю. Няхай будуць гэтыя і іншыя фестывалі. Навошта нам выкідваць, выкрэсліваць тое, што ўжо прыжылося на Бларусі? А калі ў пісьменнікаў "нічога няма", давайце створым свой фестываль беларускага слова. Няхай гэта будзе ў Нясвіжы, няхай на Навагрудчыне ці Гомельшчыне. Давайце з Мінска пачнём. Але ж вы пакладзіце на стол прэзідэнта гэты план - на 2 мільярды рублёў, на 5 мільярдаў. Гэта мая справа - 5 мільярдаў знайсці, а выпрацаваць план - ваша. Скажыце мне: ты павінен прыехаць, павіншаваць, на беларускай мове размаўляць з намі. Я прыеду. Вось гэта будзе канкрэтная сумесная справа.

Прызнаюся вам, у мяне былі ў свой час саветнікі, якія мецяць у прэзідэнты. Яны мне кажуць: улічыце, Аляксандр Рыгоравіч, у нас пісьменнікі такія," у кішэню пакладзеш - добры будзеш, не пакладзеш - нядобры". Хіба гэта так?

**У.П.Някляеў:** Да некаторых з тых саветнікаў, пра якіх Вы сказалі, я падыходзіў не адзін раз. Казаў: давайце наладзім сустрэчу прэзідэнта з пісьменнікамі, з творчай інтэлігенцыяй, бо ўжо адчувалася тэндэнцыя да расколу. Але гэта саветнікам было непатрэбна, яны самі хацелі быць побач - і каб побач больш нікога не было.

**А.Р.Лукашэнка:** Правільна, усё так. І мне каштавала немалых намаганняў правесці гэтыя тры сустрэчы, калі лічыць і сустрэчу з пісьменнікамі Расіі. Так, трэба пісьменнікам дапамагаць, але не трэба ім кідаць косці - гэта знявага. Я не хачу нават прыпадабняцца той уладзе, якая сябе так паводзіла. Вы прыйдзіце і скажыце, што трэба Шамякіну, Барадуліну, Быкаву або каму-небудзь іншаму. Я заўсёды вам паверу на слова. Я нават заключэнне ў Мінфіна прасіць не буду. Я ведаю, што вы не горш за мяне разумееце, у якой сітуацыі краіна, лішняе прасіць не будзеце. Скажыце - і мы дапаможам. Мы вельмі многім дапамагаем у гэты цяжкі час. І ў першую чаргу таленавітым людзям. Вы ставіце пытанні і па жыллі. Размова не ідзе аб ільготах. Але мы дапамагаем і гатовы дапамагчы выдзяленнем крэдытаў. Такую дапамогу акажам і пісьменнікам, у якіх няма даху над галавой.

У свой час мастакоў пачалі літаральна "выкурваць" з паддашкаў, дзе яны стварылі свае майстэрні. Я заступіўся. Як быццам цяпер асаблівых праблем няма. Засталося толькі перанесці продаж карцін на цэнтральную плошчу. Калі я быў дэпутатам, карціны прадаваліся на праспекце. Я па дзве гадзіны там прастойваў. У мяне ёсць ідэя, але яе трэба яшчэ прапрацаваць: адрадзіць гэту "галерэю", каб мастакі і паказвалі, і прадавалі свае карціны. Можа, гэта і не вельмі добра, што людзі прадаюць на вуліцы карціны. Але яны так хочуць.

Мастакам дапамаглі, дзеячам опернага тэатра. Давайце і пісьменнікам дапаможам. Гэта наша агульная справа.

**Р.А.Баравікова, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Купалы, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Алеся":** Аляксандр Рыгоравіч, я адразу пасля школы працавала ў рэдакцыі Быхаўскай раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя". Вось адтуль па рэкамендацыі нашага выдатнага беларускага паэта Аляксея Васільевіча Пысіна, ён тады загадваў Магілёўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў, я паступіла ў Маскоўскі літаратурны інстытут імя Горкага. Гэта унікальная літаратурная ўстанова, адзіная ў свеце, такой другой больш няма. Дарэчы, літаратурны інстытут заканчвалі многія нашы пісьменнікі, вось і Вольга Іпатава, і Уладзімір Някляеў, і Леанід Дранько-Майсюк, і Віктар Казько. І вось такі цікавы момант: цэнтр Масквы, інстытут, заснаваны Максімам Горкім, абарона творчага дыплома - вершы, паэзія, канешне, на беларускай мове. Нас там было 5-6 беларусаў-студэнтаў, і з двух дзяржаўных экзаменаў адзін быў "марксистско-ленинская философия", а другі экзамен - па беларускай мове. Вось, здавалася, Масква, і як падтрымлівалі ў нас наш нацыянальны пачатак. Гэта была даніна павагі да Беларусі і да нашага народа, які, дарэчы, вельмі любяць у свеце, і да нашай літаратуры, вельмі таленавітай, вельмі багатай літаратуры.

На пачатку 80-х гадоў як прадстаўніца нашай літаратуры была на ўшанаванні 75-годдзя Шолахава ў Растове-на-Доне, у станіцы Вёшанская. Дні літаратуры праходзілі па ўсіх раёнах, там і пасёлак Шахты, і Валгадонск. Канешне, з сабою былі ўзяты пераклады на рускую мову, але данчакі патрабавалі: чытайце на сваёй мове, у нас блізкія мовы, мы разумеем цудоўна, мы нават спяваем прыгожыя беларускія песні.

Аляксандр Рыгоравіч, я часта езджу на нашу з Вамі Магілёўшчыну, я ведаю, як Вас любяць людзі, як прыслухоўваюцца да кожнага Вашага слоўка. Мне самой надзвычай прыемна, што першы прэзідэнт нашай рэспублікі менавіта адтуль, з тых мясцін, і кожны раз, калі я слухаю Вашы выступленні, калі закранаецца пытанне культуры, мне ўвесь час думаецца: зараз прэзідэнт скажа і пра літаратуру нашу, і пра тое, што яна не горшая ў свеце, пра тое, што ў нас многа таленавітых творцаў.

У свой студэнцкі перыяд я добра ведала аднаго вельмі вядомага рускага пісьменніка Уладзіміра Максімава. Я не ведаю, ведаеце вы пра гэты момант ці не, але, па-мойму, напрыканцы 94-га года ў газеце "Правда" ён адзін з першых рускіх пісьменнікаў працягнуў Вам руку з Парыжа, так склаўся яго чалавечы лёс, руку сардэчнасці, прыхільнасці, падтрымкі. Максімаў ведаў, любіў нашу Беларусь. Уладзімір Емяльянавіч вельмі высока ацаніў нашу беларускую літаратуру, ён лічыў, што беларуская мова - адна з самых прыгожых моў свету. Яго ўжо, на жаль, няма ў жывых, але я думаю, што ён бы прасіў Вас, каб Вы працягнулі сваю прыхільную руку насустрач нам і каб мы разам з Вамі працавалі на духоўнасць.

**А.Р.Лукашэнка:** Дзякую за Вашы добрыя, шчырыя словы. Я заўсёды казаў, што мы павінны асабліва ўспрымаць прыгожую частку чалавецтва. Я больш бываю ў іншых мясцінах, чым на Магілёўшчыне, можа, гэтым і крыўджу сваіх землякоў. Але яны мяне разумеюць. Для мяне блізкія ўсе беларускія людзі: працавітыя брастаўчане і дужыя, моцныя гродзенцы, і - да болю, да слёз - гамяльчане і магіляўчане, якія пацярпелі ад Чарнобыля. У кожнага рэгіёна ёсць свая непаўторная асаблівасць, і я сэрцам адчуваю ўсё гэта.

Хачу зрабіць з Вашага выступлення важны для сябе вывад. І вам шчыра аб гэтым сказаць. Так, сапраўды, у пастаяннай занятасці праблемамі эканомікі, газу, нафты і іншага часам забываеш пра літаратуру. Да таго ж, прызнаюся, я не так ведаю цяперашнюю беларускую літаратуру, як, дапусцім, літаратуру савецкага перыяду. Абавязкова ліквідую гэты недахоп, але тут я зноў дакараю вас. Зразумейце, вы таксама павінны змагацца за свайго прэзідэнта. Вы павінны яго "рабіць", ляпіць па свайму вобразу. Калі не вы, то гэтым зоймуцца і хочуць заняцца іншыя. Добра, у мяне апоры моцныя, мяне складана збіць з курсу, павярнуць. Але ў той сферы, якая датычыць душы і сэрца - а гэта літаратура - я павінен слухаць майстроў слова. Не буду слухаць вас, буду слухаць іншых. А гэта таксама палітыка. Яна паварочвае прэзідэнта або ў адзін, або ў другі бок. Таму вы ў першую чаргу павінны інфармаваць яго аб тых тэндэнцыях, што адбываюцца ў літаратуры, інфармаваць канцэптуальна, у тым ліку і аб новых творах. Я за ўсім сачыць не паспяваю. Вы гэта разумееце. А "па дыяганалі" - гэта не чытанне. Вы - пісьменнікі, паэты - павінны "фарміраваць прэзідэнта", калі яго выбралі. Вы павінны зрабіць яго "сваім прэзідэнтам", які клапаціўся б аб літаратуры роўна столькі, колькі і аб хлебе. І, калі шчыра і аб'ектыўна, то ніхто для культуры, калі яшчэ супаставіць з мінулым часам, не зрабіў больш, чым цяперашняя ўлада. Ніхто. Няхай міністр культуры пацвердзіць, як мы, змагаючыся за кожны рубель у бюджэце, усё ж імкнёмся аддаць яго дзецям, культуры, мастацтву, народнай адукацыі, на выданне кніг, у тым ліку падручнікаў. Падручнікі новыя выдаваць - гэта вельмі вялікая фінансавая праблема. Таму я многім галінавікам адмаўляю - на карысць беларускай культуры. Але аб гэтым не кажу на кожным вуглу. Напэўна, па гэтай прычыне такая праблема не асвятляецца ў друку, па тэлебачанні. Я і сёння прамаўчаў бы аб гэтым, калі б у нас не ішла такая шчырая размова. Падачкі, льготы, прывілеі - гэта жахліва для мяне. Я не магу гэта зрабіць. З дрэнным мінулым пакончана. Але талент, аб якім гаварыў Бураўкін, - гэта зусім іншая справа. Таленавітых людзей трэба падтрымліваць. Вызначцеся канцэптуальна па ўсіх пытаннях, у тым ліку і па выданні кніг. Калі паставіць сёння пытанне, якую кніжку выдаць у першую чаргу, кожны скажа "маю" і ўсё.

У свой час да гэтай праблемы і мастакі падышлі: "Аляксандр Рыгоравіч, Вы павінны ўмяшацца і вырашыць!" Я кажу: "Не, дарагія мае! Я карцін ніколі не пісаў. Я ў іх разбіраюся роўна столькі, колькі вы ў сельскай гаспадарцы! Вызначайцеся самі".

Тут Уладзімір Васільевіч /Гніламёдаў/ выказаўся па праекце указа аб Нацыянальнай акадэміі навук. У прынцыпе, я згодны з вашым падыходам. Мы дапрацавалі указ так, як хацеў прэзідэнт акадэміі. Але там ёсць адзін нюанс. Мы гатовы сёння ўстанавіць стыпендыі для членаў-карэспандэнтаў, акадэмікаў, для таленавітых людзей. Але вызначаць, каму ўручаць прэзідэнцкія стыпендыі, я не буду. Вызначайце самастойна. А мне паведаміце гатовае рашэнне. Я падтрымаю. Але не вельмі ж вучоныя на гэта ідуць. Трэба, каб хтосьці вырашыў за іх. Я яшчэ раз заявіў: вырашайце самастойна.

Дык і вы мне падкажыце, якога аўтара трэба падтрымаць, які твор выдаць. Я зраблю гэта. Я знайду выдаўцоў і тут, і ў Расіі. І яшчэ раз дакажу, што прычына пасіўнасці, непатрэбных спрэчак не ў Лукашэнку, не ў цяперашняй уладзе. Дай Бог, каб у вас заўсёды была такая ўлада, якая прыслухоўваецца да людзей і стараецца ім дапамагчы.

Многія з вас, наколькі мне вядома, "рыначнікі", і гэтым тлумачаць сваю апазіцыйнасць. Хачу заўважыць, што ў эканоміцы ёсць два шляхі развіцця: шлях сацыяльна абароненай эканомікі, сацыяльна арыентаванага рынку і другі - жорсткі, капіталістычны шлях, рыначны, як у нас кажуць. Апазіцыя прытрымліваецца гэтага курсу. Я ж прытрымліваюся іншага - з некаторай гуманістычнай, сацыяльнай афарбоўкай, скажам так. Дзе чалавека абараніць трэба, не пакідаць яго ў бядзе і г.д. Мы адыходзім ад старой сістэмы, а новую яшчэ не стварылі. І кінуць сёння чалавека на волю лёсу нельга. Глядзіце: у Расіі, быццам бы, рынак. Людзі па паўтара года не атрымліваюць зарплату. А ў нас асноўная запазычанасць - па сельскіх гаспадарках і то за апошні месяц. А там пра вёску ўвогуле ніхто не гаворыць. Але калі нашы суседзі не выплачваюць зарплату шахцёрам, самым важным выбухованебяспечным прафесіям, дык гэта сведчанне існуючых эканамічных "рыначных" праблем.

Так, там "рынак". Тут - плаўны пераход да рэальнага рынку на аснове шматукладнай эканомікі. Мы не збіраемся нічога бяздумна разбураць. Тое, што эфектыўна працуе, няхай працуе. А калі хтосьці хоча штосьці новае стварыць, калі ласка, стварайце.

Вы крытыкуеце часам мяне за "няправільную палітыку". У чым яна "няправільная"? Скажыце, хто з вас хацеў зарабіць грошы з улікам сваіх здольнасцей, а яму перашкаджалі? Дзе і каму мы перашкаджалі зарабіць грошы? У мяне прынцып адзін - сумленна працуй, а не крадзі, і плаці падаткі! Усё! Слабага, фінансава абяздоленага наша дзяржава не пакідала і не пакіне. Скажыце, у якой дзяржаве СНД, калі маці адна, а ў яе яшчэ двое дзетак, ёй даюць дадатковы выхадны і поўную школьную экіпіроўку для дзяцей? У якой дзяржаве СНД сем'ям, дзе трое дзяцей, аказваюць дапамогу ў набыцці адзення, школьных падручнікаў? Толькі ў Рэспубліцы Беларусь. Праўда, фінансавая падтрымка невялікая, але даём столькі, колькі ёсць.

Харчаванне ў школе для малышоў бясплатнае. Памятаю, два гады таму супраціўляліся: нікому не будзем плаціць. Я кажу, толькі паспрабуйце. Можа, школа - гэта адзінае месца, дзе дзіця пад'есць па-сапраўднаму. Цяпер чыноўнікі пытанняў не ставяць. Кормім дзетак, хоць і не ўсіх, не шкадуем сродкаў.

А вазьміце Чарнобыль. Ну да чаго прывяла наша нацыянальная "свядомасць" ? У гэтым выпадку я бяру слова ў двукоссе. Вы ведаеце, што я маю на ўвазе: разбурыўшы краіну, не агаварыўшы размеркавання золатавалютнага запасу, энергетычных і іншых рэсурсных крыніц, размежаваліся. Тры гады таму былі амаль зусім голыя. Усё расцягнулі, раздалі, раскідалі. Самалёты вывезлі. Вывезлі усё, што было каштоўнага ў краіне. Хто быў на чале ўлады? Вашы "свядомыя", якія ўмелі прыгожа выступіць, сказаць "пра суверэнітэт і выпіць гарэлку". Пра дзяржаву не клапаціліся. А трэба. Дзяржава - усяму фундамент. Цяпер "дрэнны Лукашэнка" хоць штосьці сабраў і паклаў на "чорны дзень".

Нядаўна па праблемах ляснога комплексу правялі нараду. Прыкрылі яшчэ адну крыніцу расцягвання. Я мяркую, што дзяржаўнасць, суверэнітэт якраз і праяўляюцца ў ліквідаванні вось такіх недахопаў. Вось у чым павага да сваёй радзімы. Вы як грамадзяне павінны любіць перш-наперш душой, а я як грамадскі дзеяч у дапаўненне, яшчэ і справай. І вас любіць за ваша слова і вашу душу. У гэтым мая роля як прэзідэнта. І я вас да гэтага заклікаю. А не хадзіць па вуліцах, размахваючы флагамі і выкрыкваючы антыбеларускія, антыпрэзідэнцкія лозунгі з мэтай засвяціцца на экранах і ў замежных СМІ. Пройдзе час, і я сяду каля каміна і буду расказваць "пра суверэнітэт і незалежнасць. І на беларускай мове. І не горш, чым Генадзь Бураўкін." А сёння трэба працаваць. А калі патрэбна дапамога - звяртайцеся, калі ёсць праблемы, якія вы самастойна не вырашыце, - стаўце. Трэба сустракацца - запрашайце. Скажыце, куды прыехаць. І я прыеду. Калі вас траўміруюць мігалкі, без іх прыеду. Без аховы, калі хочаце. Пра сустрэчу паведамляць не будзем нікому, прыеду ціха, сядзем, пагаворым. І не буду вам абяцанні выдаваць і тэзісы чытаць, якія мне памочнікі пішуць, а абмяркуем канкрэтныя праблемы, тыя, якія вы самі назавяце. І пакладзіце мне на стол канкрэтныя прапановы, што павінны вырашыць для пісьменнікаў. Але, зыходзячы з той абстаноўкі, якая ў нас сёння ў дзяржаве. Я паддобрывацца да вас не маю намеру. І не буду. У мяне на гэта няма часу і магчымасці. Я жыву не ў машэраўскія часы: тады можна было спакойна, вольна хадзіць і строіць праджэкты. Сёння іншая абстаноўка. У мяне на неабгрунтаваныя і марныя размовы проста няма часу. Але з вамі раз у паўгоддзе або раз у квартал сустрэцца і пагаварыць заўсёды знайду час.

Але, паўтараю, не на безгрунтоўныя дыскусіі , не на такія, як нядаўна вяла "Народная газета". Чытаю: "Яны служылі не Беларусі, яны свядома служылі Гітлеру - забойцы Беларусі". Тут жа фатаграфіі. Гэта на матэрыял у часопісе "Крыніца" пра Барыса Рагулю.

Не мая справа судзіць людзей. Але, думаю, дай я запрашу ўсё-такі гэту інфармацыю. Наколькі яна адпавядае рэчаіснасці. Мне даюць з архіва фатаграфіі, дакументы, сведчанні людзей, што пацвярджаюць гэта. І ў мяне ўзнікае пытанне да часопіса "Крыніца", што, у вас няма чаго больш друкаваць? Што вы хочаце паказаць народу? Няўжо не можаце неяк больш далікатна з гэтымі пытаннямі. Вы ж гэтым ад сябе большасць нашых грамадзян адштурхняце, якія перажылі вайну і з болем успрымаюць усё гэта. Вы ж разумееце, як народ на гэта рэагуе, як рэагуе на кожны крок прэзідэнта. Тысячу разоў падумаеш, куды пайсці, з кім сустрэцца. Нават гэта сустрэча з вамі!.. "Аляксандр Рыгоравіч, вы не павінны з імі сустракацца, гэта вашы "ворагі"!" Ну, якія ёсць, што ж зробіш? Можа, і "ворагі", а можа, і не. Розныя пазіцыі. Прэзідэнт павінен сустракацца з усімі, але так, каб не страціць падтрымкі і даверу большасці людзей. Стабільнасцю трэба даражыць. Галоўнае не каўбасы напхаць у страўнік. Галоўнае, каб у нас быў спакой, каб людзі нашы мірна жылі, каб краіна наша працвітала.

*(Працяг на стар. 14—15)*

нельга браць прыклад - раскалоліся на чатыры часткі. А ў нас Някляеў, "самы заўзяты апазіцыянер і нацыяналіст", узначальвае Раду адзінага пісьменніцкага саюза. Я. зразумела, у двукоссе гэтыя словы бяру. Таму не трэба гаварыць, што ў нас тэлебачанне зусім дрэннае, а ў Расіі добрае. Няхай будзе лепш такое тэлебачанне, дзе з-за тэхнічных сродкаў горш пакажуць, але пакажуць праўду. І пакажуць хоць бы жывога чалавека з яго праблемамі, а не падтасоўку фактаў. Бо як на асобных тэлеканалах бывае. Больш грошай заплаціш - паявішся на экране, не заплаціш - не паявішся. У нас і Генадзь Мікалаевіч /Бураўкін/ без грошай кожны тыдзень на экране бывае, і іншыя апазіцыянеры. Я Кісялю аднойчы сказаў: ты каля Барадуліна хоць яшчэ якога-небудзь чалавека пастаў, а то яго хутка пачнуць крытыкаваць за тое, што так часта на экране паказваецца, скажуць, што "прадаўся прэзідэнту". Бачыце, мы з вамі замест дзвюх гадзін сёння амаль чатыры гутарым. І час ідзе непрыметна, значыць, усім нам цікава. І самае галоўнае, каб усё было дэмакратычна.

**У.П.Някляеў:** Аляксандр Рыгоравіч, ёсць прапанова даць слова Іпатавай Вользе Міхайлаўне.

**В.М.Іпатава, першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў:** Сапраўды, атрымліваецца парадокс. Беларускую мову шануе інтэлігенцыя ва ўсіх краінах, і мяне таксама прасілі па-беларуску чытаць, дзе б там ні была, ва ўсіх краінах, ці ў нашай краіне. Мова сама па сабе не можа быць апазіцыйнай, палітычнай ці апалітычнай. Яна проста мова.

Усе тыя, хто прыйшлі сёння на сустрэчу, перакладаліся на многія мовы. Гэтыя людзі - пасланцы беларускай культуры на многіх мовах свету, гэта людзі, якіх ведаюць у краінах. Нават у сённяшнія і цяжкія часы іх перакладаюць і выпускаюць кніжкі, беларускія кніжкі. Напрыклад, кніга Валянціны Коўтун была толькі што ў Літве выдадзена, Яўгеніі Янішчыц - у Балгарыі, Алеся Разанава і Святланы Алексіевіч - многія кнігі ў Германіі і гэтак далей. І асобныя творы таксама выдаюцца, расце цікавасць у краінах свету да беларускага слова. Нам ёсць чым ганарыцца. У нас імёны ёсць.

Тут ідзе гаворка пра мову як састаўную частку нашай ідэалогіі, нашай сапраўды нацыянальнай ідэі. Можа, сапраўды не варта яе ўсталеўваць дэкрэтамі, Вам тут лепш бачна. Вы сапраўды палітык. Мы не палітыкі. Але мы столькі страцілі праз тое, што наша гісторыя пачалася з 1917 года. Я вам прывяду толькі маленькі прыклад. Бібліятэкарка з Вільні Ніна Ляшкевіч мне калісьці расказвала, што ў паводку, здаецца, 1961 года ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Вільні баяліся, што затопіць падвалы з кнігамі. Там ляжалі беларускія старадрукі, беларускія кнігі. І яна хвалявалася за гэтыя кнігі часоў Вялікага княства Літоўскага, тройчы пісала ў нашу Акадэмію навук, але быў гэты жалезны тэзіс: наша гісторыя пачалася з 1917 года. Кніжкі засталіся там. А калі б мы мелі пра іх клопат і прывезлі сюды, то гэта і была б нацыянальная палітыка, якая б улічвала нашы інтарэсы. Я маю на ўвазе культурную палітыку.

Мы пісалі і пішам не дзеля ганарараў, мы пішам таму, што проста не можам не пісаць. Вы - рэальны палітык, а нам нябёсы дыктуюць вершы. Паэзія на сённяшні час можа быць сярод вялікіх дзяржаўных глабальных праблем. Той, хто прачытае ў цішыні, дома вершаваныя радкі, напэўна ўбачыць свет трошкі інакшым, і сэрца яго змякчыцца. І, можа быць, у гэтым вялікая роля літаратуры і паэзіі, бо яе нам дыктуе ўсё-такі ці лёс, ці Бог, ці, можа быць, прырода. І калі ў Вас знойдзецца нейкая хвіліна прачытаць зусім непатрэбны рэальнаму палітыку верш, які раптам закране Вашу душу, Ваша беларускае сэрца, то мы будзем лічыць, што ўжо адным гэтым нашая сустрэча апраўдана.

**А.Р.Лукашэнка:** Мова, слова - гэта ваш рабочы інструмент. У майстра адбіраюць інструмент - ён гіне. Я разумею, чаму вы так перажываеце за беларускую мову. Хочаце зрабіць як лепш. І не ваша віна, а, можа, бяда, што вы "шалёным" людзям, якія сябе паказалі ўжо на ўсялякіх мітынгах, аддалі гэту сваю зброю і мову ператварылі ў палітычную карту. Гэта, можа, наша агульная бяда, я яшчэ раз гэта падкрэсліваю.

**І.П.Шамякін:** Хачу сказаць, як самы старэйшы не толькі сярод прысутных Рады, але і ў Саюзе пісьменнікаў. Нас не многа такіх "выкапняў" засталося. Вы ведаеце, я 26 гадоў працаваў у Саюзе адным з кіраўнікоў, намеснікам, сакратаром, першым сакратаром. І апошнія гады я вельмі хваравіта перажываў падзенне аўтарытэту Саюза пісьменнікаў. Мы калісьці былі заўсёды, ды і ў маштабе Саюза ССР, першай творчай арганізацыяй. І раптам такое падзенне аўтарытэту. Вы ведаеце, сёння я ўзрадаваўся. Я веру, што з сённяшняй сустрэчы з прэзідэнтам пачынаецца аднаўленне аўтарытэту Саюза пісьменнікаў. Дзякуй вам за гэта.

**А.Р.Лукашэнка:** Развіваючы Вашы словы, Іван Пятровіч, хачу сказаць, што ўсё, што ад мяне залежыць, залежыць ад дзяржавы - будзе зроблена для таго, каб аўтарытэт не толькі Саюза, але ўсяго нашага вялікага, як калісьці гаварылі, "пісьменніцкага цэху", уключаючы і тых, якія яшчэ недзе на падыходзе да Саюза, захаваць, падтрымаць і вывесці на яшчэ больш высокі ўзровень.

**І.П.Шамякін:** За гэта дзякуем.

**А.Р.Лукашэнка:** Вам трэба падумаць, што для захавання аўтарытэту Саюза трэба зрабіць. Толькі не паўтарайце, што праблема ў народзе, гэта не так. Адзінае, з чаго я не сыду, - дык гэта з народных пазіцый. І вас заклікаю да гэтага. Я вельмі добра памятаю час да прэзідэнцкіх выбараў. Памятаю здзеклівыя адносіны да людзей, якія былі ўласцівы старым уладам. Я ніколі не дазволю сабе здзекавацца з чалавека. Так, я жорсткі чалавек, многіх пазнімаў з работы, павыганяў. Пры мне ў турму некаторыя чыноўнікі трапілі. Але хіба я іх туды штурхаў? Не. Я ў кожным выступленні паўтараў: не крадзіце, не бярыце чужое. У такой сітуацыі я вас не змагу абараніць. Нават калі б мае сваякі на крадзяжы папаліся, я пальцам бы не паварушыў, каб ім даравалі, "адмазалі". Ёсць закон: папаўся - адказвай. Гэта і мае прынцыпы. А людзі пра мяне мяркуюць па маіх прынцыпах. Як я магу адысці ад іх, калі нашы людзі, якіх на выбарчыя ўчасткі не пускалі, ішлі туды для маёй падтрымкі і з надзеяй. У вёсцы, хто далёка ад участка жыў, каня не давалі, каб завезці людзей на галасаванне. І яны пешшу ішлі галасаваць. Хіба я магу здрадзіць гэтым людзям і адысці ад аб'яўленай мной палітыкі? Не магу.

Я буду старацца зблізіць пазіцыі там, дзе, дапусцім, інтэлігенцыя элітная чуцьчуць пайшла наперад, а людзі трохі адсталі. Я гэта буду рабіць. У гэтым мудрасць палітыка, а не ў тым, каб стаць на асобны ці які-небудзь крайні пункт гледжання. Палітык павінен аб'ядноўваць народ, адпавядаць яго разуменню. Калі народ будзе ўспрымаць мяне такім палітыкам, будзе стабільнасць у дзяржаве. Гэта самае галоўнае. Вядома, былі недахопы. Былі недахопы і ў маіх учынках, і ў маёй палітыцы, таму што час вельмі складаны. Здаралася, і не раз, што трэба было прымаць рашэнні неадкладна: або - або. І я іх прымаў. Але згадзіцеся, што пры ўсіх недахопах мы сёння маем не горшы варыянт развіцця краіны.

І не верце розным заявам, напрыклад, аднаго апазіцыянера, некалі члена каманды прэзідэнта, што, маўляў, "Беларусь згубіла аж 6 мільярдаў долараў дапамогі". Ніхто не абяцаў і ніхто ніколі б не даў нам бясплатна 6 мільярдаў. Балбатня ўсё гэта. Калі б былі хоць самыя нязначныя шанцы атрымаць такую суму, я б іх не ўпусціў. Што ж датычыць крэдытаў, дык іх нам хоць заўтра дадуць. Колькі трэба. Але пад 14 працэнтаў, як Расіі далі. Ну, добра, 10 мільярдаў возьмем пад 14 працэнтаў. Скажыце, колькі праз год будзем плаціць? Палічылі? А хто будзе плаціць? Хто, Вольга Міхайлаўна /Іпатава/ будзе плаціць? Дык у нас няма такіх грошай, няма такіх грошай сёння і ў дзяржавы. Значыць, гэты доўг ляжа на плечы наступнага пакалення. Але я не хачу, каб вашы і мае дзеці за нас плацілі.

Таму ніколі не верце словам. "Ах, вось не далі!" Няма такіх, якія сёння дадуць табе штосьці проста за так. І кніжкі Святланы Алексіевіч выдадзены не толькі таму, што яна з Беларусі, або што яна ўзняла чарнобыльскія праблемы або праблемы воінаўафганцаў. Вы спытайце, ці была яна ў Чарнобылі або ў Афганістане? Ці прайшла гэтыя дарогі? Ці адчула тых людзей?.. Тым, хто бывае ў чарнобыльскай зоне, жыў або працаваў там, сорамна яе кніжкі чытаць. Часам асобныя месцы ў кніжцы - проста знявага для гэтых людзей. Дзякуй Богу, што не ўсе яны яе чыталі.

Я разумею, што не так проста закрануць тэму і разгарнуць яе, напісаць так, як, дапусцім, напісана "Палеская хроніка" Мележа. Два гады таму я ўпершыню пабываў на Палессі. Людзі спалохаліся, калі мяне ўбачылі: брыгадзір і то рэдка бывае, а тут кіраўнік дзяржавы. Ну, не было яшчэ, кажуць, такога, каб вялікі начальнік прыязджаў у гэтыя краі. Але што за край! Векавыя дубы, прыгажосць. Вось куды вас на семінар трэба адвезці. І я гатоў дапамагчы, прафінансаваць гэту паездку. Вось, сапраўды, дзе Беларусь. Калі я ўсё гэта ўбачыў, то зразумеў, наколькі "Палеская хроніка" адпавядае рэчаіснасці.

Бог ёй суддзя, Святлане /Алексіевіч/. Але ў яе няма пачуцця трагедыі Чарнобыля, нават калі яна прэтэндуе на аб'ектыўнасць і праўду. Але і праўда з рознымі знакамі бывае. Ёсць голая праўда - гэта самая страшная праўда. Але ці патрэбна ў літаратуры гэта голая праўда сёння? Праўда павінна быць хоць з нейкім мабілізуючым, аб'яднальным адценнем, каб яна не забівала людзей. Вы разумееце, аб чым я хачу сказаць? Так, павінна быць усё сказана - дакладна, канкрэтна, праўдзіва. Але ўсё гэта павінна абуджаць сілы да жыцця. Магчыма, веліч празаіка і паэта і заключаецца ў тым, каб умець тонка падаць або, магчыма, абысці самыя страшныя месцы. Можа, так, падтэкстам, падаць, каб многіх гэта голая праўда не спалохала. Тыя, хто хоча дакапацца да ісціны, заўсёды разбяруцца і будуць рады, што яны ўсё самі асэнсавалі. А іншы, каго гэта праўда палохае, свядома да гэтых глыбінь не будзе дакопвацца. У гэтым жа жыццё.

Калі я чытаю вашы творы, перад вачамі заўсёды стаіць канкрэтны аўтар, таму што многіх з вас я ведаю. Нягледзячы на сваю загружанасць, стараюся сачыць за ўсімі навінкамі. Амаль усе выдавецтвы, уключаючы і расійскія, прысылаюць мне сігнальныя экзэмпляры - вялікую колькасць кніг. Што датычыць расійскіх выдавецтваў, то, паводле інфармацыі, якая ў мяне ёсць, цяпер у Расіі ідзе працэс перавыдання савецкіх / рускіх/ пісьменнікаў. Беларусаў амаль не перавыдаюць. А гэта вельмі важнае пытанне. У гэтым напрамку нам неабходна працаваць разам з расіянамі. Вас павінны чытаць ў Расіі, таму што пісьменніку, як і артысту, патрэбна вялікая аўдыторыя. Справа нават не ў ганарарах, а ў тым, каб больш людзей азнаёміліся з вашай творчасцю. Таму што, як я разумею, дзеля гэтага і пішуцца кнігі.

У плане перавыдання кніг мы пачынаем адставаць. І нам сапраўды трэба тут змяніць становішча. Я не сумняваюся, Вольга Міхайлаўна /Іпатава/, у тым, што тут сабраліся таленавітыя людзі. Тым не менш усе пухлыя папкі - вашы зачыны - мы адразу не апублікуем. Хоць для пісьменніка самае галоўнае, каб была апублікавана яго кніга як вынік канчатковай творчасці. Таму што кніга - гэта даражэй за залаты злітак - гэта вянец творчасці. Але выдаць лепшае, тое, што людзей хвалюе і цікавіць, мы можам. І рэкламу дадзім. І тут Рыгор Леанідавіч /Кісель/ так разрэкламуе вашу кніжку, што яе з задавальненнем будуць браць і чытаць. А рэкламаваць трэба абавязкова. Гэта для літаратара таксама важная і вялікая справа. І чыноўнікам дадзім каманду на распаўсюджванне вашых кніг. Вось тут старшыня Белкаапсаюза прысутнічае. Гэта не работа, што ён у мінулым годзе толькі паўтары сотні экзempляраў кніг купіў. Трэба ў вялікіх аб'ёмах купляць кнігі, трэба іх прапагандаваць. Але самае галоўнае - каб найбольш значныя творы нашых пісьменнікаў былі ўключаны ў школьныя праграмы. Гэта, дарэчы, таксама паўплывае на іх распрадажу. Трэба ісці такім шляхам.

А Вы ж і ў літаратуру хацелі прыўнесці рынак. І вам унушалі: "Добры твор - купяць, будуць чытаць, дрэнны - не купяць" . Аказваецца, справа ідзе не зусім так. Аказваецца, трэба кнігу і прарэкламаваць, і прымусіць чыноўніка, каб ён дапамог яе рэалізаваць. Я разумею вас. І жыццё гэта разумею, і бачу яго аголеным і не такім прыгожым, як мы часам кажам. І няхай наша размова, як тут ужо сказаў Іван Пятровіч, такая свабодная, часам такая непрадузятая і для мяне, хоць карэктная, будзе зыходным пунктам для нашых далейшых адносін. І не толькі са мной. Я прэзідэнт і абавязаны з вамі сустракацца.

Але павінен сказаць на заканчэнне: праяўляць ініцыятву і самім неабходна. Пад ляжачы камень вада не цячэ. Я разумею, што вы людзі своеасаблівыя, вельмі ранімыя, не любіце хадзіць па кабінетах, вельмі ўражлівыя, але тым не менш збярыцеся, выпрацуйце пазіцыю па нашым далейшым супрацоўніцтве. Падтрымку вы заўсёды атрымаеце. Пастарайцеся як члены Рады, каб усе нашы пісьменнікі выбралі стваральны курс, шлях супрацоўніцтва. Не займайцеся палітыканствам. Гэтым вы захаваеце сябе для літаратуры.

Для палітыка вельмі важна, якім ён застанецца ў памяці грамадства. А пакідаюць яго ў памяці, у гісторыі пісьменнікі. Безумоўна, мне неабыякава, як пра мяне будуць гаварыць людзі. Але, абяцаючы вам дапамогу, а я заўсёды гатоў гэта рабіць, я не жартую з вамі. Я заўсёды гатоў сустракацца з вамі, і не толькі ў афіцыйнай абстаноўцы. Калі трэба, скажыце, мы сустрэнемся ў вас, у Саюзе пісьменнікаў, давайце сумесна працаваць на карысць грамадства, займацца канкрэтнымі справамі, каб нашай Беларусі было лепш.

Мы можам сумесна ажыццявіць на карысць Беларусі і будучых пакаленняў такія мерапрыемствы, што потым радавацца будзем. Так і робяць разумныя людзі. Чаго нам ірваць чубы адзін у аднаго? У некаторых ужо і валасоў на галаве не засталося. Давайце будзем рабіць карыснае для людзей, для дзяцей нашых, выпраўляючы памылкі адзін аднаго. Адыдзем ад гэтых дробных крыўд, наскокаў.

Дзякуй вам, што вы даволі грунтоўна выклалі свае пазіцыі і далі магчымасць мне выказацца па найбольш важных праблемах. Можа, мае маналогі прымусілі каго-небудзь з вас лепш зразумець дзяржаўную палітыку або што-небудзь удакладніць, ацэньваючы нашу рэчаіснасць. Я думаю, што часам лепш за ўсякія дырэктывы і ўказы такія адносіны. Але па выніках сённяшняй сустрэчы неабходна прыняць канкрэтныя рашэнні. Няхай "антыподы" Уладзімір Някляеў і Уладзімір Замяталін, сядуць і выпрацуюць іх. У супярэчаннях заўсёды нараджаецца што-небудзь слушнае.

**У.П.Някляеў:** Аляксандр Рыгоравіч! Я, шчыра Вам скажу, здорава перажываў перад гэтай сустрэчай, таму што разумеў: ад яе залежыць вельмі многае. Думаў, ці ўсё ж сапраўды пойдзем мы нейкім сумесным шляхам наперад, ці ля шлагбаума будзем і далей чакаць свайго цягніка.

Мне здаецца, што пакацілася... Дзякуй Вам, поспехаў жадаем ад усіх нас.

**А.Р.Лукашэнка**: Дзякуй і ўсім вам. Заўсёды будзеце жаданымі гасцямі. **/Апладысменты./**

**/Стэнаграма публікуецца ў скарочаным выглядзе/**

# Мікола ГАЙДУК

2 верасня 1998 г. памёр член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны дзеяч культуры Польшчы Мікола Гайдук.

Мікалай Раманавіч Гайдук нарадзіўся 29 мая 1933 г. у вёсцы Кабылянка Беластоцкага ваяводства ў сялянскай сям'і. У 1951 г. скончыў агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове, затым працаваў у гміннай управе. З 1953г. вучыўся ў СССР на філалагічных факультэтах Растоўскага-на-Доне і Ленінградскага універсітэтаў, у 1959 г. скончыў беларускае аддзяленне БДУ. Працаваў у ліцэі імя Б. Тарашкевіча у Бельску-Падляшскім спачатку выкладчыкам, а з 1965 г. — дырэктарам. Адначасова выкладаў беларускую літаратуру на завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У 1971-1986гг. — публіцыст, у 1986—1988гг. — намеснік галоўнага рэдактара газеты "Ніва" (Беласток). Член беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" ад пачатку яго заснавання, член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1985г. Узнагароджаны ордэнамі Кавалерскі крыж ордэна Адраджэння Польшчы, Залаты і Сярэбраны крыж заслугі, а таксама медалямі.

Пісаў на беларускай і польскай мовах. Першы верш на беларускай мове апублікаваў у 1957 г. у газеце "Ніва". Выдаў у Беластоку зборнік паэзіі "Ціш", кнігу прозы "Белавежскія паданні". У Мінску выйшлі яго кнігі прозы "Трызна", "Паратунак", "Белавежскія быліцы і небыліцы: легенды і паданні". Творы М. Гайдука прысвечаны пераважна гістарычнаму мінуламу беларускага і суседніх народаў, паўстанню 1963—1964 гг. на Беласточчыне, дзеячам беларускай культуры. Ён сабраў і апублікаваў велізарную колькасць беларускіх песень з нотамі, краязнаўчы слоўнік. Як сааўтар прымаў удзел у падрыхтоўцы і выданні беларускіх падручнікаў для школ. Часта наведваў Беларусь, пра што расказваў у сваіх рэпартажах, нарысах.

Мікола Гайдук быў таленавітым і апантаным руплівцам на ніве беларускай культуры, шчырым і чулым сябрам, чалавекам высакароднай, бескарыслівай душы.

Яго светлы вобраз назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Не вярнуўся з той вайны

25 кастрычніка 1942 года на фронце, пад Сталінградам, загінуў беларускі пісьменнік Хвядос Шынклер. У тым жа 1942-ім ён добраахвотна пайшоў у армію, чатыры месяцы вучыўся ў вайсковым вучылішчы ў горадзе Кыштым Чэлябінскай вобласці.

А нарадзіўся Хвядос Сяргеевіч 95 гадоў назад, 22 верасня 1903 года на станцыі Ізяслаў (цяпер — станцыя Беларусь) пад Мінскам у сям'і чыгуначніка. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы, працаваў на чыгунцы тэлеграфістам, бібліятэкарам, загадчыкам клуба ў Рудзенску. Быў членам літаратурнага аб'яднання "Маладняк", супрацоўнікам бабруйскай газеты "Камуніст".

З 1935-га па 1941 год Ф. Шынклер працаваў у "ЛіМе" і часопісе "Полымя". У пачатку вайны эвакуіраваўся ў Свярдлоўск. А пачаў літаратурны шлях у 1922 годзе з допісаў у газеты. Першае апавяданне надрукаваў у 1928 годзе. Выйшлі кнігі "Ічэ", "Стрэлачнік Мігай", "Блок", "Сонца пад шпалы". Аўтар аповесці для дзяцей "Петрык-завадатар", напісаў п'есу "Пачэсны рэйс", выступаў з рэцэнзіямі, артыкуламі, нарысамі.

Найбольш поўна творчая спадчына Х. Шынклера прадстаўлена ў аднатомніку "Апошні рэйс", выдадзеным у 1984 годзе, у які ўвайшлі і ўспаміны пра пісьменніка.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю ШАШКОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — заўчаснай смерці сына Сяргея.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы часопіса Алене Аляксандраўне ШАШКОВАЙ у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю брата.**

ПАМЯЦЬ

# Ідучы да праўды

Горыч страты паступова саступіла месца разважліваму аналізу: дзе ягонае месца ў беларускай літаратуры? Ці ўсё ім напісанае надоўга перажыве аўтара? Які ўплыў з пункту гледжання выхавання грамадзянскасці зрабіў літаратар на сваіх чытачоў?..

Непахіснасць пазіцыі Аляксея Карпюка ўражвае і сёння. Іншыя лічаць, што свой голас у абарону праўды і гістарычнай справядлівасці ён рашуча ўзняў у гады перабудовы — у сярэдзіне-канцы 80-х. Менавіта тады ў друку з'явіліся артыкулы "За сапраўднасць дэталяў ручаюся", "І маем, што маем", "Варашылаўскія стралкі", "Мы кляліся не здраджваць", "Сумныя бывальшчыны", "Не буду гаварыць за палякаў"...

Кіраўнікі абласнога і гарадскога ўзроўню няўтульна пачуваліся пад агнём ягоных публіцыстычных твораў. Аляксей Нічыпаравіч не абыходзіў вострых вуглоў, заставаўся адданым свайму прызванню: гаварыць ісціну, не зважаючы на прозвішчы і дробных падбрэхічаў.

Рашучасць у заступніцтве пакрыўджанага была ў характары пісьменніка. Такім нарадзіўся. Гэтую рысу яшчэ ў 1968 годзе прыкмеціў мастак М. Лісоўскі, які прапанаваў часопісу "Маладосць" шэраг сяброўскіх шаржаў на вядомых беларускіх аўтараў. Пад малюнкам А. Карпюка стаяў кароткі і трапны подпіс — "упарты".

Хто больш-менш знаёмы з творамі празаіка, заўважыў неспакойны нораў самога Аляксея Нічыпаравіча. За "польскім" часам ён з сябруком накіраваўся на ўсход, каб неўпрыкмет перайсці да Саветаў, шчыра верачы ў сталінскі лад жыцця. Не пашанцавала (а мо наадварот!). Польскія памежнікі злавілі, далі крыху таўхалёў дый вярнулі бацькам. Затым быў падпольны заходне-беларускі камсамол ("Данута"), адважны, часам неабгрунтаваны гераізм маладога партызана ("Пушчанская адысея"). А потым Аляксей Карпюк — салдат-артылерыст Чырвонай Арміі ("Франтавы дзённік").

Аднак усё гэта было як бы прыступкамі да галоўных падзей пасляваеннага часу. Працуючы дырэктарам сямігодкі ў вёсцы Біскупцы Ваўкавыскага раёна ў 1951—1953 гадах, ён вазьмі і напішы пісьмо ў ЦК КПСС аб абсурднасці лозунга "Першы хлеб — дзяржаве!". Ён пісаў, параўноўваючы дзяржаву з нейкім ненажэрным монстрам. У той жа час сяляне павінны дбаць пра сябе ў апошні момант. Маўляў, калі чалавек найперш будзе клапаціцца пра сябе, то прыпыняцца калгасна-саўгасныя работы.

Вясковае і раённае чынавенства, вядома, пазбавіліся ад няўрымслівага праўдашукальніка, няхай сабе і з партбілетам у кішэні. Доўга не ўтрымаўся і ў абласным пёдінстытуце. Нейкі час працаваў у рэдакцыі газеты, на іншых пасадах. Якраз пачаўся пераслед Васіля Быкава, які тады жыў і працаваў у Гродне. Аляксей Карпюк адразу стаў на бок будучага сусветна вядомага аўтара, заявіў, што "Мёртвым не баліць" — выдатны твор беларускай літаратуры, і дай Бог кожнаму пісаць так, як напісаў наш таленавіты гродзенец". Аднак Быкаву працягвалі чапляць ярлык "очернителя советской действительности".

Мёртвым, канечне, не баліць. А вось як launch ператрываць жывым? Мюнхенская газета "Бацькаўшчына" надрукавала рэцэнзію на аповесць Аляксея Карпюка "Мая Джамалунгма", ацаніла яе вельмі высока, адзначыла рэалістычнасць, сапраўдны паказ панавання савецкага чыноўніка ў Заходняй Беларусі да і пасля вайны. Тут і пачалося! Калі вораг хваліць, значыць, льеш ваду на іх млын! Прыпомнілі, што ў 1965 годзе выказваўся ў абарону сумленнага імя паэта Міхася Васілька. Новы паклёп — "садзейнічаў нацыяналістам!". Тады ж хацелі з партыі выключыць...

На жаль, да ганення супраць Аляксея Карпюка падключыўся і нацыянальны герой Беларусі, а на той час (сярэдзіна 60-х) сакратар ЦК КПБ Сяргей Прытыцкі. У Мінскім політэхнічным інстытуце ён заявіў студэнтам: "У нас адкрытых Сіняўскіх і Даніэляў няма. У нас яны скрытыя, як Карпюк, якога пахваліла здрадніцкая "Бацькаўшчына".

Знакамітае выступленне Аляксея Нічыпаравіча на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі 13 мая 1966 года не друкавалася гадоў з дваццаць. З трыбуны празаік заявіў у прысутнасці Пятра Машэрава і шматлікіх функцыянераў ад літаратуры: "Я стаю на сваёй зямлі, ды яшчэ каб не гаварыў на ёй таго, што думаю? Навошта тады жыць!?" Баронячы сябе і Васіля Быкава, узгадаў, як на абласным партактыве таварыш Міцкевіч І. Ф. аб'явіў прысутным, што Быкава ўжо апрацоўваюць італьянскія фашысты...

Усё ж такі ў чэрвені 1972 года Аляксей Карпюк быў выключаны з членаў КПСС. Аднак дабіўся аднаўлення, прынцыпова ішоў да канца. Ва ўліковай картцы з'явіўся запіс: "...аднавіць т. Карпюка А. Н., члена КПСС з мая 1947 года. А за грубыя палітычныя памылкі аб'явіць яму строгую вымову". Гэта здарылася на пасяджэнні бюро ЦК КПБ, якое вёў Пётр Машэраў. Апошні, дарэчы, таксама пакрыўджана выказаўся, маўляў, прывязу гасцей на пленум Саюза пісьменнікаў, а вы, Карпюк, разам з Адамовічам і Быкавым, павылазіце на трыбуну і такое будзеце гаварыць, што сорамна слухаць.

Не верце, што на Беларусі не было "шасцідзесятнікаў". Мы можам ганарыцца і Аляксеем Карпюком, і Васілём Быкавым, і Алесем Адамовічам, і гродзенцам Барысам Клейнам, цяперашнім доктарам гістарычных навук, які жыве за мяжой. Яны і ёсць з тых шасцідзесятых. Нездарма гэтых людзей узгадвалі ў кантэксце з Даніэлем і Сіняўскім. Хаця да адсідкі ў лагерах не дайшло, але без працы папахадзілі, на сходах ганьбілі, нават шкло ў вокнах білі, як таму ж Васілю Быкаву.

У 1990 годзе Аляксей Карпюк надрукаваў дакументальнае эсэ "Хроніка майго пакалення" (успаміны, дзённікі, дакументы). Аўтарскія ацэнкі перажытаму суровыя, ён уключыўся ў дэміфалагізацыю вайны як грамадскай з'явы жыцця і метаду палітыкі. Унёс істотныя карэктывы ў вобраз ворага, у іншым свеце паказаў партызанскую барацьбу. Пакуль пісаў, адбыўся чарговы пленум абкама КПБ па нацыянальным пытанні. І зноў прагучала рэзкая крытыка з вуснаў першага сакратара гаркама Кампартыі Беларусі. Абвінавачанне было ў тым, што нібыта Аляксей Карпюк б'е клін паміж працоўнымі і прадстаўнікамі Савецкай улады. Абласная газета "Гродненская правда" друкавала падборкі пісьмаў ветэранаў, якія па-свойму бачылі калектывізацыю на захадзе Беларусі, дзейнасць органаў унутраных спраў падчас вывазу людзей у Сібір і г.д.

Карацей, 23 снежня 1989 года ва ўліковай картачцы члена КПСС т.Карпюка з'явілася чарговая суровая вымова. Усё пачыналася спачатку. Наперадзе чакалі суды, якія Аляксей Нічыпаравіч выйграе, баронячы свае гонар і годнасць як грамадзяніна. А 5 красавіка 1991 года напіша заяву аб выхадзе з КПСС. Да смерці застанецца крыху больш за год.

Апошні рукапіс пісьменніка называўся "Развітанне з ілюзіямі".

**Валерый ЗАДАЛЯ**

# Завецца старонкай роднаю...

## ЕЎРАПЕЙСКІЯ ДНІ СПАДЧЫНЫ Ў БЕЛАРУСІ

11—13 верасня Рэспубліка Беларусь святкавала Еўрапейскія Дні Спадчыны, якія для нашай краіны сталі ўжо традыцыйнымі. Пачынаючы з 1995 года кожны верасень на Беларусі, як, дарэчы, і па ўсёй Еўропе, адбываецца ўрачыстае ўшанаванне культурнага здабытку нашых продкаў. Гэтая акцыя мае на мэце прыцягнуць увагу як мага больш шырокага кола грамадства, кіраўнікоў дзяржаў, навукоўцаў, інтэлігенцыі да праблем, што ўзнікаюць у галіне аховы спадчыны ў кожнай краіне, да таго, якую ролю адыгрывае культурная спадчына ў выхаванні моладзі, падрастаючага пакалення ў стварэнні культурнага асяроддзя. Праблема гэтая ў нашай краіне мае асаблівае і нават выключнае значэнне. У сувязі са складанымі эканамічнымі ўмовамі нашы магчымасці даволі сціплыя, тым не менш, мы павінны падтрымліваць усе важкія ініцыятывы па захаванні культурных каштоўнасцей, распаўсюджваць іх сярод насельніцтва Беларусі. Сёлета ў праграме Еўрапейскіх Дзён Спадчыны ўведзена святкаванне 200-годдзя з дня нараджэння славутага сына Беларусі Адама Міцкевіча. Падзея шырока святкуецца ва ўсёй Еўропе, аб'ядноўваючы людзей розных поглядаў, прафесій, канфесій.

Афіцыйнае адкрыццё Еўрапейскіх Дзён Спадчыны адбылося 5 верасня ў Стакгольме. Генеральны сакратар Савета Еўропы Даніэль Таршыс зазначыў: "Выключны характар Еўрапейскіх Дзён Спадчыны не азначае, што іх уплыў адчуваецца толькі ў абмежаваны перыяд. Яны — пастаянны напамін, што спадчына належыць кожнаму і яна павінна захоўвацца і выкарыстоўвацца". Янка Купала — наша спадчына і, як заўважыў аднойчы Алег Лойка, наша будучыня. І зусім невыпадкова акурат у Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося ўрачыстае адкрыццё Еўрапейскіх Дзён Спадчыны ў нашай краіне. Жыццё прарока беларускай нацыі настолькі цесна звязана з лёсам свайго народа, з гісторыяй сваёй шматпакутнай Бацькаўшчыны, што выснова адназначная: Купала і Беларусь — непарыўныя. Духоўная, маральная, культурная каштоўнасць нашага музея — багатая і неацэнная. Фонды, асабліва рукапісны фонд песняра, даследчыя навуковыя працы і публікацыі пра яго і ягонае асяроддзе — гэта Дом Песняра, які быў створаны яго вернай паплечніцай і спадарожніцай, яго жонкай і першым дырэктарам музея Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Музей паэта — рукатворны помнік Генію, куды ўжо больш за 50 гадоў ідуць і едуць з усім абсягаў зямнога шару людзі.

Адметнай якасцю працы навукоўцаў музея з'яўляецца правядзенне шматлікіх святаў паэзіі, вечарын і літаратурных сустрэч з дзеячамі літаратуры і мастацтва. За гады іх прайшло багата. Досыць назваць хоць бы такое сузор'е імёнаў: М. Танк, В. Быкаў, Янка Брыль, С. Шушкевіч, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, М. Аўрамчык, С. Законнікаў, Б. Сачанка, Алесь Звонак, Г. Бураўкін, С. Грахоўскі, Максім Лужанін, В. Іпатава, Р. Баравікова, А. Вярцінскі, У. Някляеў, А. Разанаў, Л. Дранько-Майсюк і многія іншыя. У музеі прайшлі вечары памяці В. Таўлая, М. Гарэцкага, П. Панчанкі, І. Мележа, А. Макаёнка, Кандрата Крапівы, Р. Кашэльнікавай, П. Малчанава і многіх іншых.

У імпрэзе, прысвечанай адкрыццю Еўрапейскіх Дзён Спадчыны, бралі ўдзел навукоўцы музея і навучэнцы лінгвістычнага комплексу гімназіі-каледжа N 24 г. Мінска. З гэтай установай, якую ўзначальвае Тамара Бабіч, у музея даўнія і трывалыя сувязі. Намеснік дырэктара па выхаваўчай працы Алег Рузанаў, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Людміла Афанасьева і Фаіна Асановіч прыязна аднесліся да правядзення гэтага неардынарнага мерапрыемства. Спадчына з'яўляецца каштоўнейшай, невычэрпнай крыніцай чысціні, маральнага здабытку, этычнага і эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення. Моладзь павінна ведаць і зберагаць сваю спадчыну. Захаваем Спадчыну! Захаваем Купалу! І сёння лёсавызначальна гучаць радкі паэта, напісаныя на пачатку стагоддзя:

***Схамянайся ж ты,***
***моладзь арліна!***
***У бок другі віхры***
***веяць прымусь,***
***Бяры светач,***
***ідзі за судзьбінай,***
***Ідзі з словам святым:***
***Беларусь!***

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ**

ВЕРНІСАЖ




*Малюнкі Аркадзя Гурскага*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3560
Нумар падпісаны ў друк 17.9.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 5551/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12